7



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



**Матэрыялы і документы.**



МЕНСК
1931

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 7
ЛІПЕНЬ

МЕНСК—1931

К. Леновіч

# Крызіс у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі паглыбляецца

Амэрыка зрабілася „обетованной землей“ для ўсіх трубадураў капіталізму. Асабліва ўлюбёным каньком усіх песьняроў капіталістычнай сыстэмы была легенда аб славутай „проспэрыты“ (дабрабыт), якая *нібыта* панавала ў Амэрыцы, аж да „дэпрэсіі“, якая распачалася біржавым крахам у 1929 г., а канца якой нават найбольш оптымістычныя дасьледчыкі дагэтуль ня бачаць. Ідэолёгі і політыкі капіталізму, а таксама іх агенты ў радох рабочае клясы і соцыял-фашысты, рэформісты і опортуністы ўсіх адценьняў ахвотна езьдзілі на коніку амэрыканскай „проспэрыты“, каб сеяць ілюзіі аб „моцных падставах“ капіталістычнай стабілізацыі, аб „з'організаваным капіталізьме“, аб пераходным характары „гаспадарчых затрудненьняў“, якія пануюць у іншых капіталістычных краінах, якія зьяўляюцца нібыта „часовай перашкодай у разьвіцьці“ капіталізму.

Гаспадарчая магутнасьць Злучаных Штатаў была таксама падставай іншай памылковай тэорыі, якая таксама служыла ідэолёгічнай падставай для раду рэформістычных і опортуністычных тэорыек, ідучых па лініі „з'організаванага капіталізму“. „Тэорыя“ гэта зусім ня новая.

Уж некалькі гадоў таму назад вядомы нямецкі буржуазны экономіст Вэрнэр Зомбарт у сваім творы „Чаму няма соцыялізму ў Злучаных Штатах?“ разьвіў тэорыю „асаблівасьці“ Злучаных Штатаў, сьцьвярджаючы, што соцыялізм там немагчымы з прычыны надзвычайных умоў і адносін, пануючых у гэтай краіне і неабмежаваныя рэзэрвы сіл капіталізму, высокі жыцьцёвы ўзровень рабочых, магчымасьць узбагачэньня для паасобных рабочых, і—як вынік усяго гэтага—ня досыць выразны клясавы падзел амэрыканскага грамадзтва.

Гэта вера ў надзвычайную творчасьць і сілу амэрыканскага капіталізму, у яго нязвычайную здольнасьць перамаганьня ўсялякіх цяжкасьцяй, у яго здольнасьці забесьпячэньня ня толькі фундамантальных патрэб рабочых мас, але таксама забесьпячэньня іх жыцьцёвага комфорту і пэўнасьці заўтрашняга дня — заўсёды адзначала амэрыканскі соцыял-рэформізм. „Занадта добра жывецца амэрыканскаму работніку, ён мае замнога жыцьцёвых выгад, каб хацець рэволюцыі“ — цьвердзілі Гількіт і К-о.

Таксама правыя опортуністы, якія былі ў комуністычных радох— цяперашнія рэнэгаты леўстонаўцы, выкінутыя з партыі — зьяўляюцца гарачымі прыхільнікамі і носьбітамі гэтай рэакцыйнай легенды аб „асаблівасьці“ амэрыканскага капіталізму. У сваіх „тэзісах большасьці“ на VI зьезьдзе комуністычнай партыі Амэрыкі, які адбыўся ў сакавіку 1929 г. — г. зн. перад *формальным* „пачаткам“ цяперашняга крызісу

які страсануў амэрыканскай капіталістычнай гаспадаркай да найглыбейшых падстаў і пахіснуў веру ва ўсемагутнасьць і трываласьць амэрыканскага капіталізму, правыя пісалі:

„У Злучаных Штатах мы маем справу з магутным ростам сілы амэрыканскага імпэрыялізму і з агульнай тэхнічнай рэволюцыяй... Дэпрэсія 1928 г. не разгарнулася ў крызіс, але ператварылася ў новую хвалю роськвіту („проспэрыты“)... У Злучаных Штатах адбываецца магутнейшая рацыяналізацыя, узрост вытворчых сіл, якія можна параўнаць з другой прамысловай рэволюцыяй“.

Такія псальмы сьпявалі опортуністычныя лёкаі амэрыканскага капіталу ў апошнія тыдні славутай „проспэрыты“, а калі наступіў біржавы крах, пасьпешна сьпяшаліся супакоіць Валь-Стрээт і працоўныя масы — што крах гэты *„не зьяўляецца вынікам упадку амэрыканскай капіталістычнай гаспадаркі“* (Леўстон). Псэўда-марксысты са школы Леўстона і Пэпэра зьявіліся большымі ідэалізатарамі магутнасьцікапіталізму, чым Гэнры Форд.

Вялікае гістарычнае значэньне сучаснага гаспадарчага крызісу ў Злучаных Штатах заключаецца, галоўным чынам, у тым, што ён бязьлітасна і ўшчэнт ломіць усякія легенды аб „асаблівасьці“ і „проспэрыты“, аб неперамоўнай магутнасьці амэрыканскага капіталізму, што пад уплывам гэтага надзвычай вострага крызісу, які ўсё больш паглыбляецца ў гэтай крэпасьці сусьветнага капіталізму, лопаюць як мыльны пузыр ўсякія тэорыі аб „з'організаваным капіталізьме“, так што гэты крызіс найбольш яскрава сьведчыць аб хісткасьці капіталістычнай стабілізацыі, аб банкруцтве капіталістычнага ладу. Краіна найбольш магутнага капіталізму зрабілася краінай найбольшага экономічнага крызісу. Праслаўленая краіна найвышэйшага жыцьцёвага ўзроўню рабочых зрабілася краінай з дзесяцімільённай арміяй беспрацоўных, краінай голаду і галечы мільённых рабочых мас і фэрмэраў. Скарбніца сьвету, край, які мае надмер хлеба, гародніны, садовіны, мяса, цукру, кавы, а таксама малочных продуктаў, воўны, бавоўны, скуры і шоўку, вугалю, мэталяў і дрэва — зрабілася краінай вялізарных „хвастоў“ за бурдой і дабрачынным хлебам і філянтропійных начлежных дамоў, краінай галодных бунтаў.

Прыступаючы да ацэнкі амэрыканскага крызісу, трэба адразу зазначыць, што памылковым зьяўляецца погляд, як быццам цяперашні крызіс пачаўся вялікім біржавым крахам у кастрычніку 1929 г. Задоўга перад гэтым крахам у цэлым радзе важнейшых галін прамысловасьці былі выразныя адзнакі дэпрэсіі. Ужо ў ліпені 1929 г. „Аналіст“ сьцьвердзіў паніжэньне продукцыі сталі, прадугледжваў далейшае паніжэньне ў надыходзячыя месяцы, а 13 верасьня ўжо піша: *„Бягучая статыстыка паказвае зьмяншэньне актыўнасьці ў асноўных галінах прамысловасьці.* Зьмяншэньне колькасьці будаўнічых контрактаў, куплянньня сталі і яе цаны зьяўляюцца адзнакамі надыходзячага застою“.

Вялікі біржавы крах быў толькі праявай, адлюстраваньнем даволі далёка пасунутай „дэпрэсіі“ ў прамысловасьці ў выніку надпродукцыі. Амэрыканскі крызіс — таксама як і крызісы ва ўсіх іншых капіталістычных дзяржавах — зьяўляецца вынікам уласьцівай капіталістычнаму ладу *супярэчнасьці паміж продукцыяй і консумпцыяй.* Чым больш разьвіта тэхніка, чым далей пасунута капіталістычная рацыяналізацыя, тым больш тавараў вытвараецца і выкідаецца на рынак. Але адначасова гэта самае ўдасканаленьне тэхнікі і рацыяналізацыі ва ўмовах капіталістычнай таварнай гаспадаркі выклікае павялічэньне беспрацоўя, паніжэньне пакупной здольнасьці найшырэйшых мас насельніцтва,

зьмяншэньне консумпцыі. Ні адзін выдуманы опортуністамі розных гатункаў „з‘організаваны капіталізм, пры дапамозе ўсіх яго трэстаў, картэляў, фэдэральных бамавых сыстэм і г. д. ня ў стане пазбыцца тэй *анархіі* капіталістычнай продукцыі і супярэчнасьцяй, якія з яе вынікаюць.

*Крызіс надпродукцыі* не зьяўляецца чымсьці новым у Злучаных Штатах. Мы мелі справу з сур‘ёзнымі крызісамі ў 1885, 1894, 1896, 1908, 1914 і ў 1921 г. Нават у пэрыоды росквіту прамысловасьці бязупынна *ўзрастала беспрацоўе.* Пачынаючы ад 1910 г., ніколі ў Амэрыцы ня было *менш чым мільён беспрацоўных*, а ў сярэднім $2^1/_2$ мільёны. У гады крызісу лічба беспрацоўных хісталася паміж 4 і 8 мільёнамі, г. зн. ад 10—25% і вышэй амэрыканскага пролетарыяту (агульная лічба наёмных работнікаў у Злучаных Штатах складае крыху больш чым *32 мільёны)* зьяўляецца пастаянна без работы.

Капіталістычныя політыкі сьцьвярджаюць, што заработкі амэрыканскіх рабочых такія высокія, што дазваляюць зьберагаць на чорную гадзіну. У сапраўднасьці-ж большасьць рабочае клясы ў „багатай" Амэрыцы, за выключэньнем невялічкай колькасьці рабочай арыстократыі, зарабляе менш чым афіцыяльна ўстаноўлены жыцьцёвы мінімум. У 1927 годзе, пры наогул даволі высокай кон‘юнктуры, сярэдні гадавы заработак рабочых ва ўсіх галінах прамысловасьці складаў 1.299 доляраў, а ў 1926 годзе гадавы заработак некваліфікаванага рабочага складаў 1.184 доляры ў той час, калі мінімальны кошт утрыманьня вылічаўся ў 1.921 амэрыканскіх доляраў. Трэба адзначыць, што гэтыя лічбы вылічаны на падставе 300-дзённай работы ў працягу году, у той час, калі ў сапраўднасьці „некваліфікаваныя работнікі шчасьлівы, калі працуюць 3 або 4 дні ў тыдзень“.

Улетку 1929 г.—а, значыцца, у найвышэйшы пэрыод „проспэрыты“—аддзел працы Нью-Ёрку абсьледваў 536 рабочых сем‘яў, у якіх і жонка зарабляе, а ў справаздачы афіцыйна гаворыцца, што *„ні адна з гэтых сем‘яў ня мела даволі даходу, каб утрымаць сям‘ю з 5-ці асоб на ўзроўні наймінімальнейшых выгадаў“.* Вядомы буржуазны экономіст Ірвінг Фішэр сьцьвярджае, што „$^4/_5$ насельніцтва, або больш 90 мільёнаў людзей—ледзь зьвязваюць канец з канцом і ня ў стане адкладаць на чорную гадзіну“.

Злучаныя Штаты адначасова перажываюць магутны аграрны крызіс. Справаздача Міністэрства Зямляробства за 1928 г.—а, значыцца, год „проспэрыты“—сьцьвярджае, што фэрмэры гнуцца пад цяжарам даўгоў (агульная запазычанасьць фэрмэраў узрасла з 3.172 мільёнаў доляраў у 1910 г. і 7.858 млн. у 1920 г. да 9.469 млн. доляраў у 1928 г.).

Дык вось як выглядала выхваляная песьнярамі капіталізму „проспэрыты“, якая была прадметам тугі капіталістаў і іх „соцыялістычных“ і рэформістычных лёкаяў і опортуністаў ва ўсіх іншых капіталістычных краінах.

Аб ніякім істотным росквіце капіталізму ў пасьляваеннай Амэрыцы нельга гаварыць. Бо які-ж гэта „росквіт“ пры бязупынным росьце беспрацоўя, пры хронічным фэрмэрскім крызісе, пры пастаянным разьвіцьці і паглыбленьні супярэчнасьці паміж продукцыяй і консумпцыяй, пры ўсё большым згортваньні ўнутранога рынку? Можна толькі гаварыць аб частковым павышэньні кон‘юнктуры, аб пэўным паляпшэньні ў некаторых галінах прамысловасьці (у пэрыод так званай „проспэрыты“), прычым пэрыоды лепшай кон‘юнктуры зьмя-

ніліся пэрыодамі дэпрэсіі, частковае-ж паляпшэньне — завостраным крызісам.

„Аналіст“ у сваёй ацэнцы гаспадарчай сытуацыі за мінулы 1930 г. сьцьвярджае, што гаспадарчы паказальнік атрымаў у сьнежні м. г. *найніжэйшы пункт у працягу апошніх 50 год*. Параўноўваючы шэсьць год найніжэйшага ўпадку гаспадарчага жыцьця ў працягу апошніх 50 год, выяўляецца, што паказальнік узроўню дэпрэсіі быў у:

| | | |
|---|---|---|
| лютым | 1885 | — 77 |
| чэрвені | 1894 | — 72 |
| лістападзе | 1896 | — 78 |
| сакавіку | 1908 | — 76 |
| лістападзе | 1914 | — 81 |
| сакавіку | 1921 | — 82 |
| сьнежні | 1930 | — 75,7 |

Пры гэтым „Аналіст“, маючы на ўвазе сваё капіталістычнае пасланьніцтва, угаварвае сваіх чытачоў, паводле пагаворкі, што „жаданьне зьяўляецца бацькам мысьлі“, што крызіс ужо дасягнуў свайго кульмінацыйнага пункту, пасьля чаго павінен наступіць... „зварот да нормальнага стану“. „Даказваецца“ гэта пры дапамозе нясур'ёзнага труку з лічбамі і своеасаблівай дэдукцыі: бо, бачыце, у адным з памянёных 6 выпадкаў гэты „зварот“ працягваўся 17 месяцаў, у іншым 13, або 15, або 10 і 19 месяцаў, а, значыцца... „Аналіст“ “прадбачыць“ у *1932 г.* (не раней) і на гэты раз зварот да „нормальнага“ стану. Але гэта зноў арыя з іншай опэры, а іменна з „афіцыяльнага оптымізму“, які зьяўляюцца вельмі непераконваючым нават для яго профэсіянальных пашыральнікаў. Факт фактам, што *крызіс атрымаў нячуваную глыбіню*.

Наступная параўнаўчая табліца паказальнікаў „Аналіста“ (гл. на стар. 7), якая ахоплівае ўсю „гаспадарчую дзейнасьць“, паказвае тэндэнцыю паніжэньня—хаця „няроўнамерную“—капіталістычнай гаспадаркі і асаблівую вострасьць сучаснага крызісу ў Злучаных Штатах.

Параўноўваючы, напрыклад, вытворчасьць сталі, аўтомобіляў лёгкіх і грузавых, а таксама вагонных грузаў за паасобныя месяцы 1929 і 1930 г., мы бачым пастаяннае паніжэньне продукцыі загрузак.

Спробы сталёвага трэсту штучна выклікаць павышэньне вырабу сталі пры дапамозе контролю і маніпуляцыі цэн давялі да яшчэ больш хаотычнай сытуацыі і да паніжэньня паказальніку гэтага вырабу. Становішча ў сталёвай прамысловасьці адлюстроўвае становішча ўсіх іншых асноўных галін прамысловасьці: пабудова машын, будаўніцтва аўтомобільнай прамысловасьці, чыгункі, караблі і г. д.

Што-ж мы бачым у сталёвай прамысловасьці? У 1930 г. было выраблена каля 40 млн. тон сталі (дакладныя даныя яшчэ не агалошаны), а ў 1929 г. было амаль 55 млн. тон, а ў 1928 больш 50 мільёнаў, а, значыць, вытворчасьць сталі ў мінулым годзе зьменшылася параўнальна з мін. годам на 27%, а параўнальна з 1928 на 20%. Вельмі цікава, што гэта паніжэньне ня ёсьць роўнамернае ў працягу ўсяго цэлага году. У той час, калі ў першым паўгодзьдзі выраблена 24 млн. тон, дык у другім паўгодзьдзі 1930 г. толькі 16 мільёнаў, а, значыць, паніжэньне дасягнула 33%. У сьнежні выраб сталі дасягае да 35% сваёй прапускной здольнасьці параўнальна з 45% у лістападзе і звыш 50% у кастрычніку.

| | 1919 | 1920 | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Студзень . | 103,4 | 111,3 | 82,4 | 87,1 | 108,1 | 104,0 | 102,4 | 102,3 | 102,2 | 98,0 | 105,5 | 95,0 | 74,4[1] |
| Люты . . . | 97,9 | 111,3 | 82,2 | 91,1 | 108,1 | 105,0 | 102,9 | 103,2 | 104,7 | 99,7 | 106,1 | 94,8 | 74,5[1] |
| Сакавік . . | 96,9 | 114,9 | 81,6 | 94,5 | 111,0 | 102,8 | 102,6 | 104,7 | 106,9 | 99,4 | 104,3 | 91,8 | |
| Красавік . | 98,9 | 118,8 | 82,5 | 89,2 | 114,2 | 99,3 | 103,4 | 103,7 | 104,4 | 99,9 | 108,8 | 95,1 | |
| Май . . . | 100,2 | 110,0 | 85,3 | 93,4 | 115,0 | 92,4 | 101,4 | 101,6 | 104,8 | 101,3 | 110,1 | 90,1 | |
| Чэрвень . | 103,0 | 113,6 | 85,1 | 98,7 | 111,8 | 86,9 | 98,5 | 103,2 | 103,4 | 98,7 | 108,9 | 89,1 | |
| Ліпень . . | 110,9 | 111,5 | 83,6 | 97,4 | 110,8 | 86,8 | 102,1 | 102,8 | 101,5 | 100,5 | 109,9 | 86,3 | |
| Жнівень . | 108,3 | 110,5 | 85,2 | 96,1 | 107,5 | 89,8 | 100,7 | 105,0 | 101,8 | 102,1 | 108,1 | 83,1 | |
| Верасень . | 108,6 | 106,2 | 85,5 | 98,1 | 105,8 | 95,7 | 100,8 | 107,1 | 100,9 | 102,4 | 107,3 | 82,4 | |
| Кастрычн. | 104,2 | 100,0 | 88,8 | 101,4 | 103,7 | 97,7 | 102,1 | 105,7 | 98,2 | 105,0 | 105,7 | 79,5 | |
| Лістапад . | 106,3 | 94,2 | 86,7 | 106,0 | 103,0 | 97,4 | 104,0 | 105,7 | 95,5 | 103,7 | 96,9 | 75,9 | |
| Сьнежань . | 108,4 | 90,0 | 86,3 | 108,8 | 100,8 | 101,5 | 105,8 | 105,0 | 93,7 | 102,0 | 92,1 | 75,7[1] | |

[1] Падлягае праверцы.

Аб стане чыгунак, якія зьяўляюцца найбольш сур'ёзным спажыўцом сталёвай прамысловасьці, прэзыдэнт чыгуначнай лініі Вільярд гаворыць наступнае:

„У працягу 30 год да 1930 г. чыгуначныя грузы павялічваліся ад *60—80%* у працягу кожнай дэкады, але ў 1929 узрост дасягнуў ледзь 8%, а на ўсход ад Місісіпі ніякага ўзросту ня было. Да 1920 г. пасажырскі рух, акрэсьлены колькасьцю зробленых міль (1 ангельская міля—1.6 км), павялічваўся ў большай ступені чым перавозка тавараў, але ў працягу апошніх *10 год* пасажырскі рух панізіўся на 34%. Відавочна чыгунка перастае расьці, або разьвіваецца ў надзвычай павольным тэмпе.

Амэрыка мае вялікі лішак грузавых вагонаў у добрым стане, а загрузка ўсё паніжаецца. У кастрычніку 1930 г. было на 20% менш грузаў чым у 1929 г. Адначасова заработкі Чыгуначнай Кампаніі паменшыліся ў 1930 г. на 30%, а з гэтай прычыны попыт на сталь яшчэ больш зьмяншаецца.

Паляпшэньне сытуацыі можа наступіць толькі тады, калі палепшыцца становішча ў тых галінах прамысловасьці, якія купляюць сталь. Але становішча чыгуначнага транспорту, аўтомобільнай прамысловасьці, уключаючы пабудову мастоў, будаўніцтва, якія спажываюць 51,72% усёй продукцыі сталі, зусім не падаюць надзеі ажыўленьня сталёвай вытворчасьці. Пры надзвычайным узросьце продукцыйнай здольнасьці сталёвай прамысловасьці і аднačасовым зьмяншэньні попыту, няўхільным зьяўляецца ўзмацненьне барацьбы за замежныя рынкі, але гэта самае зьявішча ўласьціва і ўсім іншым краінам, выпрабляючым сталь. А, значыць, сталёвая прамысловасьць шукае выхаду з крызісу ў вайне, якая надзвычай павышае попыт на сталь.

У аўтомобільнай прамысловасьці ўпадак продукцыі за 1930 год складае амаль 40% у параўнаньні з 1929 годам (3.300.000 машын у 1930 г. параўнальна з 5.358 тысяч у 1929 г.). І тут варта адзначыць, што ў першым паўгодзьдзі выраблена каля $^2/_3$ усёй продукцыі (2.217.000 машын), у той час, як у другім паўгодзьдзі каля $^1/_3$ (1.335.000 машын). Такое самае паступовае зьмяншэньне продукцыі ў працягу 1930 г. мела месца ў будаўніцтве, выпрацоўцы электраэнэргіі, у таварным руху цягнікоў і г. д. Крызіс у будаўніцтве ўсё больш паглыбляецца, ня гледзячы на намаганьні прэзыдэнта Гувэра і ўсіх губарнатараў, каб пры дапамозе будаўніцтва „ліквідаваць“ крызіс. Уласьціва ўпадак будаўніцтва пачаўся ўжо ў 1925 г., але агульны гаспадарчы крызіс, беспрацоўе і няздольнасьць шырокіх мас насельніцтва ўносіць кватэрную плату, павялічылі крызіс у будаўніцтве. Урадавыя бюро статыстыкі працы паведамляюць, што колькасьць дазволаў для будаўнічых работ у 1930 г. паменшылася на 53%, а ў адносінах да жыльлёвых будынкаў на 73%.

Продукцыя вугалю церпіць хранічную дэпрэсію. У працягу апошняга дзесяцігодзьдзя зусім ня было „фэномэнальнай простэрыты“. Агульная продукцыя мяккага вугалю панізілася да ўзроўню 1922 году, у той час, як здабыча антрацыту зьменшылася напалову ў працягу апошніх 8 год.

Становішча ў здабычы вугалю ня можа палепшыцца без паляпшэньня агульнай здабычы. Зноў тое самае зачараванае кола супярэчнасьцяй капіталістычнай гаспадаркі.

Пераапрацоўчая прамысловасьць таксама знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане, у стане ўпадку.

Для прыкладу возьмем баваўняную прамысловасьць. Ад 1923 да 1929 году колькасьць кроснаў панізілася звыш чым на 2½ мільёны (37.409 тыс. у 1923 г. і 34.820 тыс. у 1929 г.). Калі ўзяць колькасьць работнікаў баваўнянай прамысловасьці ў 1923 г. за падставу (100), дык у 1924 г. працавала 86, а ў 1925—84, у 1926—83, у 1927—87, у 1928—79, а ў 1929 г.—набольшай „проспэрыты“—79. А ў сьнежні 1930 г. па даных міністэрства працы паказальнік баваўнянай прамысловасьці панізіўся да 64. Гэта значыць, што на кожную сотню работнікаў, занятых у баваўнянай прамысловасьці ў 1923 г. 36 было бяз працы. У 1930 абсолютная лічба работнікаў баваўнянай прамысловасьці складае звыш 404.000.

Наступная табліца „Аналіста“ за апошні квартал 1930 г. і даныя за першы квартал 1931 г. выразна паказваюць упадак гаспадарчага жыцьця багатых і магутных Злучаных Штатаў.

| | Кастрычнік. | Лістапад. | Сьнежань. |
|---|---|---|---|
| Продукцыя жалеза | 68,1 | 60,6 | 53,5 |
| Продукцыя сталі | 61,1 | 56,8 | 50,0 |
| Загрузка таварных вагонаў | 83,9 | 80,1 | 80,0 |
| Продукцыя электрычнай сілы | 88,6 | 85,3 | 84,7 |
| Продукцыя мяккага вугалю | 85,0 | 84,9 | 85,5 |
| Выраб аўтомобіляў | 47,3 | 64,3 | 86,0 |
| Консумпцыя воўны | 80,5 | 67,0 | — |
| Выраб абутку | 82,1 | 70,5 | — |
| Консумпцыя бавоўны | 72,8 | 72,0 | 71,4 |
| Продукцыя цынку | 83,2 | 65,2 | 63,6 |
| Агульны паказальнік | 79,5 | 75,9 | 75,7 |

Малюнак даволі распачлівы і пагражаючы для капіталістаў і песьняроў „фэномэнальнай“ амэрыканскай сыстэмы.

Асаблівасьцю сучаснага крызісу сусьветнай капіталістычнай гаспадаркі зьяўляецца, паміж іншым, і тое, што прамысловы крызіс (а таксама ў галіне гандлю і фінансаў) ідзе ў пары з нячувана вострым аграрным *зямельным крызісам*. Гэта адносіцца цалкам, зразумела, і да амэрыканскага крызісу. Аграрны крызіс у Злучаных Штатах усё больш завастраецца. Паводле бюлетэню цэн ангельскага экономічнага часопісу цэны пшаніцы панізіліся за год, лічачы ад 24/X-1929 г. да 23/X-1930 г. на 33%, а цана бавоўны на 52%. 11 лістапада мінулага году пшаніца прадавалася па цане менш 70 цэнтаў за бушэль. Гэта найніжэйшая цана ад 1902 г. Індэкс цэн зямельных продуктаў „Аналіста“ паказаў у кастрычніку 1920 г. 110.8, калі ў параўнаньні са студзенем гэтага году паказальнік быў на ўзроўні 136,7, а, значыць, зьніжэньне цэн амаль на 20% ў працягу 10 месяцаў.

Самі амэрыканскія капіталісты пачынаюць ужо ўяўляць сабе, што паглыбленьне зямельнага крызісу робіцца адным з найбольш паважных фактараў завастрэньня агульнага крызісу амэрыканскага капіталізму. „Аналіст“ ад 24/X падае, што большая частка збожжа дробных фэрмэраў прадаецца з вялікай стратай. Гэта павінна было прывесьці да значнага паніжэньня пакупной сілы шырокіх фэрмэрскіх мас. Адна з кіраўнічых буржуазных статыстычных устаноў у канцы 1919 г. вылічыла, што зямельны даход за 1930 г. панізіцца на 2.400 міл. доляраў, або на 17% ніжэй, чым у 1929 г.

Фэрмэры, якія купялі або маглі-б купіць с.-г. машыны на выплату, зараз пагразьлі ў даўгох у той час, калі іх продукты прадаюцца з вялікай стратай. Чым больш крызіс завастраецца, тым больш стогнуць фэрмэры пад цяжарам гэтых сплат.

Міністэрства Земляробства Злучаных Штатаў шукае выхаду з гэтай сытуацыі ў пропагандзе зьмяншэньня тэрыторыі засеву. Але як на злосьць ураджай быў ня кепскі і ўраджай бавоўны амаль той самы як у мінулым годзе, ураджай кукурузы, ня гледзячы на засуху, толькі крыху меншы чым у мінулым годзе, а ўраджай пшаніцы нават большы. Бяручы пад увагу, што сусьветны ўраджай пшаніцы і бавоўны большы, чым у папярэднім годзе, а консумпцыя дзякуючы крызісу зьменшылася, ясна, што далейшы упадак цэн немінучы, што даходы фэрмэраў надалей будуць зьмяншацца а фэрмэрскія гаспадаркі яшчэ больш зруйнуюцца.

Найбольш адчуваюць вынікі зямельнага крызісу шырокія масы бедных фэрмэраў, і зямельны пролетарыят. Паводле даных Зямельнага дэпартамант Злучаных Штатаў заработная плата ў кастрычніку 1930 году была найніжэйшая ад 1923 году. У працягу апошніх месяцаў яшчэ больш паменшылася. Паводле даных „Бюро зямельнай эканомікі“ „падача“ рабочых рук на фэрмах на $40\%$ большая, чым запатрабаваньне. У паўночна-атлянтыцкіх Штатах на $24\%$ больш, у паўднёва-цэнтральных Штатах на $49\%$ больш. 1 кастрычніка заработная плата зямельных работнікаў была на $7\%$ ніжэй чым у ліпені, і на $16\%$ ніжэй чым у кастрычніку 1929 году. Банкавы бюлетэнь у ліпені 1920 г. падаў, што ў некаторых частках паўднёвых Штатаў заработкі (галодныя, нявольніцкія — Л. Е.) работнікаў нэграў на баваўняных плянтацыях складаюць палову мінулагодніх. Дзікія, злачынныя оргіі і лінчаваньні, якія павялічваюцца ў сувязі з завастрэньнем крызісу, зьяўляюцца сродкам „самацыйным“ надзвычай „цывілізаванай“ белай амэрыканскай буржуазіі і плянтатараў, купцоў, банкіраў, каб прымусіць да паслуханьня мільённыя масы работнікаў-нэграў і паўпрыгоньніцкіх фэрмэраў, каб яны спакойна зносілі ўзмоцненую эксплёатацыю ў інтарэсах капіталістычнай нажывы.

Найбольш пагражаючым вынікам крызісу для працоўных мас зьяўляецца проста катастрофічных разьмераў беспрацоўе і шалёны ўпадак жыцьцёвага ўзроўню рабочай клясы і шырокіх фэрмэрскіх мас. Дакладна ўстанавіць лічбу беспрацоўных у Амэрыцы немагчыма, бо ўрад і статыстычныя ўстановы вядуць страўсавую палітыку „няпрызнаваньня“ гэтага грамадзкага няшчасьця, або ў найгоршым выпадку, калі не ўдаецца ўтаіць факты штучнага зьмяншэньня колькасьці беспрацоўных у офіцыяльных справаздачах. У гэтым фальшаваньні сумнай рэчаіснасьці капіталістам дзейна дапамагаюць фашысцкія прадстаўнікі з амэрыканскай фэдэрацыі Працы. Аднак, можна на радзе комбінаваных вылічэньняў сьцьвярджаць, што цяпер Злучаныя Штаты маюць ад 9 да 10 млн. цалкам беспрацоўных, а значна больш паўпрацуючых. Паказальнікам Міністэрства Працы наконт занятых на фабрыках у 1929 годзе было 97.5. Паводле сьпісу насельніцтва фабрыкі тады займалі 8.742.761 рабочых. У сьнежні 1930 г. паказальнік панізіўся да ўзроўню 75.1, г. зн. нас $23\%$. Гэта значыць, што беспрацоўе толькі сярод фабрычных работнікаў павялічылася больш чым на 2 мільёны. Агульная лічба наёмных рабочых вылічваецца ў 32 міліёны зьлішкам. Калі дастасаваць да яе той самы паказальнік, што да фабрычных работнікаў, г. зн. $23\%$ узросту беспрацоўя, дык убачым, што лік беспрацоўных у часе крызісу павялічыўся на 7,4 мільёна. Сюды не ўваходзяць

спаўпэрызаваныя фэрмэры і значная частка прыватных чыноўнікаў. Калі прымем пад увагу, што ў найлепшыя часы ў багатай Амэрыцы было 1-1½ мільёны беспрацоўных (у сярэднім 2-2½ мільёны), дык прыблізная лічба—9-10 мільёнаў ня будзе пераўвялічанай.

Яшчэ горш прадстаўляецца справа жыцьцёвага ўзроўню і пакупной здольнасьці працоўных мас. Паводле сьпісу 1929 г. выплачана ўсім фабрычным рабочым у Амэрыцы 11.422 мільёны доляраў. Паказальнікам міністэрства працы сярэдняй выплаты за 1929 г. быў 100,4. А ў сьнежні 1930 г. паказальнік панізіўся да 67,4. Рабочыя заработкі паменшыліся, значыцца, на 33%, а ў абсолютных лічбах зьмяншэньне гэта выяўляецца ў 3.769 мільёнаў доляраў. Гэта датычыць выключна фабрычных работнікаў, якія складаюць амаль што ¼ усіх рабочых і служачых. Рабочыя заработкі зьменшыліся на 10% больш, чым колькасьць занятых. Гэта значыць, што заработкі занятых рабочых былі абрэзаны прынамсі на 10—15%, інакш агульная сума заработнае платы не магла-б зьменшыцца на 10% болш, чым колькасьць занятых на рабоце. Нават „Аналіст“ сьцьвярджае, што зьмяншэньне рабочай платы і пэнсіі служачых складае прынамсі мільярд доляраў штомесячна. Фактычна-ж на 20—25% больш.

Што-ж датычыць фэрмэраў, дык міністэрства земляробства ацэньвае зьмяншэньне іх даходаў на 2½ мільярды доляраў. Пры тым бярэцца пад увагу толькі вартасьць ураджаю, ня гледзячы на шалёнае паніжэньне іншых фэрмэрскіх даходаў.

Зьмяншэньне пакупной здольнасьці насельніцтва Злучаных Штатаў дасягае грандыёзьнейшай сумы: амаль што 18—20 мільярдаў доляраў. (12—15 мільярдаў сярод пролетарыяту, мінімальна 2,5—3 мільярды ў фэрмэраў і прыблізна толькі-ж сярод дробнага мяшчанства).

З гэтай прычыны продаж харчовых продуктаў зьменшыўся ў 1930 годзе на 15%, а продаж адзеньня, хатніх рэчаў, мэблі і г. д. звыш чым на 30%. Запасы непраданых тавараў усё павялічваюцца, паміма зьмяншэньня продукцыі. Цэны (гуртовыя) падаюць. Такое становішча выклікала падаражэньне крэдытнай сыстэмы „сусьветнага банкіра“, якім лічаць Амэрыку. Пачалася эпідэмія банкавых крахаў. У лістападзе мін. году збанкрутавала 236 банкаў з укладамі на 204 мільёны доляраў. Наогул за 11 месяцаў 1930 г. збанкрутавала 956 банкаў з укладамі звыш 515 мільёнаў доляраў. А ў сьнежні збанкрутавала значная колькасьць банкаў, сярод якіх 3 найбольшыя банкі мелі звыш 200 мільёнаў укладаў. Колькасьць банкавых банкруцтваў (каля 1.100) і сума дэпозытаў, ахопленая гэтымі банкруцтвамі (каля 300 мільёнаў), перавышае ў тры разы найгоршы ў гэтых адносінах 1926 год. Пры такой сытуацыі новы біржавы крах на Валь-Стрээт можа быць чаканы ў недалёкім будучым.

Па меры звужэньня ўнутранога рынку ўсё большае значэньне набывае для амэрыканскага капіталу барацьба за замежныя рынкі, асабліва пытаньне экспорту гатовых фабрыкатаў. Але сусьветны крызіс нанёс цяжкі ўдар амэрыканскаму экспорту. У 1930 г. амэрыканскі экспорт быў каля 1,5 мільярда доляраў менш (26%) чым у папярэднім годзе. У працягу першых 8 месяцаў 1930 году экспорт фабрыкатаў панізіўся на 22%, аўтомобіляў на 60%, сталі і жалеза на 28,9% параўнальна з тым-жа пэрыодам папярэдняга году. Паміж Штатамі і Англіяй, у першую чаргу, і Францыяй, Нямеччынай і Італіяй вядзецца вострая барацьба за рынкі збыту. Паўстаньні і коленіяльныя войны ў Кітаі, Індыі і Паўднёвай Амэрыцы, а таксама існаваньне і ўзрост гаспадарчай магутнасьці Савецкага Саюзу на паверхні ⅙ зямное кулі—

зьяўляюцца таксама сур'ёзнымі фактарамі звужэньня экспортных рынкаў для амэрыканскага капіталу, паніжэньне экспортных магчымасьцяй. Непасрэдным вынікам гэтага становішча зьяўляюцца ўзмоцненыя ўзброеньні, дзейны ўдзел амэрыканскага імпэрыялізму ў рэволюцыях Паўднёвай Амэрыкі, узмоцненая антысавецкая дзейнасьць, узрастаючая небясьпека вайны.

Гаспадарчы крызіс давёў ужо да так званага псыхолёгічнага крызісу ў некаторых сфэрах амэрыканскай буржуазіі, асабліва сярэдніх яе колаў. Характэрным зьяўляецца выступленьне аднаго профэсара-антрополёга на конфэрэнцыі амэрыканскага Навуковага Таварыства, які цьвердзіў, што „капіталістычны лад... паказвае яўныя адзнакі разлажэньня", што ён вядзе да „самагубства, вайны", што „ня можа ён надалей існаваць".

Амэрыканская буржуазія шукае выхаду з крызісу ва ўзмоцненых атаках на рабочую клясу, у забойчай рацыяналізацыі і прыгонах пры працы, у пазбаўленьні беспрацоўных нават тых нікчэмных рэштак „страхавога забесьпячэньня", якія ім ўдалося яшчэ ўтрымаць рабочым у некаторых эўропейскіх дзяржавах; ва ўзмоцненым тэроры ў адносінах да змагаючыхся рабочых і фэрмэраў; у фашызацыі дзяржаўнай улады, у нагонцы і дыакрамінацыі супроць работнікаў з іншых краін, і лінчаваньні нэграў з мэтай разьбіваньня рабочае клясы; у антысавецкай дзейнасьці, у падрыхтаваньні вайны.

А рабочыя масы радыкалізуюцца ўсё больш. Расьце іх баявая актыўнасьць і шукаюць выхаду з крызісу ў барацьбе з капіталістычнай сыстэмай, у пролетарскай рэволюцыі. Магутныя выступленьні беспрацоўных 6 сакавіка 1930 году (звыш 1 мільёну), грандыёзныя першамайскія дэмонстрацыі, кампанія забесьпячэньня для беспрацоўных у студзені і лютым, пры якой $1^1/_2$ мільёна рабочых і фэрмэраў падтрымалі патрабаваньні комуністычнай партыі наконт страхаваньня ад беспрацоўя, прычым каля 400.000 дэмонстравалі па вуліцах прамысловых цэнтраў, б'ючыся нараз з паліцыяй, вашынгтонская конфэрэнцыя ў абарону неўраджэнцаў Амэрыкі, баявыя дэмонстрацыі ў абарону СССР і г. д.—зьяўляюцца доказам устрастаючай радыкалізацыі мас, узросту іх баяздольнасьці.

Абмяркоўваючы амэрыканскія пытаньні, тав. Сталін зазначыў, што „Амэрыканская компартыя ёсьць аднэй з нямногіх на сьвеце, на якую гісторыя ўсклала задачы рашаючай важнасьці". У сувязі з гэтым маскоўская „Правда" ад 15/VII-1930 г. прявільна зазначае:

„Магчымасьці, якія стаяць перад комуністычнай партыяй Амэрыкі, сярод магутнага 30-мільённага пролетарыяту і з „організаванай арміяй эксплёатаваных і зруйнаваных фэрмэраў—будуць залежыць ад дзейнасьці і энэргіі самой партыі... Партыя можа і павінна паставіць перад сабой задачу ўзмацненьня міжнароднай пролетарскай рэволюцыі такім чынам, каб рэволюцыйны рух амэрыканскіх рабочых мас знаходзіўся ў першых радох сусьветнай рэволюцыі і стаць на адным узроўні з рэволюцыйным рабочым рухам у Нямеччыне, Кітаі і Польшчы".

Компартыя Амэрыкі пасьля ачысткі сваіх радоў ад леўстонаўскіх і трацкісцкіх опортуністаў, вядучы непахісную барацьбу на два фронты, а асабліва супроць правай небясьпекі, як галоўнай на даным этапе—стала ўжо на шлях, які вядзе да перамогі.

А. Зюзькоў

# Аб Кастрычніку і грамадзянскай вайне на Беларусі

Кастрычнік зьвязаў у адзін моцны вузел усе пытаньні папярэдняй гісторыі і даў шляхі далейшаму яе разьвіцьцю. На „растлумачэньне“ гэтага этапу ня мала паклалі працы і вялікадзяржаўныя шовіністы, і нацыянал-дэмократы. Ад гэтага вузлавога этапу ідуць шмат якія тлумачэньні і адных і другіх ня толькі гісторыі пазьнейшых часоў, але і сучаснай політыкі партыі. Пагэтаму наша тлумачэньне Кастрычніка павінна быць ясным, дасканальным, без застаўленьня якіх-бы там ня было лазеяк для нашых ворагаў. З гэтага пункту погляду мы і разгледзім выпушчаную ў мінулым годзе кнігу т. Шчарбакова „Кастрычнікавая Рэволюцыя на Беларусі і бела-польская окупацыя“, Менск, БДВ, 1930 г.

Кніга вышла ў ліпені, у самы разгар барацьбы з нацдэмаўшчынай. Яна ў шмат якіх мясцох поўна крытыкай нацдэмаўшчыны, поўна слоў аб тым, што нацдэмы няправільна тлумачаць гісторыю Кастрычніка. Але за гэтымі словамі мы не павінны забываць і сутнасьці справы, бо словы могуць застацца словамі, а схэма, высьвятленьне фактаў, будзе сьцьвярджаць процілеглыя погляды. Калі мы з гэтага пункту погляду падыйдзем да брошуры тав. Шчарбакова, дык яна ні ў якім разе ня зможа нас задаволіць.

Раней, як даказаць правільнасьць гэтай думкі, застановімся на некаторых палажэньнях вялікадзяржаўнага і нацдэмаўскага характару па асьвятленьні Кастрычніка на Беларусі. Гэта неабходна тым больш, што пытаньне аб асьвятленьні Кастрычніка ў варажай нам літаратуры спэцыяльна нікім не разьбіралася, а бяз гэтага нельга ўсьвядоміць сабе памылкі тав. Шчарбакова. Пры гэтым агаворваемся, што мы будзем разьбіраць толькі некаторыя палажэньні, не прэтэндуючы на паўнату ахопу ўсёй мэтодолёгіі нацдэмаўшчыны і вялікадзяржаўнікаў у галіне гісторыі, бо мы вельмі далёка адыйшлі-б ад тэмы.

Мы знойдзем у мэтодолёгіі абедзьвюх варожых нам плыняў агульныя палажэньні. Карэньні і прычыны гэтага мы тут закранаць ня будзем. Такімі палажэньнямі будуць іх пункты погляду, што рабочая кляса Беларусі, па-першае, вельмі адсталая, прычым гэту адсталасьць выводзяць з параўнаньня прамысловасьці Беларусі не наогул з прамысловасьцю Расіі, а з параўнаньня з самымі перадавымі прадпрыемствамі Расіі. „На Беларусі ня было ні Пуцілаўцаў, ні паўднёвых мэталюргічных заводаў-гігантаў — вось довад за слабасьць і адсталасьць рабочай клясы на Беларусі. Такое параўнаньне не навуковае, нікуды ня вартае. Ня будзем спрачацца наконт таго, што орга-

нічная пабудова капіталу на Беларусі была ніжэй, чымся ў Расіі, што прамысловасьць тут больш дробная, але розьніца паміж прамысловасьцю Беларусі і Расіі значна меншая, як паміж прамысловасьцю Беларусі і Ленінграду, ці, яшчэ горш, Беларусі і Пуцілаўца. Што датычыцца вядучай ролі гігантаў, дык трэба не забывацца, што Беларусь ня была кітайскімі сьценамі агароджана ад таго-ж Пуцілаўца, ад Данбасу і г. д. Шуканьне абавязкова тут, у Беларусі, заводаў-гігантаў ёсьць вынік таго-ж самага наццэмаўскага адмежаваньня, наццэмаўскага разгляду Беларусі бяз усякай сувязі з Расіяй і іншымі краінамі.

Другое палажэньне аб рабочай клясе Беларусі ёсьць тое, што рабочая кляса за час вайны была разбурана, прычым гэта разбурэньне расцэньвалася, як поўная адсутнасьць рабочай клясы ў Беларусі. Мо' гэта і дало „права“ ніводнаму „гісторыку“ не заняцца пытаньнем колькасьці рабочых хоць-бы ў Менску і іншых вялікіх гарадох Беларусі? Простае сьцвярджэньне аб разбуранасьці пролетарыяту Беларусі— і ніякіх далейшых досьледаў. А з гэтага палажэньня вялікадзяржаўнікі выводзілі вынік, што пролетарскую рэволюцыю на Беларусі рабіў салдат фронту, ён вёў за сабою сялянства з гэтых мясцовасьцяй. Супроць гэтага ня будзе супярэчыць і наццэм, толькі ён працягне гэтае палажэньне да яго лёгічнага выніку: а пасьля дэмобілізацыі арміі, хто застаўся праводзіць дыктатуру пролетарыяту, калі ня было пролетарыяту ў самой Беларусі? Адсюль абгрунтаваньне наццэмаўскіх лёзунгаў аб сялянскай рэволюцыі ў Беларусі, патрабаваньне дыктатуры сялянства, чым і прыкрываліся спробы буржуазнай рэстаўрацыі.

Цяпер паглядзім некаторыя асаблівыя мэтодолёгічныя падыходы да асьвятленьня Кастрычніка ў тых і другіх.

Вялікадзяржаўнікі падыходзяць да разбору гісторыі Беларусі, як тэрыторыяльнага працягу гісторыі Расіі, не зьвяртаючы ўвагі на тыя асаблівасьці, якія адрозьніваюць адну краіну ад другой.

Наццэмы, у процілегласьць першым, разглядаюць Беларусь ізолявана ад Расіі, не закранаючы тых сувязяй, якія зьвязваюць гэтыя дзьве краіны. А гэта вядзе да тых-жа лёзунгаў „дыктатуры сялянства“, аб якіх мы вышэй гаварылі.

Дзякуючы гэтаму падыходу ні тыя ні другія не маглі адказаць на шмат пытаньняў, якія ставіць перад намі гісторыя. Каб унікнуць гэтых пытаньняў, прыцягваюцца факты „за вушы“, спэцыяльна падбіраюцца гэтыя факты толькі з свайго пункту погляду, прыцягваецца такое „марксыцкае“ тлумачэньне гісторыі, як „выпадковасьць“ і г. д. Калі да гісторыі падыходзіць марксыст-гісторык, дык ён павінен адкінуць гэтую схэму, гэты падыход да гісторыі. А другое патрабаваньне, якое мы прад'яўляем марксысту-гісторыку — гэта даць адказы на варожыя нам установкі ня толькі з боку простага сьцьверджаньня, што „белае ёсьць белае“, наццэмы—„ворагі Саветаў“, ня толькі паказаць *факты* контррэволюцыйнасьці наццэмаў, але усёй сваёй схэмай, усёй сваёй работай паказаць, што толькі марксыцкі мэтод дае магчымасьць адказаць на ўсе пытаньні гісторыі. У іншым выпадку гісторык ня зможа выйсьці з супярэчнасьцяй, якія будуць няўхільны ў яго рабоце.

Ці адказвае гэтым запатрабаваньням кніга тав. Шчарбакова? Трэба адказаць, што не адказвае.

Аб наццэмократах тав. Шчарбаков піша шмат, імкнецпа ён паказаць і іх контррэволюцыйнасьць, але ён ня прыкмеціў, што карыстаецца іх зброяй, іх схэмай, іх палажэньнем. Таму ўсё яго словы аб наццэмах застаюцца вельмі непераканаўчымі, застаюцца проста словамі.

Перад тым як паказаць на факце вышэйпаданае, неабходна адзначыць, што на ўсім працягу кнігі, дзе шмат гаворыцца і аб сучасным становішчы Беларусі, тав. Шчарбакоў амаль ні слова не сказаў аб вялікадзяржаўным шовінізьме. А калі ў адным месцы ён і ўспамінае аб „вялікадзяржаўных памылках КП(б)Б", то ўсьлед за нацдэмамі называе шовінізмам тое, што было правільнай палітыкай партыі. Аб гэтым мы яшчэ будзем гаварыць ніжэй, а цяпер толькі неабходна спытаць тав. Шчарбакова: ці можна разглядзець гісторыю Беларусі за чатыры гады і не сказаць аб тым, супроць чаго так шмат прыходзілася весьці барацьбу. Ня трэба забывацца, што партыя ня толькі на XVI Зьезьдзе ставіла пытаньне аб двух ухілах у нацыянальным пытаньні! Гэта гаварылася і шмат раней. Нечым гэта выклікалася, нейкія падставы былі для таго, каб партыя, каб Ленін вялі барацьбу з вялікадзяржаўнымі тэндэнцыямі, з ухіламі. Няўжо ў Беларусі гэтага ўхілу ня было?

Там, дзе Шчарбакоў паказвае на памылкі КП(б)Б [1]) у нацыянальным пытаньньні, дык ён прыводзіць наступны прыклад гэтых памылак: адлучэньне Віцебскай, Магілеўскай і Смаленскай губ. і гор. Гомелю ад БССР у 1919 г. Ці зьяўляецца гэта сапраўды памылкай КП(б)Б? Тут проста тав. Шчарбакоў не разумее тых суадносін, якія існавалі паміж рознымі савецкімі рэспублікамі да злучэньня іх у Савецкі Саюз. Усьлед за нацдэмамі ён паўтарае, што гэта было прычынай заняцьця Беларусі белапалякамі, бо БССР была „абясьсілена" гэтым аддзяленьнем. Паглядзімо ці сапраўды гэта так?

Якія факты мы ня возьмем, яны абвяргаюць гэту вузканацыяналістычную ўстаноўку. Аддзяленьне ад Беларусі паказаных вышэй мясцовасьцяй ніяк не магло аслабіць, у якіх-бы там ні было адносінах, Беларусь. Возьмем факты: Віцебская парторганізацыя ўжо пасьля адлучэньня ад Беларусі мобілізавала на Заходні фронт супроць белапалякаў 50 проц. усёй партыйнай арганізацыі [2]), пасьля яшчэ дадаткова мобілізавала 15 проц. парторганізацыі, 20 проц. членаў профсаюзу і 25 проц. комсамольскай арганізацыі. Петраград (Ленінград), Ноўгарад, Бранск, Смаленск, Магілеў, Казань і г. д. і г. д. мобілізавалі супроць белапалякаў членаў РКП(б), КСМ, профсаюзаў, стварылі дружыны, праводзілі суботнікі дапамогі Заходняму фронту. Ці гэтыя факты кажуць аб тым, што Беларусь заставілі адну ў барацьбе супроць белапалякаў? Навошта рабіць нашу грамадзянскую вайну нацыянальнай? Вось да якіх памылак прыводзіць няправільная, нацыяналістычная ўстаноўка разглядаць рэволюцыйны рух Беларусі адмежавана ад рэволюцыйнага руху ў Расіі і іншых краінах.

Якраз у гэтым пытаньні партыя правільна паставіла асноўнае пытаньне, пытаньне дыктатуры пролетарыяту вышэй, чым нацыянальнае. Ці-ж гэта няправільна, тав. Шчарбакоў? Становішча Савецкай краіны было такім, што большую пагрозу стварылі іншыя фронты. Адтуль вораг больш пагражаў існаваньню Савецкай Рэспублікі, чым Заходні фронт. Савецкая краіна не магла зьвяртаць больш увагі на Заходні фронт, а таму стварылася пагроза, што БССР будзе занята белымі, якія паспрабуюць стварыць нешта падобнае да „БНР" і будуць патрабаваць прылучэньня да яе ўсёй тэрыторыі БССР. Такая спроба і была з боку беларускіх нацыяналістаў. Напрыклад, у дзень прыезду ў г. Менск Пілсудзкага менскія газэты вышлі з аншлягамі, якія патра-

[1]) Кніга т. Шчарбакова, стар. 89-90.

[2]) Справа „Віт. ГК". Протокол агульнага сходу РКП(б) ад 18/V-1919 г.

бавалі заняць Віцебскую, Смаленскую і Магілеўскую губ., як тэрыторыі „роднай старонкі, бацькаўшчыны“ Пілсудзкага. Прычым вельмі цікавы факт, што аб гэтым „аб'яднаньні“ „роднай“ Пілсудзкаму „старонкі“, г. зн. Беларусі, крычалі ня толькі беларускія нацыяналістычныя газэты („Звон“), але асабліва шмат крычалі расійскія, дзе сядзелі махровыя абаронцы „адзінай і недзялімай“. Гэта сьведчыць аб клясавай, контррэволюцыйнай сутнасьці гэтага патрабаваньня, а не нацыянальнай. Дык ці трэба яшчэ даваць козыры ў рукі нацыяналістам? Каб гэта папярэдзіць, ЦК РКП(б) згадзіўся з адлучэньнем. Тут, тав. Шчарбакоў, не „пагоршаньне памылак КП(б)Б у нацпытаньні“, тут партыя правяла свой асноўны тэзіс правільнай, ленінскай політыкі.

Ужо адзін гэты „недахоп“ робіць кнігу тав. Шчарбакова аднабаковай.

Паглядзімо цяпер, як удаецца тав. Шчарбакову весьці барацьбу з нацдэмократаўскімі ўстаноўкамі?

Тав. Шчарбакоў усьлед за нацдэмамі разглядае Беларусь ізолявана ад Расіі. Усьлед за нацдэмамі і вялікадзяржаўнікамі ён „распыляе“ пролетарыят Беларусі за час вайны. Да чаго даходзяць гэтыя „напляваецельскія“ адносіны да пролетарыяту Беларусі, бачна хоць-бы з наступнага месца ў кнізе тав. Шчарбакова: напярэдадні вайны „мы мелі ня менш аднаго мільёну чалавек *пролетарскіх* і поўпролетарскіх мас. *Гэта вялізная маса зьяўлялася рэзэрвам рэволюцыі*[3]).

А сюды тав. Шчарбакоў, у гэты мільён, залічыў і 86.000 фабрычных рабочых, 300.000 сельска-гаспадарчага пролетарыяту, 200.000 рамесьнікаў і 700.000 адыходзячых на заработкі сялян, у якія ўваходзіць і серадняцтва Беларусі. Значыцца—пролетарыят Беларусі толькі рэзэрв рэволюцыі? Гэта ведаеце, тав. Шчарбакоў, горш за нацдэмаўскую расстаноўку клясавых сіл у рэволюцыі 1917 году! Зьмяшаць рабочую клясу з рамесьнікамі, з серадняцтвам і ўсіх паставіць у рэзэрв — гэта новае „вынаходзтва“ ў галіне гісторыі Кастрычніка. Праўда, „вынаходзтва“ невялікае, бо такім вынаходзтвам карысталіся ўсе, хто не называў сябе марксыстам. Але хто-ж быў, тав. Шчарбакоў, авангардам рэволюцыі, якая кляса?

Хоць для тав. Шчарбакова гэта пытаньне не актуальна, бо ён усёроўна за час вайны пролетарыят „распыліў“.

Пры гэтых памылках невядома, як тав. Шчарбакоў адкажа на пытаньне, чаму была магчыма дыктатура пролетарыяту ў БССР, калі ня было тае клясы, якая праводзіла-б гэтую дыктатуру? Не забывайце, тав. Шчарбакоў, што гэта дае добрую падставу для тых, хто кажа аб дыктатуры маскоўскіх камісараў! Другое пытаньне — якія-ж гэта рабочыя выбіралі Менскі Савет Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў, Гомельскі, Віцебскі і інш.? Як гэта—пролетарыят распылены, а рабочыя засталіся?

Трэцяе пытаньне: што-ж, усе мясцовыя організацыі бальшавікоў у тыя гады складаліся з прыехаўшых з Расіі, ці можа з салдатаў фронту?

Такіх пытаньняў можна задаць сотні. Каб выблытацца з іх тав. Шчарбакоў спрабуе занадта рэволюцыянізаваць аднекуль у яго зьявіўшыхся рабочых. Раней у тав. Шчарбакова гаварылася аб адсталасьці пролетарыяту Беларусі, аб яго дробна-буржуазнасьці, раней ён у *маі* месяцы 1917 г., калі рабочыя Петраграду, Масквы яшчэ на горкім вопыце правяралі меншавікоў, аддае галасы больш паловы Менскіх рабочых за бальшавікоў! Як гэта робіцца? *Кастрычнікаўскія* выбары ў Менскі савет, калі бальшавікі атрымалі з 337 месц — 184

[3]) Кніга тав. Шчарбакова, стар. 10.

эсэры—60, меншавікі—21, Бунд—21, сіоністы—3 і 48 беспартыйных[4]), тав. Шчарбакоў пераносіць на май[5]). Тав. Шчарбакову павінна было быць вядомым, што яшчэ ў маі і нават пазьней у Менску бальшавікі знаходзіліся ў аднэй аб'яднанай організацыі з меншавікамі. Аб гэтым ён сам расказвае далей у сваёй кнізе. Як-жа тады з „майскімі“ выбарамі?

У маі аб'яднаная організацыя соцыял-дэмократаў атрымала ў выканкоме савету 23 месцы, а эсэры — 13[6]). А паколькі ў аб'яднаных організацыях былі ня толькі бальшавікі, але і меншавікі, дык нават з гэтых 23 месц ня ўсе былі бальшавікамі. Як-жа гэта мог быць прэзыдыум „толькі з бальшавікоў“, як піша тав. Шчарбакоў?[7]). Нават і пасьля Кастрычнікаўскіх выбараў у прэзыдыуме савету былі меншавікі і эсэры, але ў меншасьці[8]).

Тое-ж тав. Шчарбакоў прарабляе і з сялянствам. Другі Сялянскі Зьезд Менскай і Віленскай губ. толькі за тое, што старшынёй зьезду быў абраны тав. Міхайлаў-Фрунзэ, тав. Шчарбакоў апісвае, як „выключна бальшавіцкі“, паказвае, як прыклад рэволюцыйнасьці сялян[9]). Дрэнны прыклад. Гісторыку трэба глядзець ня толькі на выбары старшыні зьезду, а ўжо, калі няма часу праглядзець пастановы, дык лепш судзіць па выбарах Выканкому. А вось гэтага вы і не зрабілі, тав. Шчарбакоў. Зьезд то быў *цалкам эсэраўскі*: усе пастановы былі прыняты тыя, якія прапанаваліся эсэраўскай фракцыяй, у Выканком уведзены *былі* толькі эсэры, прычым толькі супроць трох была прынята пастанова, што пры выбарах ва Ўстаноўчы Сойм блёкавацца сялянскім саветам дазваляецца толькі з эсэрамі. І хоць зьезд праводзіў тав. Міхайлава-Фрунзэ перад закрыцьцем зьезду большай овацыяй, чым абраных выканкомаўцаў, але тут-жа яму было сказана, што тав. Фрунзэ не абраны у ВК, бо ён бальшавік. Як бачыце, дрэнны прыклад. А ёсьць лепшыя прыклады рэволюцыйнасьці сялянства ў Беларусі. Возьмем ліпень месяц па зьвестках Галоўнага Кіраўніцтва па справах міліцыі (сюды дадаваны і зьвесткі па газэтах). Першае месца па „зямельных правапарушэньнях“ (захопы земляў, ураджаяў, памешчыцкіх маёнткаў і г. д.) па ўсёй Расіі займае Казанская губ. *за ёю ідзе Магілеўская губ.* (74 правапарушэньні) далей Саратаўская (65), Смаленская, Менская, Віцебская і г. д. Вось лепшы прыклад рэволюцыйнасьці сялян у Беларусі!

Наогул у тав. Шчарбакова ўвесь шлях барацьбы бальшавікоў за Кастрычнік паказаны, як выключна-пераможны. Тая сапраўдная, вельмі цяжкая, напружаная праца, з паражэньнямі, адступленьнямі і слаўнымі перамогамі, якімі так характэрны шлях ад лютага да кастрычніка, у тав. Шчарбакова не паказана. Выключны трыўмф! Ужо з лютага бальшавікі вядуць за сабою масы. Толькі незразумелым застаецца пытаньне — навошта ім было аб'яднацца ў адну організацыю з меншавікамі, калі за імі ішла маса? Але-ж так паказан першы фронтавы Зьезд у першай палове красавіка 17 г. Па заяўленьні тав. Шчарбакова гэты Зьезд быў „адкрытым выступленьнем бальшавікоў“, быў „выкрыцьцем соцыял-згодніцкіх партый“ і г. д.[10]).

Возьмем успамін тав. Мясьнікова. Там ён кажа наступнае:

[4]) „Буревестник“, № 5, 1917 г.
[5]) Кніга т. Шчарбакова, стар. 20-21.
[6]) „Новое Варшавское Утро“ от 5 чэрвеня 1917 г.
[7]) Кніга т. Ш. стар. 22.
[8]) „Буревестник“ № 5 1917 г.
[9]) Кніга т. Ш. стар. 22-23.
[10]) Кніга т. Ш стар. 21.



„На гэтым зьезьдзе наша партыя ў асобе існуючай бальшавіцкай фракцыі ролі не адыгрывала. Таварышы бальшавікі, якія былі на зьезьдзе, як асобная організацыя, ролі не адыгрывалі. Мы нават фракцыі ня мелі“. [11])

Хто-ж гэта, тав. Шчарбакоў, выкрываў соцыял-згодніцкія партыі, калі бальшавікі нават сваёй фракцыі ня мелі, калі бальшавікі з гэтымі соцыял-згоднікамі прымушаны былі быць у аднэй організацыі?

Ці выпадковы ўсе гэтыя памылкі тав. Шчарбакова? Не, яны яму неабходны, каб як-небудзь выблытацца з пытаньняў, узьнікаючых перад чытачом.

Аб тым, што нельга разглядаць гісторыю Беларусі адарвана ад ўсяго сьвету, адарвана ад Расіі, ці будзе ўжо хто-небудзь цяпер спрачацца. Пролетарыят Беларусі шчыльна зьвязаны з пролетарыятам Расіі. Значная частка першага праходзіла рэволюцыйную школу на буйных прадпрыемствах Расіі і была падрыхтавана да таго, каб выстаўляць і на Беларусі тыя-ж самыя лёзунгі, якія выстаўляў пролетарыят Расіі. Як бачым, тав. Шчарбакоў, дапамога расійскага пролетарыяту адбывалася і адбываецца ня толькі шляхам грашовай дапамогі, а і передачай вопыту сваёй рэволюцыйнай барацьбы, вопыту буйных прадпрыемстваў. Пры такіх умовах ці можна гісторыю рэволюцыйнага руху пад кіраўніцтвам пролетарыяту, які так шчыльна зьвязаны з расійскім пролетарыятам, разглядаць без разгляду рэўруху Расіі, ізоляваць Беларусь так, як гэта зрабіў тав. Шчарбакоў?

Яўрэйская частка пролетарыяту, дзякуючы „черте оседлости“, ня мела рэволюцыйнага вопыту Расіі, але яна мела даволі рэволюцыйны вопыт 1905 году, яна зьвязвала, разам з польскай часткай пролетарыяту БССР, рэволюцыйны рух Беларусі з рэволюцыйным рухам Польшчы, Прыбалтыцкіх краёў. Усё гэта прымусіла рабочую клясу Беларусі праходзіць тыя этапы, якія праходзіў і пролетарыят Расіі пасьля лютага. Ня трэба было рабіць яго „занадта рэволюцыйным“, гісторыя нашай партыі і пролетарыяту і бяз гэтага дастаткова рэволюцыйна!

Цяпер застановімся на „распыленасьці“ пролетарыяту Беларусі. Возьмем Менск. Па зьвестках „Известий Минского Совета“ бачна, што на другім паседжаньні Савету 18 (5) сакавіка, г. зн. яшчэ да організацыі Савету Салдацкіх Дэпутатаў (19 сакавіка), прысутнічала 68 дэлегатаў ад 23-х буйных прадпрыемстваў гор. Менску з агульнай колькасьцю рабочых 9.189 чал. [12]) Так што, т. Шчарбакоў, у Менску было 23 прадпрыемствы, на кожнае з якіх прыходзілася ў сярэднім больш 400 рабочых. А трэба ўлічыць, што да другога паседжаньня Менсавету выбары прайшлі толькі на самых вялікіх прадпрыемствах!

Возьмем іншыя зьвесткі: на 1-га мая было організавана 20 рабочых профсаюзаў з 10 тысячамі членаў. [13]) Гэта лічба памяншаецца другой: па справаздачы ЦБ профсаюзу ў гор. Менску на 1-га чэрвеня было організавана ў профсаюзах, якія прыслалі сваіх прадстаўнікоў у ЦБ. 6,000 членаў, з якіх 1.500 чал. было служачых. Тут ня ўлічаны чыгуначнікі, ня ўлічаны беспрацоўныя, дый наогул у той час профсаюзы ахоплівалі невялікі процант рабочых свайго прадпрыемства. Нават у 1918 годзе, ужо пры савецкай уладзе, профсаюзы ахоплівалі ад 20 да 50 проц. усіх рабочых.

[11]) Стэнограма выступленьня тав. Мясьнікова на вечары ўспамінаў 30 сьнежня 1922 г.

[12]) „Новое Варшавское Утро“ № 418, за 1917 г.

[13]) „Новое Варшавское Утро“ ад 17 чэрвеня 1917 г.

Аб вялікай колькасьці рабочых у Менску ў 1917 годзе кажуць і лічбы беспрацоўных ў пачатку нямецкай окупацыі. Па даных аддзелу працы пры Менскай Думе ў гор. налічвалася ў першых лічбах красавіка 1918 г. наступная колькасьць беспрацоўных: членаў вытворчых саюзаў — да 5.000, служачых — каля 6.000. Саюз чорнарабочых, які налічваў усяго 200 членаў саюзу, спрабаваў вызначыць колькасьць беспрацоўных — чорнарабочых і налічыў некалькі тысяч.

Але-ж і гэта ня ўсё. У сувязі з абслугоўваньнем фронту на Беларусі былі створаны даволі магутныя рознага роду заводы, майстэрні як Усерасійскага Земскага Саюзу — пачыначныя, бельлявыя, пральні і г. д., так і вайсковага ведамства — рамонт артылерыйскіх гармат, чыгуначная, аўтомайстэрня і г. д. У некаторых майстэрнях было па некалькі тысяч чалавек рабочых. А бралі сюды найбольш кваліфікаваных рабочых вялікіх заводаў Расіі, сюды-ж уліваліся ў выглядзе і кваліфікаваных і чорнарабочай сілы рабочыя і Беларусі.[14]) Так, у Бабруйску на заводзе Тэхнастрою ў пачатку сьнежня 1917 г. прымала ўдзел у перавыбарах у савет 1.131 рабочы, а ўсяго на заводзе было каля паўтары тысячы рабочых[15]).

Як бачым, на Беларусі скаліся выключна добрыя абставіны да часу Кастрычнікавай рэволюцыі, якія ні ў якім разе не кажуць аб „разбуранасьці“ пролетарыяту. Разбурэньне пролетарскіх організацый за час вайны — гэта зусім ня тое, тав. Шчарбакоў, што разбурэньне пролетарыяту, калі апошнім тэрмінам карыстацца, як паказчыкам адсутнасьці тут пролетарыяту.[16])

Фронту тав. Шчарбакоў адвёў вельмі малое месца. Ён і ня прыкмеціў у сваёй тэрыторыяльнай і нацыянальнай абмежаванасьці, якую вялізарнейшую ролю адыгрываў фронт з яго шматмільённай (праўда, не 5-ці мільёнай, як кажа т. Шчарбакоў) масай салдат. Таксама няправільна тав. Шчарбакоў зьвяртае ўвагу толькі на адзін бок справы: фронт рэволюцыянізаваў тыл — Беларусь. Гэта ў корані ня верна. Фронт стварыў і шэраг цяжкасьцяй. Дзякуючы фронту тут былі такія контр-рэволюцыйныя цэнтры нават агульнарасійскага значэньня, як Магілеўская стаўка, як моцныя афіцэрскія організацыі, як штаб Заходняга Фронту, усе згодніцкія фронтавыя організацыі, Армкомы і Фронтавы Камітэт. У выніку гэтага Беларусь у часы Кастрычніка зрабілася арэнай барацьбы ня толькі нацыянальнага, але агульнарасійскага значэньня. Гэта яшчэ раз падкрэсьлівае неабходнасьць разглядаць гісторыю рэволюцыйнага руху на Беларусі не ізолявана ад Расіі.

Узаемаадносіны фронту і пролетарыяту Беларусі нельга разглядаць, як аднабаковы процэс, толькі як уплыў фронту на тыл. Возьмем ролю Менскага Савету. Невыпадкова цэнтрам ўсяго рэволюцыйнага жыцьця і фронту і, як тады Беларусь называлася „Заходняга краю“, зьявілася не фронтавая організацыя, не фронтавы згодніцкі камітэт,

[14]) На жаль, пакуль што дакладныя лічбы майстэрань і рабочых у іх мы прывесьці яшчэ ня можам. Нашым дасьледчыкам у галіне гісторыі неабходна зьвярнуць увагу на гэты прабел.

[15]) „Известия Бобруйского Совета“ № 87 ад 7 сьнежня 1917 г. У газэце памылкова ўказана агульная колькасьць рабочых—403 чал., але па колькасьці дэпутатаў (28) пры модусе 1 ад 50, і па колькасьці прысутнічаўшых на перавыбарах савету рабочых мы можам сказаць, што ў газэце дапушчана памылка.

[16]) Тут неабходна адзначыць адзін прыём, які прымяняецца для доказу адсутнасьці пролетарыяту ў час Кастрычніка на Беларусі. Кажуць — наступленьне нямецкай арміі прывяло да разбурэньня, спыненьня прадпрыемстваў, г. зн. кажуць аб мясцовасьцях, занятых немцамі, а вынік распаўсюджваюць і на сучасную БССР. Але-ж у раёне першай окупацыі і пролетарская рэволюцыя не адбывалася ў кастрычніку 17 г. А там, дзе Кастрычнікавая рэволюцыя праходзіла, там яшчэ ф ронту ня было.

а больш гібкая арганізацыя менскіх рабочых і салдат. Аб вялікай ролі Менскага Савету мы тут распаўсюджвацца ня будзем, яна ўжо часткова асьвятлялася ў друку. Возьмем невялікі Аршанскі савет, які абапіраўся на чыгуначнікаў і мясцовых рабочых. Яго роля ў ліквідацыі Карнілаўшчыны, у дні Кастрычніка, калі ў Воршы разбройваліся тысячы „ўдарнікаў", дзесяткі „батальёнаў смерці", яхія накіроўваліся на рэвалюцыйныя Маскву і Петраград, наогул яшчэ ня вывучана. Але ўсё-ж адмаўляць гэтую вялікую рэвалюцыйную ролю нельга. Тыя-ж прыклады можна прывесьці і з саветамі Гомелю і інш. гарадоў.

З усяго гэтага бачна, што ні погляд вялікадзяржаўнікаў, ні погляд нацдэмаў на ролю фронту на ўзаемаадносіны фронту і Беларусі няправільныя. Таксама няправільна і недаацэнка ролі фронту з боку тав. Шчарбакова і яго аднабаковы погляд на гэтую ролю фронту.

У сувязі з недаацэнкай ролі пролетарыяту Беларусі зьвязана і другая памылка тав. Шчарбакова — аб КП(б)Б. У час, калі вялікадзяржаўнікі і нацдэмократы сьцьвярджаюць, што бальшавіцкія арганізацыі ўзьнiклі тут толькі ў 1917 г., а КП(б)Б толькі ў канцы 1918 г. („на абломках БСГ"), тав. Шчарбакоў ні слова аб гэтым ня кажа і сам пачынае гаварыць аб бальшавіцкіх арганізацыях толькі з 1917 г. Тым самым ён нібы згаджаецца з варожымі нам поглядамі. Калі і тав. Кнорын ў сваёй кнізе „17-й год в Белоруссии и на Зап. фронте" таксама дапускае падобную памылку, таксама глядзіць на Беларусь, як толькі на Менск, прычым „дробна-рамесьніцкі і мяшчанскі Менск, дзе бальшавіцкіх традыцый ніколі ня было", [17]) дык, па-першае, гэта тлумачыцца поўнай адсутнасьцю распрацоўкі папярэдняй гісторыі рэв. руху, бо кніга тав. Кнорына была *першай* спробай марксыцкага асьвятленьня Кастрычніка на Беларусі, пісалася яшчэ ў 1925 г., у большасьці па ўспамінах. Па-другое, тав. Кнорын ня раз гаварыў аб гэтай сваёй памылцы, пісаў аб ёй, аб чым т. Шчарбакоў павінен быў ведаць.

Тав. Шчарбакоў да часу сваёй работы меў схэму гісторыі КП(б)Б, распрацаваную Інстытутам Гісторыі Партыі, якая дэманстравалася на XIII Зьезьдзе КП(б)Б. Ня ведаць аб ёй тав. Шчарбаков ня мог хоцьбы ўжо таму, што ён у гэты час супрацоўнічаў у Інстытуце, а таму іншая ўстаноўка ў кнізе зьяўляецца нязгодай тав. Шчарбакова з схэмай Інстытуту. Дык трэба было аб гэтым проста і заявіць!

Зусім не асьветленым пытаньнем застаецца ў тав. Шчарбакова пытаньне аб прычынах рэволюцыйнасьці сялянства ў 1917 г. Узяць хоць-бы факт выбараў ва Ўстаноўчы Сойм. Чаму бальшавікі атрымалі 63,2 проц. усіх галасоў па Менскім выбарчым вучастку [18]), па Віцебскім — 51 проц. і толькі па Магілеўскай губ. першае месца занялі эсэры? За абмежаванасьцю месца мы ня зможам спыняцца на прычынах гэтага, але падкрэсьлім, што абыйсьці гэта пытаньне пры разборы рэволюцыі 1917 г. ніякім чынам нельга. Толькі т. Шчарбакову ўдалося абыйсьці гэта пытаньне, але ці пайшло гэта на карысьць справе, хай рассудзіць сам т. Шчарбакоў.

Няма яснага разуменьня ў тав. Шчарбакова і наконт дробна-буржуазных партый. Узяць хоць-бы тую ўдзельную вагу ў кнізе тав. Шчарбакова асобных партый, якую тав. Шчарбакоў ім адводзіць. Калі беларускім партыям ён адпушчае шмат месца, дык літаральна некалькі слоў ён адпускае Бунду. А трэба сказаць, што ў тыя гады з Бундам КП(б)Б давялося весьці большую барацьбу, як, напрыклад, з БСГ.

[17]) Кнорын „17-й Год в Белоруссии и на Западном фронте" Менск, 1925 г., стар. 19.
[18]) Заходні фронт не ўваходзіць у гэтую лічбу.

У тав. Шчарбакова заўважецца ня толькі тэрыторыяльная, але і нацыянальная адмежаванасьць у межах самой Беларусі. Сам т. Шчарбакоў у пачатку сваёй кнігі піша аб шматнацыянальным складзе насельніцтва БССР, але ўдзел іх у рэволюцыйным руху не паказаны. Возьмем, напрыклад, польскае насельніцтва. Шмат месца адпушчана контр-рэволюцыйнаму выступленьню Даўбор-Мусьніцкага, жудасным момантам белапольскай окупацыі і г. д., а няўжо-ж усё польскае насельніцтва спачувала гэтым выступленьням польскага пана? І калі тав. Шчарбакоў некалькі слоў адпушчае разлажэньню арміі Даўбор-Мусьніцкага, дык ні слова ня кажа аб сялянах - паляках і рабочых у часы польскай окупацыі. А маецца шмат матар'ялаў, калі рабочыя і сяляне - палякі ішлі разам з беларусамі ў паўстанцы. Мы не закранали шмат якіх яшчэ больш дробных памылак. Узяць хоць-бы перablытанасьць дат. Напрыклад: фронтавы зьезд адчыніўся ня 9, а 7 красавіка (стар. 21 кнігі), газэта „Звезда" выйшла ня 8, а 9 жніўня (стар. 27), немцы з Менску адыходзілі па тав. Шчарбакову і 10 сьнежня (стар. 76) і 7 сьнежня (стар. 94) і г. д. Невядома чаму днём перавароту ў Віцебску аўтар лічыць ня 27, а 29 кастрычніка (стар. 30), як гэта артыкул у № 29 „Вольнай Беларусі" (вышаў 11 лістапада) — „Расійскае безладзьдзе", які піша аб Кастрычнікавай Рэволюцыі, перанесен на дакастрычнікаўскі час (стар. 54), як гэта магло быць леваэсэраўскае паўстаньне супроць немцаў у Мсьціслаўскім павеце (стар. 73), калі немцы не займалі гэтага павету — аб усім гэтым ведае толькі аўтар.

Дастаткова. Ужо гэта паказвае, што нельга гісторыю пісаць толькі ножніцамі. Ужо гэта паказвае, што кнігу тав. Шчарбакова трэба грунтоўна перарабіць, каб яна магла прынесьці карысьць пры нашым голадзе на падручнікі па гісторыі рэволюцыйнага руху Беларусі.

---

О. Конакоцін

# Літаратуру на службу соцыялістычнаму будаўніцтву

## I.

Бацькаўшчына пролетарыяту і прыгнечаных усяго сьвету—Савецкі Саюз—уступіў у пэрыод соцыялізму. „Наперакор „прароцтвам“ ворагаў і ня гледзячы на працягваючыяся з іх боку захады шалёнай барацьбы з савецкай уладай, наперакор сумненьням і дробна-буржуазнаму нявер‘ю опортуністаў у нашай краіне пытаньне аб перамозе соцыялізму вырашана, і перамога соцыялізму ў Саюзе ССР поўнасьцю забясьпечана“ (з пастановы VI зьезду Саветаў СССР). Краіна Саветаў у бягучым годзе завяршае пабудову соцыялістычнай эконсмікі. „Гэта азначае абсолютную перавагу соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы“ (Мануільскі—з прамовы на XI пленуме В. К. К. І. „Праўда“ №128 за 11 мая 1931 г.). Бядняцка-серадняцкая вёска справай давяла, што яна ідзе, пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе партыі, да соцыялізму, аб‘яднаўшы да 10 мая гэтага году 50,4 проц. сваіх двароў у колгасы. Такім чынам, гістарычная пастанова сьнежаньскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб колектывізацыі ў 1931 годзе ў сярэднім па Савецкім Саюзе ня менш паловы сялянскіх гаспадарак выканана ў першай палове вызначанага тэрміну. „Цяпер ужо можна сказаць, што з пункту гледжананьня ўнутраных клясавых сіл пытаньне аб перамозе соцыялізму ў СССР вырашана. Тут вырашэньне проблемы „хто каго“ на карысьць соцыялізму забясьпечана“ (Мануілскі—там-жа).

Магутным поступам, з нябачнымі тэмпамі, якія яшчэ ня ведала гісторыя, краіна дыктатуры пролетарыяту ідзе наперад да соцыялізму і канечнай мэты—комунізму. Ідэі комунізму ў выкананьні Ленінскіх плянаў стаяць перад намі жывымі фактамі. 518 новых соцыялістычных прадпрыемстваў, 1040 машына-трактарных станцый, якія ўступаюць у неперноможную фалангу соцыялістычнага наступу ў гэтым годзе, 50, 4 проц. колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх двароў вёскі, творчы энтузіязм, соцыялістычныя мэтоды працы, тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва“ перавышаюць у два з паловай разы самыя высокія тэмпы, якія ведала Амэрыка... і перавышаюць у 8-10 разоў звычайныя тэмпы капіталістычнага ладу“;—усё гэта жывыя факты, якія сьведчаць аб тым, што пролетарыят і працоўныя Савецкага Саюзу пад кіраўніцтвам бальшавікоў-ленінцаў зьдзейсьняюць вялікія ідэі соцыялізму.

Адсталая ў мінулым у тэхніка-экономічных адносінах, малапісьменная, някультурная былая Расія — гэтая царская „турма народаў“

ператвараецца ў краіну соцыялілістычнага будаўніцтва, у краіну пролетарскай культуры, у краіну соцыялізму, зьяўляючыся аплотам сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

На аснове соцыялістычнай матар'яльнай базы, створанай за гады барацьбы, за замацаваньне дыктатуры пролетарыяту, за гады соцыялістычнага будаўніцтва магутна разгортваецца справа культурнай рэволюцыі.

„У нас палітычны і соцыяльны пераварот аказаўся папярэднікам таму культурнаму перавароту, той культурнай рэволюцыі, перад тварам якой мы ўсё-такі цяпер стаім. Для нас дастаткова цяпер гэтай культурнай рэволюцыі для таго, каб быць упаўне соцыялістычнай краінай, але для нас гэта культурная рэволюцыя прадстаўляе бязьмерныя цяжкасьці чыста культурнага парадку (бо мы няпісьменныя) і парадку матар'яльнага, бо для таго, каб быць культурным, патрэбна вядомае разьвіцьцё матар'ялных сродкаў вытворчасьці, патрэбна неабходная матар'яльная база“ (Ленін). Зараз ужо і гэта апошняя—„матар'яльная база“—створана і краіна перайшла на абавязковае навучаньне, векавой няпісьменнасьці наносіцца апошні руйнуючы ўдар.

Культурная рэволюцыя становіцца справай мільённых мас пролетарыяту і працоўных. Растуць заводы—„Втузы“; разгортваецца барацьба за аўладаньне тэхнікай; папаўняецца армія рабселькораў—„камандзіраў“ пролетарскай грамадзкай думкі“, якія „становяцца пад кіраўніцтвам партыі організатарамі мас для справы соцыялістычнага будаўніцтва, выкананьня вытворчых плянаў і разгорнутага наступу на клясавых ворагаў“; нябачна расьце пролетарскі друк, адны толькі газэты ў I квартале гэтага году маюць разовы тыраж 30,8 мільёнаў; рабочая кляса дае сотні вынаходцаў, якіх ня ведаў капіталістычны сьвет за ўсю гісторыю свайго існаваньня і так званага росквіту культуры; ударнікі рабочыя, ударнікі колгасьнікі паказваюць лепшыя прыклады і соцыялістычныя мэтоды працы; праца ў Савецкім Саюзе ня прымус, а „справа сумленьня, справа славы, справа гонару і геройства“; пролетарыят краіны Саветаў авалодвае вышэйшымі формамі культуры, даючы ўдарнікаў у літаратуру, мастацтва; тэорытычны рост ужо не зьяўляецца справай адзінак, а справай мас.

Нават і пералічаных фактаў досыць, каб сказаць, што мы сапраўды змагаемся за соцыялістычную культуру, ствараем гэтую культуру. Наперакор сьцьверджаньням нашых ворагаў, нібыта культура справа „избранных“, мы даводзім, што гэта справа шырокіх пролетарскіх мас, наперакор „вучоным“ сьцьверджаньням аб тым, што пролетарская культура магчыма толькі пасьля сусьветнай рэволюцыі,—мы ў аднэй краіне будуем соцыялістычную культуру. Рост культуры ідзе ва ўмовах барацьбы за ленінскае разуменьне задач і сутнасьці культурнай рэволюцыі, барацьбы з контр-рэволюцыйнымі троцкісцкімі ўстаноўкамі; барацьба з багданаўшчынай, бухарыншчынай, як з антыленінскімі ўстаноўкамі, і іншымі варожымі ўстаноўкамі ў гэтым пытаньні. Асаблівасьці культурнай рэволюцыі ў даны пэрыод і складаюцца, галоўным чынам, з таго, што зараз ідзе аўладаньне культурай шырокіх мас пролетарыяў і працоўных, што зараз ідзе абвостраная клясавая барацьба за ленінскае разуменьне культурнай рэволюцыі супроць варожых пролетарыяту тэорый і ідэолёгіі.

Ва ўмовах, калі краіна ўступіла ў пэрыод соцыялізму, калі адбываецца магутны ўздым культурнай рэволюцыі, які ахапляе мільённыя масы працоўных, калі рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы завяршае пабудову

фундаманту социялістычнай экономікі—у гэтых умовах роля мастацкай літаратуры як аднаго з сродкаў барацьбы за социялізмас абліва ўзрастае.

Мастацкая літаратура ня толькі паказвае веліч поступу будаўніцтва социялізму, ня толькі ў мастацкіх вобразах паказвае творчы энтузіязм і натхненьне рабочых і працоўных мас, якія героічнымі намаганьнямі і нязломнай воляй у трэцім рашаючым годзе канчаюць пабудову фундаманту социялістычнай экономікі, але яна дапамагае авангарду пролетарыяту—комуністычнай партыі—асьвятляць шлях канчатковай пабудовы социялізму, паказваючы мастацкімі спосабамі пэрспэктыву будаўніцтва социялізму і сусьветную яго перамогу. Роля мастацкае літаратуры, якая зьяўляецца спэцыфічным сродкам пазнаваньня рэчаіснасьці і ўзьдзейнічаньня на яе і зброяй клясавага змаганьня, ня толькі ў паказе мінулае барацьбы, ня толькі ў адлюстраваньні дасягненьняў социялістычнага будаўніцтва, але ў тым, каб ленінскім мэтодам ускрываць законамернасьці і тэндэнцыі разьвіцьця сусьветнае пролетарскае рэволюцыі і социялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Адказная роля ўскладаецца на мастацкую літаратуру гістарычнай задачай рабочае клясы і працоўных Саюзу ССР „ня больш, як на працягу бягучага дзесяцігодзьдзя—дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны“.

Перамога социялізму ў нашай краіне забясьпечана ўнутранымі суадносінамі клясавых сіл. Гэта дасягнута на падставе разгорнутага социялістычнага наступу па ўсім фронце, на падставе бязьлітаснага перамаганьня супраціўленьня кулацка-капіталістычных элемэнтаў, на падставе суцэльнай колектывізацыі вёскі і ажыцьцяўленьня палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы. Клясавы вораг ня толькі супраціўляецца, але і актыўна выступае супроць нас. Мы гэта бачым і на справе партыі меншавікоў, і на справе нацыянал-дэмократычнай контррэволюцыйнай групы ў БССР. Абвастрэньне клясавай барацьбы ідзе па ўсяму фронту нашага наступу. Клясавы вораг супраціўляецца і выступае супроць нас і на ідэолёгічным фронце і ў прыватнасьці на літаратурным вучастку гэтага фронту. Тут ён прымяняе асаблівыя формы і мэтоды барацьбы і іншыя прыёмы маскаваньня. Абвастрэньне клясавае барацьбы ўскладае на мастацкую літаратуру задачу зброяй і сродкамі мастацкага слова дапамагаць ліквідацыі апошняй экспльёататарскай клясы, дабіваць спадчыну старых адносін чалавека да чалавека, садзейнічаць паскарэньню процэсу социялістычнай перароблкі чалавека, дапамагаць стварэньню новага чалавека социялістычнай грамады і бязьлітасна дабіваць усё старое варожае нам.

Літаратура павінна адлюстраваць усю шматграннасьць нашай эпохі, павінна ўзмацніць сваю організуючую ролю ў социялістычным будаўніцтве, і быць вострай зброяй пролетарыяту ў „эпоху грамадзянскіх войн, пролетарскіх рэволюцый“ і социялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Толькі і толькі такая літаратура выканае гістарычную ролю эпохі. Літаратура, якую ставарае пролетарыят пад непахісным кіраўніцтвам партыі Леніна, з посьпехам змагаецца за выкананьне гэтай ролі, толькі яна, пролетарская літаратура, мае ўсе даныя на тое, каб разьвівацца, заваёўваць гегемонію і ператварыцца ў літаратуру комунізму, бо яна зброя клясы, якая ставіць сваёй мэтай зьнішчэньне клясаў і ўстанаўленьне бяскласавай грамады. Буржуазная літаратура прыгаворана гісторыяй на сьмерць, але гэты прыгавораны ідзе да сваёй сьмерці з боем супроціўленьня, яна адыходзіць (гніеньне, упадніцтва і раслажэньне літаратуры) і адыйдзе ў вечнасьць разам са зьнішчэньненем

імпэрыялізму рукамі рэволюцыйнага пролетарыягу. Яна выконвае сваю апошнюю ролю барацьбы супроць сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, супроць аплоту гэтай рэволюцыі Саюзу Савецкіх Рэспублік.

## II. За пагранічнымі слупамі

„Наперакор усім прароцтвам буржуазных і соцыял-дэмократычных песьняроў капіталістычнай стабілізацыі, наперакор іхнім правым і троцкісцкім падгалоскам капіталістычны сьвет перажывае пэрыод нябывалага прамысловага і аграрнага крызісу... і далейшага рэволюцыянізаваньня мас“. [1]) Там крызіс, у нас завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі.

За апошнія два гады вытворчасьць у шэрагу капіталістычных краін зьніжаецца ў два разы, а ў СССР за гэтыя-ж гады павялічваецца амаль у два разы. Там, за пагранічнымі слупамі, армія беспрацоўных папаўняецца ўсё новымі і новымі мільёнамі прыгавораных на галодную сьмерць рабочых, якім няма работы ў краінах капіталу; ідзе нястрымны процэс паўпэрызацыі сялянскіх мас; праводзіцца рабаўніцтва працоўных надзвычайнымі падаткамі; масавыя расстрэлы дэмонстрацый, разгул фашысцкіх банд, жудасныя зьдзекі і катаваньне ў турмах зьяўляюцца найлепшымі адзнакамі цывілізацыі капіталістычных краін.

Яскравым прыкладам капіталістычнай „стабілізацыі“ і „правільнасьці“ тэорыі організаванага капіталізму зьяўляецца наша бліжэйшая, „найкультурнейшая“ суседка „Жэч Посполіта Польска“. Польшча зьяўляецца краінай, дзе найбольш яскрава выявіўся сучасны экономічны крызіс капіталізму. Ад гэтага крызісу Польшчу нават не ратоўваюць такія лекавыя сродкі, як кабальная француская пазыка, якую фашысты цалкам скарыстоўваюць на ўзбраеньне.

Беспрацоўе расьце з кожным днём, ужо зараз налічваецца каля мільёна беспрацоўных, з якіх толькі 120 тысяч атрымліваюць пэнсію ў памеры 30 проц. месячнага заробку (афіцыйна зарэгістравана 370 тыс. беспрацоўных). Тыя-ж, хто працуюць кожны дзень, стаяць пад пагрозай быць выкінутымі за вароты фабрыкі, альбо ў наступным раньні атрымаць новае зьніжэньне заработнай платы, так па цэламу шэрагу прадпрыемстваў Лодзі, Бельску, Прымор'я зарплата зьніжана на 7—20 проц. „У найгоршым становішчы знаходзяцца сельска-гаспадарчыя рабочыя, агульная лічба якіх (разам з сэзоньнікамі і ляснымі рабочымі) дасягае аднаго мільёна васьмісот тысяч, і якія атрымліваюць у сярэднім па 2-3 злотых у дзень“ [2]) Прамысловы крызіс мае сталага спадарожніка—аграрны крызіс, пераплятаючыся з аграрным крызісам паскарае процэс паўпэрызацыі мас сялянства. Трэба памятаць яшчэ і такія „дэталі“ фашыстоўскай аграрнай політыкі, як комосацыя, насаджэньне асадніцтва, жудасных памераў падаткі і ў дадатак да гэтага, добра вядомую Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне сыстэму карных экспэдыцый, „славутую“ дзейнасьць дэфэнзывы і г. д., каб уявіць сабе паўнату карціны становішча Польшчы. Прывядзем вытрымку з корэспондэнцыі за 12 мая: „Толькі за апошні месяц у Варшаве скончыла самагубствам з прычыны беспрацоўя 128 чалавек, пры чым формы гэтых самагубстваў прымаюць жудасны характар. Маткі забіваюць дзяцей, альбо разам з дзецьмі кідаюцца з мастоў, альбо пад

[1]) З перадавога арт. „ПРАВДЫ“—„Супроць дыктатуры буржуазіі за дыктатуру пролетарыяту“. 23 красавіка 1931 г. № 113.

[2]) З дакладу т. Ленскага на XI пленуме Комінтэрну. „Правда“ № 128 за 11 мая 1931 г.

цягнік. Сёньня зноў у Варшаве скончылі самагубствам дзьве жанчыны, якія кінуліся пад цягнік. Прычыны, аб якіх яны гавораць у лістох, — „безысходная нужда.“ [1]) Усё гэта толькі за адзін апошні месяц і толькі ў сталіцы Польшчы—Варшаве.

Разам з экономічным крызісам ідзе загніваньне і занялад буржуазнай культуры. Польшча і ў гэтым зьяўляецца найлепшым паказьнікам капіталізму. Тыя культурныя пачынаньні, якія ня спрыяюць фашызацыі, проста зьнішчаюцца сілай жаўнераў і жандараў. Не загаіліся яшчэ раны, і дагэтуль чутны стогны з Заходняй Беларусі пасьля разгрому Беларускай Грамады. Усім вядомы факты разгрому Т-ва Беларускай Школы ў Заходняй Беларусі, украінскіх і беларускіх клюбаў, у апошнія часы разгром яўрэйскай школы, катаваньні за адказ на украінскай мове ў часу допыту, забарона беларускай мовы ў Віленскім Унівэрсытэце і г. д., і г. д.

Польскі фашызм імкнецца затрымаць процэс распаду сваёй культуры, праводзячы фашызацыю школы, друку, мастацтва, літаратуры, выбіваючы ўсё тое, што можа паслабіць дыктатуру фашызму. Культура буржуазіі нясе шырокім масам прыгнёт, няпісьменнасьць, рэлігійныя забабоны і ўсе іншыя прыгожасьці капіталізму, яна справа прыгнятацеляў. І той, хто падымае свой рэволюцыйны голас супроць іх і іх культуры, пападае ў прыдатак польскай цывілізацыі—дэфэнзыву. Так было з Заходняй-Украінскімі і Заходня-Беларускімі культурнымі дзеячамі

Прамысловы і аграрны крызіс Польшчы вядзе да распаду ўсяго гаспадарчага і культурнага жыцьця, нябачна паглыбляе клясавыя супярэчнасьці, даючы новыя рэволюцыйныя зрухі ў масах рабочае клясы і эксплёатуемага сялянства. Расьце хваля забастовак. Дэмонстрацыі амаль заўсёды праходзяць у бойках з паліцыяй, рэволюцыйны рух беспрацоўных узьняўся на больш высокі ўзровень, сялянскія масы выступаюць з вялікай актыўнасьцю, праўда, рэволюцыйныя выступленьні сялянства праходзяць не заўсёды організавана, тут яшчэ пераважае стыхійнасьць. Нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне пераходзіць у масавыя народныя выступленьні супроць фашыстаў. У гэтых выступленьнях „упяршыню за некалькі год праявіліся элемэнты грамадзянскай вайны. Гэта быў адзін з буйнейшых udараў па польскаму імпэрыялізму і яго антысавецкіх вайсковых плянах, а таксама адзін з найбольш яскравых сымптомаў насьпяваньня тэндэнцый рэволюцыйнага крызісу ў Польшчы“ [2]).

Мы ўзялі Польшчу, як найбольш яскравы паказьнік крызісу капіталізму, Польшчу, якая мяжуе з БССР, якая стаіць на мяжы капіталістычнага Захаду пагранічным жандарам імпэрыялістычных інтэрвэнтаў, узялі для таго толькі, каб яшчэ раз напомніць аб міжнародных задачах нашай савецкай літаратуры.

У справе паказу крызіса капіталізму, паказу поступу пролетарскага рэволюцыйнага руху, у справе ўзмацненьня інтэрнацыянальнай солідарнасьці пролетарыяту і працоўных Савецкага Саюзу з замежнымі братамі па клясе—творчае вока савецкіх пісьменьнікаў павінна бачыць далей пагранічных слупоў і ахопліваць абшары па-за слупамі, дзе з нябачнай мужнасьцю ідзе змаганьне пролетарыяту і працоўных з прыгнётам капіталу, з прыгнётам крывага фашызму — змаганьне за Кастрычнік на Захадзе. Тут трэба адзначыць, што з выконваньнем

[1]) Корэспондэнцыя з Варшавы ад 14 мая „Пяць год ліпеньскага фашызму“— „Известия“ за 15 мая 1931 г.

[2]) З дакладу т. Ленскага на XI Пленуме Комінтэрну. „Правда“ № 128 за 11 мая 1931 году.

гэтай ролі наша літаратура адстае ад запатраваньняў, якія стаяць перад ёю. Нашы замежныя таварышы гэтую ролю міжнароднай пролетарскай літаратуры ў адносінах да нас нядрэнна выконваюць. Творчасьць нямецкіх пролетарскіх пісьменьнікаў прасякнута барацьбой за абарону СССР, паказам соцыялістычнага будаўніцтва. У творчасьці польскіх, заходня-беларускіх і заходня-украінскіх пролетарскіх і рэволюцыйных пісьменьнікаў нямала добрых прыкладаў барацьбы зброяй літаратуры за абарону Савецкага Саюзу, нямала добрай пропаганды соцыялістычнага наступу пролетараў і працоўных СССР. Нават седзячы ў турмах нашы таварышы, ня гледзячы на жудасны рэжым, пішуць поўныя поэмы пра соцыялістычнае будаўніцтва Савецкага Саюзу і БССР.

Савецкая літаратура і ў першую чаргу пролетарская павінна вышэй узьняць сьцяг міжнароднай солідарнасьці.

Пры выконваньні ролі, якая ўскладзена рэволюцыяй на мастацкую літаратуру, савецкія пісьменьнікі БССР і ў першую чаргу пролетарскія пісьменьнікі павінны з ўсёй адказнасьцю ўявіць сабе, што пытаньні літаратуры—клясавае палітычнае пытаньне, літаратурная справа зьяўляецца неадрыўнай часткай агульнага пролетарскага руху, вырашэньне яе ня можа быць абмежавана толькі рамкамі савецкай краіны. У БССР мы ў першую чаргу павінны памятаць, што да перамогі пролетарскай рэволюцыі на захадзе ёсьць Заходняя Беларусь, якая пад панскім прыгнётам. Разьвіцьцё пролетарскай беларускай культуры, у тым ліку і мастацкай літаратуры, зьяўляецца непадзельнай часткай будаўніцтва соцыялізму і разам з гэтым зьяўляецца адным з фактараў, спрыяючых рэволюцыянізаваньню працоўных мас Заходняй Беларусі і міжнароднай солідарнасьці працоўных СССР. Таму савецкія пісьменьнікі БССР і ў першую чаргу пролетарскія пісьменьнікі адказны за выкананьне ролі і задач пастаўленых перад мастацкай літаратурай ня толькі перад пролетарыятам і працоўнымі СССР і БССР, але і перад пролетарыятам і працоўнымі Захаду і ў першую чаргу Заходняй Беларусі. Непарыўная сувязь між нашым будаўніцтвам і рэволюцыйным пролетарскім рухам павінна знайсьці лепшае асьвятленьне ва ўсёй творчасьці савецкіх пісьменьнікаў, бо гэта адзіны магутны поступ сусьветнай рэволюцыі—шлях да комунізму.

Таксама большай пільнасьці патрабуе і пагроза ўзброенага нападу сусьветных інтэрвэнтаў на савецкую краіну.

Надзвычайна жорсткі экономічны крызіс у краінах капіталу ўзмацняе пагрозу ўзброенага нападу імпэрыялістаў на СССР. У гэтых умовах мастацкая літаратура павінна быць мобілізавана на ўзмацненьне абароназдольнасьці соцыялістычнай краіны і на паказ таго, што „ўзброены напад на СССР цяпер адзначае галоўную небясьпеку для тых, хто асьмеліцца парушыць мір і зрабіць напад на Савецкі Саюз“. [1]) Роля савецкіх пісьменьнікаў у справе абароназдольнасьці павінна быць выяўлена і ў паказе таго, што „ў рабочае клясы і працоўных СССР, пры актыўным падтрыманьні сусьветнага пролетарыяту, знойдуцца сілы ня толькі абараніць соцыялістычную бацькаўшчыну, але і рэалізаваць галоўную небясьпеку для паноў імпэрыялістаў“ [2]). Гэта ў першую чаргу абавязвае беларускую літаратуру быць вартавым, стоячы на рубяжы з капіталістычным Захадам, стоячы каля пагранічных слупоў фашыстоўскай Польшчы. Вартавы павінен даваць сыгналы аб ворагу, пільна сачыць за ворагам.

[1]) З пастановы VI Зьезду Саветаў СССР па справаздачы Ураду.

[2]) „Правда“ за 13 сакавіка 1931 г. Перадавы артыкул—„Дагнаць і перагнаць за 10 год“.

Аб тым, што Польшча рыхтуецца да выконваньня ролі пачынальніка нападу, мы добра ведаем, нават і польскі друк аб гэтым гаворыць зусім адкрыта. Дамо слова фашысцкай газэце „Ілюстраваны Кур'ер Цодзенны“, якая нядаўна заявіла:

„Савецкая Расія выконвае сваю пяцігодку, праяўляючы волю да дзейнасьці, якой (волі—О. К.) яшчэ ня бачыла гісторыя. У самой Расіі няма сілы, якая была-б здольна перашкодзіць рэалізацыі гэтых плянаў. Пляны савецкіх будаўнікоў можа зьніштожыць толькі ўнешняя інтэрвэнцыя, праведзеная якой-небудзь коаліцыяй дзяржаў“.

Буржуазію палохаюць нашы посьпехі, яна бачыць, што лёзунг „дагнаць і перагнаць“ ажыцьцяўляецца на справе.

Прадстаўнік польскіх прамыслоўцаў Піотроўскі, пры сустрэчы з упаўнаважаным Наркамгандлю, у час знаходжаньня на Украіне, гаворачы аб уражаньнях, аб буйным будаўніцтве ў СССР, падкрэсьліў, што „усё новае прамысловае будаўніцтва ў Савецкім Саюзе ажыцьцяўляецца па апошняму слову сусьветнай тэхнікі, іншы раз нават яе выпяраджае. Бясспрэчна, у недалёкай будучыні іншыя перадавыя краіны будуць вымушаны запазычыць тэхніку ў савецкага машынабудаўніцтва“. Гэта гаворыць дырэктар аб'яднаньня некалькіх машынабудаўнічых заводаў Польшчы, западозрыць якога ў асаблівых сымпатыях да соцыялістычнай краіны ніяк нельга, нават і пры ўсіх спрытных здольнасьцях фальшыўчыкаў з процэсу Палянскага.

Апошняе слова дамо вядомаму „беларускаму“ дзеячу Юзэфу Пілсудзкаму, які даўно пасьля польска-савецкай вайны даваў такі наказ Луцкевічу і А. Цьвікевічу:

„Я лічу, што задачы Польшчы заключаюцца ў вызваленьні Беларусі ня толькі ад палітычнага панаваньня Расіі — бальшавіцкай, царскай, альбо дэмократычнай — гэта ўсё роўна, але-ж ад уплываў рускай культуры. Расія наш агульны вораг, незалежна ад формы яе праўленьня, вораг гістарычны, гэты вораг павінен быць разьбіты на ўсіх фронтох, у тым ліку і на культурным. Задача беларускіх дзеячоў заключаецца ў тым, каб апіраючыся, орыентуючыся на Захад, на заходнюю культуру, пад протэкторатам Польшчы ліквідаваць усе сьляды ўплыву рускай культуры, якія прышчэплены Беларусі ў мінулым, і як мага больш зблізіць беларусоў з палякамі... Вы павінны дапамагчы мне накіраваць беларускі рух у неабходнае рэчышча, каб ён служыў агульнай справе — умацаваньня нашай маладой дзяржавы — Польскай Жэчы Поспалітай, каб ён служыў уміратварэньню „ўсходніх крэсаў“, перад усім сялянствам, умацаваньню ў Беларусі польскай улады, якая абараняе Беларусь ад бальшавіцкага барбарства. Апроч таго, *Беларускія дзеячы павінны гарантаваць гэтай польскай уладзе не на словах, а на справе барацьбу з свайго боку з бальшавікамі*“.

Гэта програма з надзвычайнай яскравасьцю паўтараецца і сёньня, бо шалёныя ідэі „Польшча ад можа да можа“ адваротны бок мэдалі, а на другім проста — „вайна з бальшавікамі“.

За пагранічныя слупы мы павінны глядзець вачыма пролетарскай рэволюцыі. Толькі і толькі так савецкая літаратура з гонарам будзе і надалей выконваць задачы эпохі пролетарскіх рэволюцый.

## III. На позыцыях форпосту

У Савецкай Беларусі, якая зьяўляецца форпостам СССР на мяжы з капіталістычным Захадам роля мастацкай літаратуры, як зброі про-

летарыяту ў змаганьні за соцыялізм, набывае асаблівае значэньне. Савецкая літаратура і ў першую чаргу пролетарскі атрад яе, стоячы тут ля пагранічных слупоў з фашыстоўскай Польшчай, павінна з рэволюцыйным гонарам выконваць сваю ролю ў змаганьні за соцыялізм, у барацьбе з клясавым ворагам.

Там, па-за слупамі, за калючым дротам аб нашых дасягненьнях ведаюць нашы прыяцелі і нашы ворагі, першых яны радуюць і даюць яшчэ большы энтузіязм у барацьбе, другіх нашы дасягненьні прыводзяць у шалёную нянавісьць да нас і нашых прыяцеляў, напамінаючы аб немінучым канцы.

Ускрыць і паказаць у мастацкай форме процэсы росту Савецкай Беларусі і заняпаду Заходняй Беларусі, значыць дапамагчы пролетарыяту біцца за агульную справу, значыць быць на перадавых позыцыях і дзейнічаць.

Асаблівасьць ролі мастацкай літаратуры выцякае ня толькі з прымежнасьці БССР, але яна абумоўлена больш высокімі тэмпамі будаўніцтва ў параўнаньні з агульнымі тэмпамі Савецкага Саюзу, чаго мы дасягнулі толькі ў брацкім саюзе з іншымі Савецкімі Рэспублікамі, толькі пры вялічэзнай дапамозе пролетарыяту СССР. З цёмнай, някультурнай і няпісьменнай, эканомічна адсталай былой „ускраіны“ царскай Расіі Савецкая Беларусь, ліквідуючы старую адсталасьць, па тэмпах ідзе ўперадзе. Гэта робіцца яшчэ яскравей, калі мы паглядзім на Заходнюю Беларусь.

| *У нас:* | *Там, у Заходняй Беларусі:* |
|---|---|
| Буйны рост прамысловасьці, павялічэньне колькасьці пролетарыяту, ліквідацыя беспрацоўя. | Крызіс прамысловасьці, сотні тысяч беспрацоўных. |
| Бядняцка-серадняцкія масы вёскі ідуць па шляху колектывізацыі, праводзіцца мэханізацыя сел. гасп. і г. д. | Крызіс сел. гасп., паўпэрызацыя масы сялянства, заняпад сельскай гаспадаркі. |
| У нас рост матар'яльнага і культурнага ўзроўню шырокіх працоўных мас, нябачны творчы энтузіязм. | Зьніжэньне зарплаты, надзвычайныя падаткі, прыгнёт і тэрор. |
| Соцыялістычныя мэтоды працы: ударніцтва і соцспаборніцтва. | Прымусовая праца, жудасныя ўмовы працы. |
| Кожнае соцыялістычнае прадпрыемства — фабрыка, завод, кожны колгас і саўгас сьведка і паказьнік росту. | Кожная фабрыка і завод пад пагрозай спыненьня работы, кожны бядняцка-серадняцкі двор пад пагрозай разбурэньня. |

Савецкая Беларусь за 13 год дыктатуры пролетарыяту з краіны няпісьменнай стала краінай абавязковага агульнага навучаньня і калі пры царызьме было на 1.000 сельскага насельніцтва толькі 142 пісьменных, а на 1.000 жанчын толькі 70 (перапіс 1897 г.), дык зараз БССР стаіць на першым месцы па ахопу дзяцей школай. 14 вышэйшых навучальных установ, сотні профшкол, тэхнікумаў, сямігодак ахапляюць дзесяткі тысяч вучняў і студэнтаў. Нябачна расьце выдавецкая справа, пашыраецца сетка раённых, заводзкіх і колгасных газэт. Ідуць новыя і новыя сілы ў лік рабселькораў. Вырасла і ўзмацняецца беларуская кінэматографія, вялічэзныя посьпехі дасягнуты ў тэатральнай справе і разьвіцьці радыё. Створана новая савецкая беларуская літаратура. Ажыцьцяўляецца вялікая справа культурнай рэволюцыі.

„Пэрыод дыктатуры пролетарыяту і будаўніцтва соцыялізму ў СССР, ёсьць пэрыод росквіту нацыянальных культур соцыялістычных

па зьместу і нацыянальных па форме“ (Сталін). У гэты пэрыод у БССР як і ва ўсім СССР, адбываецца бурны рост беларускай пролетарскай літаратуры і пролетарскай літаратуры нацменшасьцяй. Гэты рост беларускай пролетарскай літаратуры пачаўся ад Кастрычніка, ня маючы дарэволюцыйнай пролетарскай літаратурнай спадчыны.

У гэты самы час у Заходняй Беларусі зачыняюцца беларускія школы, фашысты грамяць Т-ва Беларускай Школы, забараняюць беларускую мову ў Віленскім Унівэрсытэце, зачыняюць прогрэсыўныя газэты. У глыбокае падпольле загнана рэволюцыйная і пролетарская літаратура. Рэволюцыйныя і пролетарскія пісьменьнікі пад штодзеннай пагрозай трапіць за краты турмы.

У нас, у БССР, культурай авалодваюць масы, як і ва ўсім Саюзе Савецкіх Рэспублік, літаратурная справа зьяўляецца часткай агульнай справы пролетарыяту, неадрыўнай ад усёй барацьбы і творчасьці пролетарыяту. У гэтым сіла савецкай літаратуры.

Там — падважнікі культуры знаходзяцца ў руках капіталістаў і памешчыкаў, гэта яны маюць свой царкоўны апарат, гэта яны маюць такіх наймітаў, як Луцкевіч, Астроўскі, Акінчыц і іншыя. У іх нават у вядомы час займаўся літаратурай вядомы ўсім бандыт Булак-Балаховіч, у іх знайшоў прытулак провокатар Сольскі і г. д. Фашызацыя культуры ў Заходняй Беларусі ёсьць простае зьнішчэньне культуры. Фашысцкая культура, калі нават аб ёй можна гаварыць, культура нявольніцтва і прыгнёту, яна ідзе ўніз. Яркім прыкладам гэтага былі захады беларускіх нацыянал-дэмократаў (агентаў заходня-беларускага фашызму) стварыць сваю нацыянал-дэмократычную літаратуры усе іх захады толькі больш ускрывалі сапраўдную сутнасьць нацыянал-дэмократызму і тут у пытаньнях культуры яскрава выявіўся контр-рэволюцыйны твар беларускага нацыянал-дэмократызму.

Ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту пасьпяхова разьвіваецца культура пролетарская па зьместу і нацыянальная па форме, бо яна і ёсьць культура соцыялістычная, якая з часам ператворыцца ў культуру сусьветнага комунізму. Гэта цалкам адносіцца і да літаратуры. Усе захады нацдэмократаў супроцьставіць пролетарскай і савецкай літаратуры сваю самабытную літаратуру ня былі падтрыманы прадстаўнікамі масы, а яны, нацдэмократы, імкнуліся выходзіць да масы і засталіся з сваёй самабытнай літаратурай канчаткова ўскрытыя, як ворагі працоўных, як агенты паноў Луцкевічаў, Астроўскіх і Акінчыцаў.

Пролетары і працоўныя БССР заявілі, што толькі савецкая і пролетарская літаратура іх справа, а ўсё варожае будзе бязьлітасна выкідацца.

Беларуская мастацкая літаратура і літаратура нацыянальных меншасьцяй (яўрэйская, польская, літоўская) расла і разьвівалася ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. У барацьбе ўзмацнялася пролетарская літаратура, якая формавалася пад знакам усё большага пераключэньня творчасьці пісьменьнікаў, на барацьбу і будаўніцтва пролетарыяту пад знакам барацьбы з клясавым ворагам.

Пролетарская літаратура вядзе барацьбу з нацыянал-дэмократызмам, барацьбу за ўплыў і выхаваньне сялянскіх пісьменьнікаў і папутнікаў.

Актывізацыя варожых элемэнтаў на этапе соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, іх шкодніцкая работа ў мэтах перашкоды далейшаму соцыялістычнаму поступу знайшлі свае і далейшае яскравае і ў галіне мастацкай літаратуры і ў мастацтве наогул. Аб-

вастрэньне клясавай барацьбы паглыбіла дыфэрэнцыяцыю ў беларускай літаратуры. Першым арганізацыйным выяўленьнем клясавай дыфэрэнцыяцыі зьяўляецца раскол „Маладняка“ і ўзьнікненьне літаб'яднаньняў „Узвышша“ і „Полымя“ і рэарганізацыя „Маладняка“ ў БелАПП.

Далейшае паглыбленьне працэсу дыфэрэнцыяцыі ў пэрыод рэконструкцыі адбываецца ўжо ўнутры літаб'яднаньняў „Полымя“, „Узвышша“ і нават БелАПП.

У выніку гэтага яскрава выявілася расстаноўка клясавых сіл у літаратуры шляхам узросту і ўзмацненьня пролетарскага сэктару літаратуры, адыходу ад нацыянал-дэмократызму часткі папутнікаў і набліжэньне іх да позыцый пролетарскай літаратуры, шляхам росту сялянскіх пісьменьнікаў, а з другога боку — яскравага выяўленьня нацыянал-дэмократычнай сутнасьці раду пісьменьнікаў і адкрытага пераходу ў лягер контр-рэволюцыі такіх, як Дудар, Пушча, Дубоўка, Грамыка і некаторых іншых.

Беларуская пролетарская і савецкая літаратура рашуча змагалася і з вялікадзяржаўным шовінізмам, як з клясававарожым зьявішчам. Вялікадзяржаўны шовінізм, найбольш небясьпечны на даным этапе, прыкрывае вельмі часта сваю існасьць „левымі“ фразамі, ён праяўляецца ў супраціўленьні правядзеньню дырэктыў партыі аб разьвіцьці нацыянальных культур, супроцьставіць рускую культуру пролетарскім культурам і іншых нацыянальнасьцяй. Пад „левымі“ лёзунгамі інтэрнацыянальнай мовы валікадзяржаўныя шовіністы выступаюць супроць стварэньня культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу. У пытаньнях беларускай літаратуры гэта найбольш яскрава выявілася ў дыскусіі аб шляхох беларускай літаратурнай мовы, дзе вялікадзяржаўныя шовіністы паставілі пад знак запытаньня самае існаваньне беларускай мовы, зрабіўшы спробу зьняць пытаньне русыфікатарскай політыкі на Беларусі за часы царызму. Нават і дагэтуль час-ад-часу на паасобных вучастках вялікадзяржаўны шовінізм працягвае рабіць вылазкі ці ў выглядзе абвінавачваньня беларускай літаратуры нібыта цалкам нацыянал-дэмократычнай, ці ў выглядзе высьмейваньня мовы ў вучоных дакладах з профэсарскіх катэдр, ці ў выглядзе ігнараваньня беларускай тэматыкі, а іншы раз ён змыкаецца з рэштками беларускага нацыянал-дэмократызму, пачынаючы дыскрэдытаваць беларускія пролетарскія творы, працягваючы разважаньні аб немагчымасьці існаваньня пролетарскай культуры ў БССР і г. д..

На даным этапе будаўніцтва соцыялізму ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы аж да ліквідацыі клясаў магчымы праявы беларускага нацыянал-дэмократызму ў мастацкай літаратуры, вылазкі вялікадзяржаўнага шовінізму ў пытаньнях беларускай літаратуры і вылазкі клясавага ворага ў іншых адкрытых і замаскаваных формах—гэта абавязвае пільна сачыць за клясавым ворагам і даваць яму своечасовы і рашучы адпор на літаратурным фронце. Адгэтуль вынікае асаблівая задача літаратуры ў БССР весьці і надалей рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, галоўнай нобясьпекай на даным этапе, з беларускім нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам яўрэйскім, польскім і іншымі.

Асаблівасьць ролі беларускай літаратуры састаіць і ў барацьбе за ленінскія прынцыпы ў правядзеньні нацыянальнай політыкі. Шматнацыянальнасьць БССР, дзе моманты клясавыя памнажаюцца на нацыянальныя пытаньні, патрабуе ад савецкага пісьменьніка правільнага асьвятленьня і паказу правядзеньня нацыянальнай політыкі. І тут, як і ў іншых пытаньнях, мы не павінны забываць, што паказ правядзень-

ня ленінскай лініі ў нацыянальным пытаньні ў БССР зьяўляецца ня толькі справай інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных, але і адным з мэтодаў нашай комуністычнай пропаганды на Захадзе, таго што толькі пры дыктатуры пролетарыяту можа быць вырашана, вякамі, нявырашанае нацыянальнае пытаньне.

Як беларуская мастацкая літаратура, так і літаратура расійская, яўрэйская, польская і літоўская павінна ўзмацняць паказ брацкага адзінства пролетарыяту і працоўных усіх нацыянальнасьцяй БССР, якія пад кіраўніцтвам ленінскай партыі будуюць соцыялізм тут, стоячы на рубяжы з фашысцкай Польшчай.

Такім чынам, беларуская літаратура, выконваючы агульную ролю літаратуры сусьветнай рэволюцыі, мае і асаблівыя задачы, якія выцякаюць з прымежнага становішча БССР, — з нябачна шпаркіх тэмпаў будаўніцтва, — з складанасьці нацыянальнага пераплёту і задачы барацьбы за ленінскую нац. політыку супроць вялікадзяржаўнага шовінізму і мясцовых нацыяналізмаў.

## IV. Літаратура—зброя ў барацьбе за соцыялізм

У проекце рэзолюцыі па пытаньнях пролеткультаўскага руху ў 1920 г. Ленін гаварыў так: „У савецкай рабоча-сялянскай рэспубліцы ўся пастаноўка асьветы як у політыка-асьветнай галіне наогул, тая і спэцыяльна ў галіне мастацтва павінна быць прасякнута духам клясавай барацьбы пролетарыяту за пасьпяховае ажыцьцяўленьне мэты яго дыктатуры, г. зн. за зьвяржэньне буржуазіі, за зьнішчэньне клясаў, зьнішчэньне ўсякай эксплёатацыі чалавека чалавекам“. З клясавай прыроды літаратуры як аднэй з галін мастацтва і выцякае тое, што наша савецкая літаратура цалкам ставіць сабе задачы, якія адпавядаюць пэрыодам барацьбы і будаўніцтвам. Маючы об'ектам свайго зьместу ўсю рознастайнасьць зьяў нашай рэчаіснасьці, адлюстроўваючы, паказваючы гэтыя зьявы з пункту гледжаньня авангарду пролетарыяту, мастацкая літаратура павінна ў першую чаргу асьвятляць, ставіць і вырашаць проблемы найбольш актуальныя на гэтым этапе барацьбы за соцыялізм, у барацьбе з клясавым ворагам. Паказ конкрэтных прыкладаў барацьбы за соцыялізм, мобілізацыя ўвагі пролетарскай грамадзкасьці навокал прыкладаў адданай соцыялістычнай працы па сканчэньні пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі, паказ лепшых ударнікаў-герояў соцыялістычнага будаўніцтва, лепшых вынаходцаў і г. д., і г. д. зьяўляюцца тымі актуальнымі проблемамі, над якімі працуе зараз савецкая літаратура.

Калі возьмем такое пытаньне, як выхаваньне чалавека соцыялістычнай грамады, дык тут роля літаратуры сапраўды вялізарная і пачэсная. Новыя адносіны да працы, разуменьне задач соцыялістычнага будаўніцтва, умелая ўвязка гэтага разуменьня з конкрэтным плянам заводу, цэхаў і варштату, герочнае выконваньне работы новымі соцыялістычнымі мэтодамі працы і адначасова з гэтым таварыская дапамога таму, хто адстае, новыя брацкія адносіны да сваіх таварышоў у быце — усё гэта вельмі і вельмі часта спалучаецца ў асобе героя нашага будаўніцтва.

Усесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў (В. О. АПП) і яго атрад Бел АПП узяліся за гэтую справу паказу герояў. Неабходна, каб уся савецкая літаратура з напружанай творчай воляй шырока разгарнула вялікую справу, вастрыём мастацкага слова, пераробкі чалавека, выхоўваньня чалавека на конкрэтных прыкладах,

паказваючы адначасова пэрспэктыву комуністычных адносін паміж людзьмі.

Толькі пролетарская літаратура здольна сапраўды адлюстраваць усе процэсы пераробкі чалавека ў іх дыялектычнай супярэчлівасьці, бо яна літаратура клясы, якая дае тыпы новага чалавека, клясы, якая будуе новае жыцьцё. Рухомай сілай літаратуры зьяўляецца ідэя соцыялізму, якую ажыцьцяўляюць мільёны пролетараў і працоўных. Яшчэ ў 1905 годзе Ленін вызначаў шляхі літаратуры, якую павінна стварыць рабочая кляса і партыя рабочай клясы. — „Гэта будзе свабодная літаратура, таму што не карысьць і не кар'ера, а ідэя соцыялізму і спачуваньне працоўным будзе вербаваць новыя і новыя сілы ў яе рады. Гэта будзе свабодная літаратура, таму што яна будзе служыць не прасычанай героіне, ня тым, хто сумуе і страдае ад ажырэньня „верхним десяти тысячам“, а мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных, якія складаюць цьвет краіны, яе сілу, яе будучыню. Гэта будзе свабодная літаратура, апладатвараючая апошняе слова рэволюцыйнай думкі чалавецтва вопытам і жывой работай соцыялістычнага пролетарыяту, ствараючы сталае ўзаемадзеяньне паміж вопытам мінулага (навуковым соцыялізмам, які завяршыў разьвіцьцё соцыялізму ад яго прымітыўных утопічных форм) і вопытам сучаснага (сучасная барацьба таварышоў рабочых)“. Гэта Ленінская ўстаноўка, якую ён даваў 26 год назад у артыкуле „Партыйная організацыя і партыйная літаратура“, ажыцьцяўляецца рабочай клясай з вялікім посьпехам.

У літаратуру ідуць новыя і новыя сілы — лепшыя сыны клясы, рабочыя ўдарнікі. Літаратурная справа стала неадрыўнай „часткай агульнапролетарскай справы“. Новыя сілы даюць новы вопыт, узмацняюць рады літаратуры, якая служыць „мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных“. Праўда, у нас ёсьць яшчэ опортуністычная недаацэнка вялікай справы закліку ўдарнікаў у літаратуру з боку паасобных нізавых профорганізацый і паасобных партыйцаў, але наперакор опортуністычнаму саботажу літаратура кожны дзень папаўняецца новымі сіламі. Бел АПП і Цэнтральны Савет Профсаюзаў пачалі заклік ударнікаў у літаратуру, зрабілі першы крок, трэба каб гэта работа прышчапілася ў штодзенную практыку партыйнай, комсамольскай і профэсіянальнай работы на фабрыках і заводах. Тут справа ідзе не аб кампаніі, а аб сталай рабоце па ажыцьцяўленьні ленінскай лініі ў пытаньнях стварэньня літаратуры. Фабрычна-завадзкія профэсіянальныя органы, партколектывы і комсамол Беларусі ў гэтай справе зрабілі яшчэ нямнога, работа пачата і разгортваньне яе баявая задача бягучага моманту. Заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру „азначае перш-на-перш агульны культурны рост пролетарыяту, які перайшоў у рашучы наступ на ідэолёгічным фронце, узмацненьне і пашырэньне пролетарскага літаратурнага асяродзьдзя і стварэньне неабходных прадпасылак для ператварэньня рабочага ядра ў вядучае ў творчасьці“...[1]) Рабочыя ўдарнікі ўжо даюць добрыя прыклады творчасьці, ім неабходна даць дапамогу, наладзіць сталую консультацыю пры нашых часопісах, газэтах і вылучыць сталых консультантаў з Бел АПП'у. Між іншым, на дапамогу новым кадрам, якія ідуць у літаратуру, павінны прыйсьці і такія ўстановы, як Інстытут Літаратуры і Мастацтва БАН, літаратурнае аддзяленьне Пэдфаку БДУ і Таварыства літаратуразнаўцаў марксыстаў. А па праўдзе кажучы, нашы т. т. з гэтых устаноў яшчэ слаба раскачваюцца ў гэтым

[1]) З рэзолюцыі пленуму праўленьня РППА па дакладу т. Авербаха. Часопіс „На литературном посту“ № 9 за 1931 г.

напрамку, па праўдзе кажучы, і комсамол Беларусі яшчэ недастатковa мобілізаваў увагу нізавых організацый да закліку ўдарнікаў у літаратуру. З недаацэнкай, з тармажэньнем аўладаньня шырокімі пролетарскімі масамі літаратурай мы павінны змагацца, як з праявай опортунізму, бо політыка партыі ў галіне літаратуры заўсёды адпавядала ленінскай установоўцы ў гэтым пытаньні: „у процівагу буржуазнаму літаратурнаму кар'ерызму і індывідуалізму, „барскаму анархізму“ і пагоні за нажывай,— соцыялістычны пролетарыят павінен высунуць прынцып партыйнай літаратуры, разьвіць гэты прынцып і правесьці яго ў жыцьцё ў магчыма больш поўнай і цэлай форме... Далоў літаратараў беспартыйных! Далоў літаратараў звыш-чалавекаў! Літаратурная справа павінна стаць часткай агульна-пролетарскай справы, „калёсікам і вінцікам“ аднаго адзінага, вялікага соцыял-дэмократычнага мэханізму, які прыводзіцца ў рух усім сьвядомым авангардам усяе рабочае клясы. Літаратурная справа павінна стаць састаўной часткай організаванай, плянамернай, аб'яднанай соцыял-дэмократычнай партыйнай работы“[1]). Пролетарыят пад кіраўніцтвам партыі вядзе разгорнутую барацьбу на два фронты за партыйнасьць на ідэолёгічным фронце (з мэханістызмам, з дэборыншчынай у фізолёфіі, рубіншчанай у політэкономіі) у тым ліку і на яго літаратурным вучастку (пераверзеўшчына, „Літ-Фронт“, варонщчына, троцкізм, нацдэмократызм, вялікадзяржаўны шовінізм і інш.). У гэтай барацьбе мы разграмілі ворага, але яго трэба дабіць, таму неаслабная ўвага да літаратурнага вучастку ідэолёгічнай барацьбы павінны быць мобілізавана і на далейшы час. Нельга-ж забываць таго, што мы вядзем барацьбу, каб перамагчы „самае глыбокае і самае магутнае“ ідэйнае супраціўленьне капіталістаў, якое выяўляецца ў рознастайных формах і ў літаратуры. Канчатковая перамога тут забясьпечана тым, што літаратура стала справай шырокіх пролетарскіх мас, часткай вялікай агульна-пролетарскай справы. Савецкая літаратура і ў творчасьці мае такое шырокае поле дзейнасьці, якога ня мела ніколі, ды ніколі і не магла і ня можа мець буржуазная літаратура.

Багацьце матар'ялу, якім опэруе мастацкая літаратура ў барацьбе за соцыялізм, дае поўную магчымасьць скарыстаньня ўсіх шматлікіх рознастайных жанраў. Разам з такімі мастацкімі палотнамі, як роман, аповесьць, поэма, перад намі разгортваюцца такія формы, як фэльетон, нарыс, вершаваны лёзунг, эпіграма і іншыя. Справа ня ў тым, які жанр выбірае пісьменьнік, а ў тым як ён будзе гэта рабіць. Для прыкладу возьмем якую-небудзь аповесьць Горкага і параўнаем з большым па форме творам якога-небудзь пісьменьніка, які яшчэ не аўладаў цалкам пролетарскім сьветапоглядам, і мы ўбачым, што форма і ідэёвая накіраванасьць твору—гэта цесна зьвязаныя пытаньні. Горкі гэта вырашае правільна, а ў нас часта спрачаюцца аб жанрах, адрываючы гэта пытаньне ад іншых актуальных пытаньняў літаратуры, як ідэйная накіраванасьць, аўладаньне дыялектычна-матэрыялістычным мэтодам і вышыня мастацкай якасьці.

Паглядзімо на такі прыклад. У аднэй з беларускіх цэнтральных газэт была зьмешчана поэма аб грамадзянскай вайне, аб цяжкасьцях барацьбы, голадзе і інш. Тэма багатая, але аўтару шмат чаго не хапала акрамя часу, нават і з мастацкімі вобразамі было ня ўсё добра. У яго голад быў паказан, мякка кажучы, прымітыўна:

— „Сабакі грызьлі чалавека,
а чалавек глытаў сабак“.

[1]) Ленін—„Партыйная організацыя і партыйная літаратура“, сьнежань 1905 г.

Поэма ня зусім была ясна, і зразумець яе сэнс было цяжка. А іншы раз эпіграма мацней за гэтую поэму. Варта ўспомніць эпіграму Дзям'яна Беднага на помніку Александру трэцяму ў Ленінградзе, каб упэўніцца ў тым, што справа выбару таго ці іншага жанру зьвязана з сутнасьцю твору. Мы наўмысьля прыводзім некалькі прыкладаў, каб перасьцерагчы нашых маладых пісьменьнікаў, толькі што прышоўшых у літаратуру, што пытаньні жанру нельга адрываць ад іншых пытаньняў і толькі па жанру вызначыць вартасьць твору. Рабочага качагара Кобэца, які даў беларускай літаратуры і тэатру „Гута", таксама палохалі, што з драматургіяй у яго справа будзе дрэнная і той сёй раіў „лепш вершы пішы". Кобэц не спалохаўся гэтага і працаваў далей над „Гутай". Па соцыяльнай вартасьці „Гута" ўсё-ж адна з лепшых п'ес беларускіх тэатраў, нават гэта адзначана і на Усесаюзнай олімпіядзе.

Шматлікасьць і рознастайнасьць жанраў дае шырокую магчымасьць, у адпаведнасьці з індывідуальнымі здольнасьцямі, творчай рабоце новым кадрам літаратуры.

Не другараднае месца ў пытаньнях літаратуры павінна займаць работа над мовай мастацкай літаратурай, бо наша літаратура мае мільёны і дзесяткі мільёнаў чытачоў, яна і разьлічана на іх. Асабліва востра гэта пытаньне стаіць у нас, у беларускай літаратуры. Проблема лінгвістыкі стаіць перад БАН і яе інстытутамі ва ўсю шырыню. На гэтым вучастку вялася і вядзецца клясавая барацьба. Нам вядомы факты, калі нацыянал-дэмократы, праводзячы шкодніцкую дзейнасьць на ідэолёгічным фронце, дайшлі да таго, што пролетарыят замянілі словам „убоства", „галота". Такім чынам, ні дыктатура пролетарыяту, а панацдэмаўску „дыктатура убоства" альбо „галоты". Слова „яўрэй" замянілі словамі: „пархх", „жыдочак"; прадаўца (прыказчыка) абазначалі словам „прыганяты" (ад прыгону ў часы паншчыны). Шмат іншых прыкладаў ёсьць з гэтай дзейнасьці ворагаў. Не адставалі ад нацыянал-дэмократаў і вялікадзяржаўныя шовіністы, якія нават па закуцьцям вылі па літаратуры „и", калі кожнае беларускае слова перакручвалі і засьмейвалі, а ў свой час і адкрыта выступалі з адмаўленьнем беларускай мовы. Нявольніцкія словы як з боку беларускай буржуазіі, таксама і рускай заносіліся і ў беларускую літаратуру, словы, якія адыйшлі ў вечнасьць, штучна консэрваваліся, клясавы вораг супраціўляўся.

„Праклятьі час эзопаўскай мовы, літаратурнага халопства, мовы рабоў, ідэйнага крэпасьніцтва! Пролетарыят палажыў канец гэтай гнуснасьці, ад якой душылася ўсё жывое і сьвежае"...[1]). Рэволюцыйная барацьба пролетарыяту і працоўных мас, соцыялістычнае будаўніцтва нарадзілі і нараджаюць новыя словы, якія ўзбагачаюць беларускую мову, мову, якая ў часы царызму была забаронена, але ідэолёгі буржуазіі яшчэ вядуць барацьбу за мову халопскую і нявольніцкую. Наша савецкая літаратура і ў першую чаргу пролетарскі атрад яе вядзе барацьбу супроць варожых вылазак у пытаньнях мовы, узбагачае беларускую літаратуру новымі словамі, народжанымі барацьбой і будаўніцтвам, але тут мы яшчэ вельмі мала зварочваемся да мовазнаўчай спадчыны Маркса, Энгельса, Леніна і Лафарга. Барацьба за марксызм і ленінізм у лінгвістыцы — частка агульнай барацьбы на ідэолёгічным фронце, якая мае непасрэднае дачыненьне да літаратуры.

Агонь рэволюцыі пераплаўляе ня толькі грамаду, псыхолёгію, але і мову. Новыя словы нельга выдумаць седзячы нават і ў лінгвістычнай камісіі якой-небудзь навуковай установы, новыя словы дае жыцьцё,

[1]) Ленін, том VIII, стар. 386.

гісторыя, а паколькі ўся гісторыя чалавецтва ёсьць гісторыя барацьбы клясаў, можна сказаць, што пролетарыят і яго саюзьнік працоўнае сялянства ў процэсе барацьбы зьмянялі мову, абнаўлялі яе, папаўнялі і ўзбагачалі. Рэволюцыя дала шмат зьмен і шмат унесла новых разуменьняў у значэньне таго ці іншага слова. Слова „суполка“ і „колгас“ зусім розныя словы, першае корнямі сваімі ўваходзіць у абшчыннае жыцьцё вёскі, а апошняе вырастае з рэволюцыі, з соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Нам вядома, з якім шумам і протэстамі сустрэлі гэта слова нацыянал-дэмократы, соцыяльная прырода слова „суполка“ ім была дарага і яны біліся за яго.

Гісторыя ведае такія прыклады, калі супроць новых слоў у часы францускай рэволюцыі консэрватары патрабавалі ўтварэньня „сэнату па ахове мовы“. Пры дыктатуры пролетарыяту, зразумела, ніхто ня ставіў пытаньня аб гэткім сэнаце, але „сэнатары“ вялі і вядуць яшчэ барацьбу за консэрватызм мовы, супроць узбагачэньня мовы новымі словамі, якія ствараюцца рэволюцыяй і соцыялістычным будаўніцтвам. Няхай паны ідэолёгі буржуазіі і кулацтва паспрабуюць выступіць і даводзіць, што няма ў літаратурнай мове слоў „ударнік-колгасьнік“. іх выкінуць у любым колгасе, бо там напружваюць людзі ўсю сваю волю, каб быць носьбітамі гэтай назвы.

Савецкі пісьменьнік павінен стаяць на варце мовы рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва, змагаючыся з халопскай, нявольніцкай, эзопаўскай мовай, „ад якой душылася ўсё жывое і сьвежае“, змагаючыяся з архаізмам з чапляньнем за старое. Твор з архаічнай, эзопаўскай мовай ня будзе прыняты, бо ён ня наш. Тут, праўда, трэба мець на ўвазе і іншы бок справы—барацьбу са зьніжэньнем прыгожасьці мовы, з апашленьнем мовы, а ў нас такія прыяцелі дзе-ні-дзе паказваюць сваю прыць і даюць, напрыклад, такія выразы ў літаратуры—„конь мой дыша газай цёплай“. Як з апашленьнем мовы, таксама і з будуарным арыстократызмам трэба змагацца.

Мы закранаем пытаньне аб мове беларускай літаратуры ў парадку пастаноўкі перад пісьменьніцкімі організацыямі, Таварыствам марксыстаў, Беларускай Акадэміяй Навук, друкам і нашай грамадзкасьцю. Мы мала ўдзяляем увагі клясавай барацьбе ў лінгвістыцы і недастаткова мобілізуем увагу грамадзкасьці да клясавай барацьбы ў пытаньнях мовы. Пытаньні мовы—клясавыя пытаньні і зьяўляюцца часткай барацьбы на ідэолёгічным фронце за марксызм, за ленінізм.

Масавасьць мастацкай літаратуры прадпалагае шчыльную, непарыўную сувязь яе з усім комуністычным друкам. Бальшавіцкі друк яшчэ ў дарэволюцыйныя часы вырошчваў такіх песьняроў пролетарыяту, як Дзям‘ян Бедны. У БССР у вырашчваньні літаратурных кадраў у часы рэвалюцыі вялікую ролю адыгрывала старая бальшавіцкая газэта „Зьвязда“. Яўрэйская пролетарская літаратура, напрыклад, вырасла выключна з бальшавіцкага яўрэйскага друку, ім выхавана і пастаўлена на ногі. У практычнай рабоце друк дапамагае літаратуры быць у самай цеснай сувязі з самымі шырокімі масамі, з другога боку, літаратура дапамагае друку сілай мастацкага слова выконваць ролю організатара волі працоўных. Ці-ж не зьяўляюцца літаратурныя брыгады нашых газэт „камандзірамі пролетарскай грамадзкай думкі“? Бязумоўна, зьяўляюцца. Літаратурныя брыгады „Правды“, літаратурныя брыгадзіры нашых цэнтральных газэт гэта давялі на справе. Работа савецкіх пісьменьнікаў у нашым друку зьяўляецца лепшым прыкладам соцыялістычнага сумяшчэньня. Горкі сумяшчае гэтыя пачэсныя ролі — работніка комуністычнага друку, сталага рабкора „Правды“ і песьняра рэволюцыі.

Сіла творчасьці Горкага і састаіць у тым, што барацьба за агульна-пролетарскую справу ў яго непадзельна ад літаратурнай творчай дзейнасьці. Горкі давёў як можна літаратуру зрабіць „часткай агульна-пролетарскай справы“. Жывым прыкладам непахіснага, стойкага пісьменьніка - барацьбіта, буравесьніка рэволюцыі стаіць перад намі Аляксей Максімавіч. А хто-ж, як ня Горкі, паказаў нам асабліва ў апошні час прыклад лепшага работніка друку. Варта ўспомніць яго апошнія артыкулы: „Калі вораг не здаецца — яго зьнішчаюць“, „Аб здрадніках“, „Аб сапраўднасьці“, „Адказ інтэлігенту“ і г. д., каб сказаць, што друк мае ў асобе Горкага лепшага ўдарніка-барацьбіта.

У штодзеннай рабоце літаратурныя організацыі мала робяць у падрыхтоўцы такога тыпу літаратурных работнікаў. „Між тым трэба выхоўваць тып літаратурнага, у прыватнасьці газэтнага, работніка, які-б здолеў даваць жывое, захапляючае апісаньне нашай соцыялістычнай будоўлі, усіх яе гіганцкіх дасягненьняў, усіх яе недахопаў. Нам патрэбна баявая літаратура, якая-б жыва адгукалася на баявыя пытаньні соцыялістычнага будаўніцтва, якая-б штодзенна мобілізавала масы навакол задач ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі. Зусім недапушчальна высокамерная зьнявага да гэтага роду літаратуры. Нам патрэбны нарысы, корэспондэнцыі, нам патрэбны артыкулы, якія-б дапамагалі ўяўляць значэньне кожнай асобнай работы для выкананьня ўсяго пляну работ. Зразумела, гэта ня значыць, што трэба даваць мамантальныя здымкі ўсяго таго, што адбываецца навакол, без аналізу таго, што адбываецца, без тлумачэньня таго, чаму ў нас той ці іншы недахоп, як мы прабіваемся ўперад да новых дасягненьняў... Было-б зусім недапушчальным, грубым упрашчэнствам зводзіць пролетарскую літаратуру да газэтных нарысаў і плякатных вершаў у духу Лефаўскіх тэорый „літаратуры факту“. Нам патрэбны вялікія творы, якія ўзбагачаюць і паказваюць прыклад соцыялістычнага будаўніцтва ў шырокім маштабе, якія патрабуюць упартай работы, вучобы, „вынашивания“, аўладаньня пісьменьніцкай тэхнікай „высшей пробы“. Але патрэбна, каб аўтары гэтых твораў паказвалі жыцьцё і работу мас і іх прадстаўнікоў, паказвалі і нашу рэчаіснасьць ва ўсёй яе шматвобразнасці, а не адмяжоўваліся ад гэтай рэчаіснасьці кітайскай сьцяной асабістых перажываньняў сваіх герояў“ [1]). Сувязь і органічная сувязь паміж друкам і беларускай літаратурай ёсьць. Справа ідзе не аб гэтым, а аб тых прарывах, якія ёсьць, увага павінна быць накіравана на ліквідацыю прарыву, на наладжаньне бесьперабойнай шчыльнай сувязі паміж літаратурай і друкам. З свайго боку цэнтральныя і раённыя газэты павінны павялічыць увагу да літаратуры, як гэта робіць „Правда“.

Беларускі друк адыграў вялікую ролю ў барацьбе на літаратурным фронце, але з справай вырошчваньня новых кадраў літаратуры, з організацыяй далейшага пашырэньня закліку ўдарнікаў у літаратуры яшчэ ёсьць недахопы, якія неабходна ліквідаваць. Іншы раз маленькі недахоп, маленькі прарыў у сувязі друку з літаратурай ня зусім добра адбіваецца на справе змаганьня за гегемонію пролетарскай літаратуры. У сваю чаргу савецкія пісьменьнікі павінны больш рашуча ўключыцца ў практычную работу друку. Мы за скарыстаньне Горкаўскага прыкладу ў нас. Горкі, Дзям‘ян Бедны, нябошчык Маякоўскі — вось прыклады соцыялістычнанага сумяшчэньня высокамастацкай літаратуры і друку. Мы галасуем за работу пісьменьнікаў па-Горкаўскі.

*(Канец у наступным нумары).*

[1]) Рэдакцыйны артыкул „Правды“ — „За пролетарскую літаратуру“ за 19/IV-1931 г.

В. Аксельрод.

# Марксыцка-ленінскія прынцыпы контролю за выкананьнем пляну

Дыялектычнае разуменьне „народна-гаспадарчага цэлага“ ў корані адрозьніваецца ад мэханістычнага яго разуменьня з пункту погляду тэорыі роўнавагі. Дыялектыцы чужда негістарычнае разуменьне вытворчасьці. „Калі гутарка ідзе аб вытворчасьці—кажа Маркс—то заўсёды аб вытворчасьці на пэўнай ступені грамадзкага разьвіцьця“ (уводзіны да крытыкі палітэкономіі). „Вызначэньні, якія прылажымы да ўсялякай вытворчасьці наогул, якраз павінны быць адкінуты, каб за адзінствам ня былі забыты істотныя адзнакі“. Таму з дыялектычнага пункту погляду ўнівэрсальныя законамернасьці, маючыя быццам моц для ўсялякай гістарычнай эпохі, становяць сабой унівэрсальную бяссэнсоўнасьць. Маркс спачувальна цытуе рэцэнзэнта I-га тому „Капіталу“, які кажа: „Іншаму чытачу можа пры гэтым прысьці на думку і такое запытаньне... агульныя-ж законы экономічнага жыцьця адны і тыя-ж усё роўна ці прыстасоўваюцца яны да сучаснага ці да мінулага жыцьця. Але іменна гэтага Маркс і не прызнае. Такіх агульных законаў для яго ня існуе. Па яго думцы, наадварот, кожны гістарычны пэрыод мае свае законы... Але ня толькі жыцьцё перажыло даны пэрыод разьвіцьця, вышла з данай стадыі і ўступіла ў другую, яна пачынае кіравацца ўжо іншымі законамі“ (Прадмова да II-га выданьня першага тому „Капітал“). Задачай экономістаў з пункту погляду дыялектыкі зьяўляецца выяўленьне спэцыфічных экономічных законамернасьцяй таго ці іншага гістарычнага пэрыоду. Вытворчасьць кожнага гістарычнага пэрыоду становіць сабою спэцыфічную форму адзінства вытворчых сіл і вытворчых адносін. Пры гэтым вытворчасьць не становіць сабой мэханічнае аб'яднаньне тожсамых „элемэнтаў“, як гэта ўяўляюць сабе прыхільнікі тэорыі роўнавагі, а адзінства супроцьлегласьці ўсіх сваіх момантаў: вытворчасьці, разьмеркаваньня, абмену і спажываньня. „Дасягнуты намі вынік заключаецца ня ў тым, што вытворчасьць, разьмеркаваньне, абмен і спажываньне адно і тое-ж, але што ўсе яны складаюць сабой часткі цэлага, адзнакі ўнутры адзінства. Вытворчасьць у супроцьлегласьці сваіх вызначэньняў ахоплівае як самога сябе, так і астатнія моманты“ (Уводзіны да крытыкі...). Вызначаючым момантам у гэтым адзінстве супроцьлегласьці зьяўляецца вытворчасьць. Спэцыфічная ўнутраная супярэчнасьць таго, альбо іншага гістарычнага спосабу вытворчасьці вызначае сабою характар разьмеркаваньня, абмену і спажываньня і іх адносіны паміж сабою, абумоўлівае форму іх руху. „Пэўная (форма) вытворчасьці абумоўлівае такім чынам пэўныя (формы) спажываньня, разьмеркаваньня, абмену і пэўныя адносіны

гэтых розных момантаў адзін да аднаго" (там-жа) Маркс не выключае, зразумела, а наадварот прадпалагае ўзаемадзеяньне паміж вытворчасьцю і астатнімі момантамі. „Паміж рознымі момантамі адбываецца ўзаемадзеяньне. Гэта бывае ва ўсялякім органічным цэлым" (там-жа). У адносінах да капіталізму Маркс з вычарпальнай паўнатою паказаў, як унутраная супярэчнасьць капіталістычнай вытворчасьці, супярэчнасьць паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватным характарам прысваеньня вызначае антагоністычны характар супярэчнасьці паміж вытворчасьцю, разьмеркаваньнем, абменам і спажываньнем і стварае крызісы, як нямінучую форму вырашэньня гэтай супярэчнасьці, г. зн. як форму іх руху. З клясава-антагоністычнага характару супярэчнасьці вынікае таксама нямінучасьць усё далейшага яе абвастрэньня і ў канчатковым выніку да гібелі капіталістычнай сыстэмы.

Асноўнай спэцыфічнай супярэчнасьцю пераходнага пэрыоду зьяўляецца супярэчнасьць „паміж соцыялістычнай тэндэнцыяй пролетарыяту і таварна-капіталістычнай тэндэнцыяй сялянства" (Ленін). Сялянства, будучы прадастаўлена самому сабе, „нараджае капіталізм і буржуазію заўсёды штодзенна, штогадзінна, стыхійна і ў масавым маштабе". Гэтай стыхійнай тэндэнцыяй сялянства нараджаць штогадзінны капіталізм фактычна жывіцца моц капіталістаў гораду і вёскі. Гэтая супярэчнасьць паміж абедзьвюма тэндэнцыямі, такім чынам, дае глебу для клясава-антагоністычнай супярэчнасьці паміж пролетарыятам і капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі, якая выражана ленінскай формулай: „хто—каго". Адсюль неабходнасьць для пролетарыяту правільнай політыкі саюзу з сялянствам. Гэты саюз не выключае, а, наадварот, прадпалагае барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі сялянства." Нельга таму забываць аб сталай дыфэрэнцыяцыі селянства, нельга падыходзіць да сялянства „наогул", як гэта робяць мэханісты, для якіх „зьнікае кудысьці наяўнасьць соцыяльных груповак і застаецца адна толькі шэрая пляма, называемая вёскай" (Сталін). Нельга таксама забываць аб падвоенай прыродзе асноўных мас сялянства-серадняцтва. „Селянін, як працаўнік, цягне да соцыялізму, аддаючы перавагу дыктатуры рабочых перад дыктатурай буржуазіі. Селянін, як прадавец збожжа, цягне да буржуазіі, да вольнага гандлю, г. зн. назад да „прызнанага", старога, „спаконвечнага" капіталізму (Ленін). З гэтага вынікае шкоднасьць буржуазных „забабон у політычнай экономіі"—так званай тэорыі „самацёку". На падставе „самацёку" сялянства здольна выдзеліць толькі капіталізм. Каб рэалізаваць „тружаніцкую" тэндэнцыю селяніна-серадняка, каб ператварыць яго „цягу" да соцыялізму з магчымасьці ў сапраўднасьць, „неабходна яшчэ апрача ўсяго іншага насаджаць у вёсцы буйныя соцыялістычныя гаспадаркі ў выглядзе саўгасаў і колгасаў, як базу соцыялізму, якія могуць павесьці за сабой на чале з соцыялістычным горадам асноўныя масы сялянства" (Сталін). Значыць толькі пры ўмовах актыўнага ўзьдзейнічаньня пролетарыяту можа быць ажыцьцёўлена проблема соцыялістычнай пераробкі асноўных мас сялянства. Гэтая задача будзе пролетарыяту пад сілу толькі пры правільнай політыцы партыі на хуткія тэмпы соцыялістычнай індустрыялізацыі. Такім чынам, асноўнай і спэцыфічнай законамернасьцю пераходнага пэрыоду зьяўляецца законамернасьць соцыялістычнага абагульваньня сродкаў вытворчасьці і працы, законамернасьць узьнікненьня, вярней—*пабудовы* соцыялістычнай экономікі, другім бокам якой (законамернасьці) зьяўляецца абмежаваньне і ліквідацыя кулацтва, як клясы. Гэтая законамернасьць выключае стыхійнасьць, самацёк, як форму руху. Формай

руху становіцца плян. Калі з пункту погляду громаншчыны дырэктыва падпарадкавана прогнозу і плян прадстаўляе сабой падпарадкаваны момант, альбо „пасыўны рэфлекс“ кон'юнктурных нагляданьняў, то з пункту погляду дыялектыкі плян становіць сабой дырэктыву, якая ўключае ў сабе прогноз, як момант. Праўда, з формальнага боку громанцы і правыя часамі прымушаны прызнаць „адзінства“ дырэктывы і прогнозу ў пляне, але гэтае „адзінства“ застаецца ў іх чыста формальным. Дырэктыва і прогноз застаюцца знадворнымі момантамі, „дырэктыва“ фактычна цалкам „зьнімаецца“ прогнозам, паколькі экономічная політыка павінна па іх думцы прыстасавацца да стыхійных законамернасьцяй, г. зн. браць курс на самацёк. Плян зводзіцца, такім чынам, громанцамі да пустой формы. Любімай пагаворкай Громана была: „не стварайце асяродзьдзя, а вывучайце яго“. Кон'юнктурныя нагляданьні, якія вывучаюць „об'ектыўны“, г. зн. стыхійны ход разьвіцьця гаспадарчых процэсаў, — вось аснова „плянаваньне“ па Громану. У сапраўднасьці плян зьяўляецца *законам руху* нашай экономікі і яго ажыцьцяўленьне магчыма толькі на падставе мобілізацыі актыўнасьці мас на яго выкананьне. Для *ператварэньня* пляну ў жыцьцё патрэбна, „па-першае, каб былі рэальныя, альбо, як у нас выражаюцца, „об'ектыўныя“ магчымасьці для гэтага. Па-другое, каб было жаданьне і ўменьне кіраваць нашымі прадпрыемствамі такім чынам, каб гэтыя магчымасьці былі ператвораны ў жыцьцё“ (Сталін). Таму з пункту погляду дыялектыкі плянаваньне ня зводзіцца да складаньня плянавай зводкі.

„Толькі бюрократы могуць думаць, што планавая работа *заканчваецца* складаньнем пляну. Складаньне пляну ёсьць толькі *пачатак* плянаваньня. Сапраўднае, плянавае кіраўніцтва разгортваецца толькі пасьля складаньня пляну, пасьля праверкі на мясцох, у ходзе ажыцьцяўленьня, выпраўленьня і ўдакладненьня пляну“ (Сталін). Плянаваньне ня ёсьць нешта застыўшае, а дыялектычна разгортваючаеся. Плянаваньне ёсьць актыўны процэс мобілізацыі мас на выкананьне пэўнага заданьня, афармленага ў пляне, разьлічанага на пэўны адрэзак часу, як этап у пабудове соцыялізму. З гэтага пункту погляду складзены плян „Ёсьць толькі плян, які прыняты ў парадку першага набліжэньня, які трэба ўдакладняць, зьмяняць і ўдасканальваць на падставе вопыту месц, на падставе вопыту выкананьня пляну“ (Сталін). Адсюль—контроль за выкананьнем пляну ня ёсьць нешта самагоднае, нагляданьне пабочнага глядача, які цікавіцца, „наколькі ўдаўся плян, а становіць самы неабходны момант самога плянаваньня. Нагляданьне за выкананьнем пляну неабходна як з боку выяўленьня магчымасьцяй яго перавыкананьня, так і з боку сваячасовага выяўленьня прарываў у яго выкананьні на тым альбо іншым вучастку для іх сваячасовай ліквідацыі. Такім чынам, калі плян ставіць сабой адзіную магчымую форму руху асноўнай нашай законамернасьці соцыялістычнага абагульваньня, то контроль за выкананьнем пляну ёсьць неабходная форма яго (пляну) рэалізацыі. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што як плян, так і контроль за яго выкананьнем мяняюць свой характар у зьвязку з разьвіцьцём самога процэсу абагульваньня“. „Вялікі пералом“, які адбыўся ў нашай экономіцы і які характарызуецца ў асноўным паваротам асноўных мас сялянства ў бок соцыялістычнага абагульваньня, даў магчымасьць аб'явіць аб соцыялістычным наступленьні на ўсім фронце, перайсьці ад політыкі *абмежаваньня* эксплёататарскіх тэндэнцый кулацтва да політыкі *ліквідацыі* яго, як клясы. У зьвязку з гэтым „па-новаму ставіцца цяпер пытаньне аб НЭП'у,

аб клясах, аб колгасах, аб экономіцы пераходнага пэрыоду". На XVI-м зьезьдзе партыі новы этап быў ахарактарызаваны, як уступленьне ў пэрыод соцыялізму. Зараз мы завяршаем пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі. Далейшыя посьпехі колектывізацыі дазволілі Чэрвеньскаму пленуму ЦК УсеКП(б) констатаваць, „што колгаснае сялянства ўжо ператварылася ў *цэнтральную фігуру* земляробства". Аднак, НЭП яшчэ ня скончаны. Першы этап соцыялізму супадае з апошнім этапам НЭП'у. Гэтая супярэчнасьць сучаснага этапу вызначае характар пляну і контролю за яго выкананьнем. Спэцыфічнасьць вытворчасьці на сучасным этапе вызначае характар разьмеркаваньня абмену і спажываньня і іх адносіны паміж сабой. Паколькі процэс соцыялістычнага абагульваньня яшчэ ня скончаны, пастолькі яшчэ рана гаварыць аб поўным адміраньні грошай, гандлю, аб простым продуктаабмене і г. д. Чым характэрны ў асноўным процэс вытворчасьці на сучасным этапе? „Адным з самых важных фактараў, калі ня самым важным фактам нашага будаўніцтва зьяўляецца ў даны момант соцыялістычнае спаборніцтва фабрык і заводаў, пераклічка 8 тысяч рабочых аб дасягнутых выніках па спаборніцтву, шырокае разьвіцьцё ўдарніцтва"... „У псыхолёгіі мас і іх адносінах да працы ўтварыўся аграмадны перелом, які ў корані зьмяніў выгляд нашых заводаў і фабрык" (Сталін. Справаздача на XVI зьезьдзе УсеКП(б). Такім чынам, рашаючым у характарыстыцы працы на даным этапе зьяўляецца пераход яе на больш высокую стадыю разьвіцьця на падставе соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Адбыўся рэзкі перелом у адносінах мас да працы. Але бяссэнсоўна думаць быццам гэта ўжо робіць лішнім вучот і контроль за вытворчасьцю і разьмеркаваньнем продуктаў. „Да таго часу, пакуль наступіць „вышэйшая" фаза комунізму соцыялісты патрабуюць *стражэйшага* контролю з боку грамадзтва і *з боку дзяржавы* над мерай працы і мерай спажываньня" (Ленін, „Дзяржава і рэволюцыя"). Толькі на вышэйшай фазе комунізму, калі праца ператвараецца ў жыцьцёвую неабходнасьць, калі „грамадзтва напіша на сваім сьцягу: „з кожнага па яго здольнасьцях, кожнаму па яго патрэбнасьцях" (Маркс), адпадзе неабходнасьць у контролі над працай. Такім чынам, „вучот і контроль—вось галоўнае, што патрэбна для „наладжваньня", для правільнага функцыянаваньня *першай фазы* комуністычнага грамадзтва" (Ленін). Аднак, у чым спэцыфічнасьць контролю і вучоту на даным этапе? Спэцыфічнасьць сучаснага этапу, як мы ўжо адзначалі вышэй, заключаецца ў тым, што ён ёсьць адначасова першы этап соцыялізму і апошні этап НЭП'у. Адсюль—спэцыфічнасьць кантролю на даным этапе конкрэтызуецца як *контроль рублём* за выкананьнем пляну. Сучасны этап становіць сабою „становление" соцыялізму, этап „простай і разгорнутай соцыялістычнай пабудовы па ўсім фронце", але нам яшчэ далёка „да пабудовы соцыялістычнага грамадзтва і зьнішчэньня клясавых розьніц" (Сталін), паколькі проблема „хто каго" цалкам яшчэ ня зьнята. Нельга атожсаміць сучасны этап з „першай фазай" комунізму. На сучасным этапе асноўным зьвяном у контролі за выкананьнем пляну зьяўляецца гаспадарчы разрахунак. „Гасп. разрахунак—кажа тав. Молатаў—азначае, што мы яшчэ працуем ва ўмовах НЭП'у, што НЭП'у яшчэ ня выжылі... паколькі яшчэ існуе НЭП, нельга па-бюрократычнаму „адмяняць" гасп. разрахунак" (Молатаў. Прамова на Усесаюзнай конфэрэнцыі працаўнікоў прамысловасьці). Гасп. разрахунак зьяўляецца неабходным мэтодам кіраўніцтва вытворчасьцю і дзяржаўна-коопэрацыйным гандлем на

даным этапе. Толькі мэханісты могуць супроцьстаўляць гасп. разрахунак плянаваньню, як выключаючыя адзін аднаго моманты. Наадварот, ажыцьцяўленьне плянаваньня на даным этапе магчыма толькі праз гасп. разрахунак. Гасп. разрахунак дае магчымасьць вучоту і контролю за выкананьнем пляну. „Перавод прадпрыемстваў на гасп. разрахунак—кажа рэзолюцыя сьнежаньскага пленуму ЦК УсеКП(б)—садзейнічае рацыянальнай пастаноўцы вучоту вытворчай дзейнасьці прадпрыемстваў і азнаямленьне мас з гэтай дзейнасьцю". Гасп. разрахунак у нашых умовах зьяўляецца ня толькі мэтодам кіраўніцтва і контролю, але зьяўляецца таксама сродкам шырокага ўцягненьня мас у справу кіраўніцтва народнай гаспадаркай і контролю за выкананьнем пляну. Гасп. разрахунак ахоплівае ня толькі заводы і цэхі, але глыбока пранікае ў пярвічныя ячэйкі нашай соцыялістычнай прамысловасьці—ударныя брыгады. Ударныя брыгады шырокай хваляй пераходзяць на гаспадар. разрахунак. Для мэханістага, усё-роўна правага ці „левага", гасп. разрахунак, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, бадай, не сумяшчальныя рэчы: адно другое выключае. У сапраўднасьці праца ў нашых умовах становіць сабою дыялектычнае адзінства абодвух момантаў: соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва і гасп. разрахунку. У гэтым адбываецца толькі падвоенасьць сучаснага этапу, як апошняй стадыі НЭП'у і першага этапу соцыялізму. Нічога ўзаемавыключаючага тут няма. Наадварот, гасп. разрахунак можа толькі разгортвацца на базе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, а апошнія—на базе гасп. разрахунку. Ударныя брыгады сапраўды ператвараюцца ў пярвічныя ячэйкі гасп. разрахунку і прамфінпляну. Гэтым самым ударніцтва падымаецца толькі на вышэйшую ступень, так як у справу плянаваньня і контролю ўцягваюцца масы. Гэтым самым пераходзяць на больш высокую ступень як сам плян, так і контроль за яго выкананьнем. Скажэньні, якія мелі месца ў практыцы правядзеньня крэдытнай рэформы, што адзначала фактычнае адсутнічаньне гасп. разрахунку, ня толькі служылі тормазам у выкананьні колькасных і якасных паказчыкаў прамфінпляну, але таксама не давалі магчымасьці сапраўднага *контролю* за іх выкананьнем. Асабліва дрэнна ўлічваліся *якасныя* паказчыкі. Кон'юнктурныя нагляданьні не пранікалі ў глыбіню рэконструкцыйных процэсаў, эфэктыўнасьць, соцспаборніцтва і ўдарніцтва ня ўлічваліся і г. д. Да рэчы, громанская мэтодолёгія, якая выходзіла з „рыначнай роўнавагі", наогул заставалася на паверхні, шукаючы, галоўным чынам, элемэнты парушэньня гэтай роўнавагі, каб узмацніць атаку на генэральную лінію партыі. Пераход брыгад на гасп. разрахунак рэзка зьмяняе справу. Ударныя брыгады, як пярвічныя ячэйкі пляну і гасп. разрахунку, рашуча ўзяліся за вызначэньне і вучот якасных паказчыкаў прамфінпляну. Так, напрыклад, брыгада фармоўшчыкаў чыгуна-ліцейнага цэху зав. імя Леніна ў сваёй адозьве да мэталістаў, тэкстыльшчыкаў, транспортнікаў і будаўнікоў адзначае: „Якасныя паказчыкі прамфінпляну фактычна *не даведзены да брыгад.* Такі рашаючы паказчык, як вытворчасьць працы, улічваецца ў нашым цэху няправільна... Мы рашылі самастойна прааналізаваць якасныя паказчыкі цэху і вызначыць, з якіх элемэнтаў павінен быць складзены сустрэчны па якасьці". Пералічваючы за гэтым падрабязна элемэнты сабекошту ў тоны ліцьця і ўзятыя на сабе абавязкі па нормах расходу матар'ялаў, брыгада зьвяртаецца да адміністрацыі: „Патрабуем ад адміністрацыі наладзіць вучот расходу матар'ялаў і ставіць ударнікаў у вядомасьць як аб расходзе, так і аб дасягнутай эканоміі... Мы патрабуем ад цэхавай адміністрацыі і гра-

мадзкіх організацый тэрмінова ўстанавіць мэтоды вылічэньня продукцыйнасьці працы“ (Матар‘ялы і тыповыя дагаворы выданьня „Прыбой“ 1931 г.).

Такім чынам, гасп. разрахунковая брыгада, конкрэтызуючы кольсасныя і якасныя паказчыкі, ліквідуючыя „абязьлічку“, становіцца пярвічнай ячэйкай вучоту і контролю за выкананьнем прамфінпляну. Цалкам апраўдваецца палажэньне Леніна: „Статыстыка была ў капіталістычным грамадзтве прадметам выключнага вядзеньня „казённых людзей“, альбо вузкіх спэцыялістаў, мы павінны перанесьці яе ў масы, популярызаваць яе, каб працоўныя павольна вучыліся самі разумець і бачыць, як і колькі трэба працаваць, як і колькі трэба адпачываць, каб параўнаньне дзелавых вынікаў гаспадаркі паасобных комун стала прадметам агульнай зацікаўленасьці і вывучэньня, каб комуны, якія вылучаюцца, узнагароджваліся зараз-жа“ (Ленін. Чарговыя задачы Савецкай Улады, том 15). Гасп. разрахунак становіцца ўсеагульным мэтодам контролю ва ўсім абагуленым сэктары. Ён пранікае ў транспорт, будаўніцтва, у коопэрацыю і ў колгасы, усюды зьнішчаючы „абязьлічку“, ураўнілаўку, ствараючы стымул да выкананьня прамфінпляну, да вучоту і контролю. Аднак, было-б няправільна думаць, што ў наглязаньнях за выкананьнем пляну можна абмежавацца толькі контролем рублём, які ажыцьцяўляецца Дзяржбанкам праз сыстэму крэдытаваньня і што таму няма неабходнасьці ў кон‘юнктурных наглязаньнях з боку опэрацыйных ведамстваў і Дзяржпляну. Банкаўскі контроль рублём, які ўкараняе гасп. разрахунак, як мэтод кіраўніцтва гаспадаркай, дае ўсе прадпасылкі для ажыцьцяўленьня вучоту ў народна-гаспадарчым маштабе. Але-ж гэты непасрэдны вучот павінен быць ажыцьцёўлен іменна опэрацыйнымі ведамствамі на чале з Дзяржплянам. Кон‘юнктурнае нагляданьне за выкананьнем пляну павінна сыстэматычна даваць малюнак *рэконструкцыйных* зрухаў у народнай гаспадарцы за адпаведны прамежутак часу (больш-менш значны), ня толькі ў грашовым выразе, але, галоўным чынам, у *тэхніка-экономічным*, адбіваючы рост вядучых галін прамысловасьці, рост энэрга-ўзброенасьці працы і яе эфэктыўнасьці, рост магутнасьці абсталяваньня і г. д., конкрэтызуючы гэты аналіз як у адносінах народнай гаспадаркі ў цэлым, так і да паасобных галін. Асабліва трэба вылучыць ў аналізе зноў уведзеныя ў дзеяньне прадпрыемствы, новыя віды вытворчасьці (штучнае валакно, сельска-гаспадарчае машынабудаўніцтва, электрапрамысловасьць і г. д.), комбінаваныя прадпрыемствы (агроіндустрыяльныя комбінаты, хэмічныя комбінаты і г. д.), ужываньне новых відаў сыравіны і г. д.. якія найбольш рэльефна адлюстроўваюць рэконструкцыйныя процэсы, каб выявіць іх эфэктыўнасьць, іх уплыў на народную гаспадарку.

Аналізуючы законы ваапраізводзтва пры капіталізьме, Маркс ускрыў падвоенасьць капіталістычнага процэсу васпраізводзтва, як процэсу накапленьня капіталу і як процэсу васпроізводзтва сродкаў вытворчасьці і сродкаў спажываньня. У гэтай падвоенасьці адбіваецца падвоенасьць капіталістычнага процэсу вытворчасьці, як процэсу працы і процэсу павялічэньня вартасьці. Законы васпраізводзтва і вазьмяшчэньня грамадзкага капіталу Маркс падае ў форме вартасных адносін паміж I+C і Iv+m; і гэта зусім зразумела, бо пры капіталізьме спэцыфічнай грамадзкай формай продуктаў зьяўляецца іх таварная форма, вартасьць зьяўляецца выключна формай выразу грамадзкай працы. Ня тое ў нас. Замест закону вартасьці ў нас законам руху зьяўляецца соцыялістычны плян. Наша накапленьне зьяўляецца соцы-

ялістычным накапленьнем. Пабудова соцыялізму патрабуе падвядзеньня поўнай матар'яльна-тэхнічнай базы. Адсюль неабходнасьць соцыялістычнай рэконструкцыі. „У эпоху рэконструкцыі—кажа тав. Сталін—тэхніка рашае ўсё. Ясна, што адно толькі грашовае адлюстраваньне процэсаў рэконструкцыі і пропорцыі паміж галінамі для нас зусім невыстарчальна. Наша задача — пабудаваць матар'яльна-тэхнічныя балянсы нашай народнай гаспадаркі і сыстэматычна даваць аналіз ломкі старых пропорцый і ўстанаўленьня новых адносін і пропорцый, якія падводзяць матар'яльную базу пад соцыялістычную пераробку нашай краіны. У гэтых адносінах лёзунг тав. Сталіна аб аўладаньні тэхнікай паўстае перад працаўнікамі вучоту са ўсёй сілай. Нельга абмежавацца толькі павярхоўным „улаўліваньнем" зьявішча; неабходна распрацоўка *конкрэтных* тэхніка-эканомічных паказчыкаў і мэтодаў іх вучоту. Працаўнікі „сынтэтычнай" кон'юнктуры, галоўным чынам кон'юнктурысты Дзяржпляну, павінны мець на ўвазе, што яны вядуць нагляданьні за выкананьнем усяго народна-гаспадарчага пляну, што плян ахоплівае ўсё наша „народна-гаспадарчае цэлае. Гэта абавязвае кон'юнктурыстых ахапіць увесь комплекс проблемы адзінства вытворчасьці, разьмеркаваньня, абмену і спажываньня на конкрэтным этапе пад кутком погляду марксыцкай тэорыіваспраізводзтва. Не дарма тав. Сталін гаварыў на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў: „Надо также поставить вопрос о популяризации марксистской теории воспроизводства... Схему баланса народного хозяйства СССР должны выработать революционные марксисты, если они, вообще, хотят заниматься разработкой вопросов экономики переходного периода". Громанскі балянсавы мэтод кан'юнктурных нагляданьняў, як мы бачылі, заключаўся ў знаходжаньні „слабага зьвяна", каб *прыстасаваць* да яго ўсю народную гаспадарку. Наша-ж задача заключаецца ў адваротным. Наглядаючы за ходам выкананьня пляну, мы павінны на кожным асобным этапе знайсьці „тое зьвяно, за якое трэба ўхапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг", г. зн. выканаць плян цалкам. Прарывы ў той ці іншай галіне вытворчасьці па законах марксавай тэорыі абнаўленьня ня могуць не перакінуцца на іншыя галіны, калі сваячасова ня прыняць мер да іх ліквідацыі. Гэтае палажэньне кан'юнктурыстамі павінна быць *конкрэтызавана* прымяніцельна да паасобных галін і да конкрэтных адрэзкаў часу. Громанскі падыход да прамысловасьці „наогул" і да сельскай гаспадаркі „наогул" павінен быць рашуча адкінуты, з гэтай „абязьлічкай" трэба рашуча пакончыць. Кон'юнктурыст павінен сабе яскрава і чотка выявіць месца і значэньне той альбо іншай галіны ў нашай народнай гаспадарцы, яе тэхніка-эконамічнае і полі[illegible]чнае значэньне на кожным конкрэтным этапе, каб быць у становішчы [illegible]я-*часова* сыгналізаваць аб прарывах, указаць *конкрэтныя* мерапрыем[illegible]ы для іх ліквідацыі і перакрыцьця. Асабліва „чуткім" кон'юнктурыст павінен быць да тых галін, якія маюць сэзонны характар, каб сваячасова сыгналізаваць аб ходзе выкананьня пляну іх. Напрыклад, кон'юнктурыст абавязан сваячасова прасачыць за ходам выкананьня пляну ў індустрыі будаўнічых матар'ялаў, каб ня зрываць будаўнічай кампаніі, у сельгасмашынабудаўніцтве, каб ня зрываць вясеньняй альбо ўборачнай кампаніі і г. д. Падыход з пункту погляду абнаўленьня неабходны кон'юнктурысту ня толькі для барацьбы з прарывамі. Ня толькі прарывы ў паасобных галінах адбіваюцца на выкананьні пляну, але і выявіўшыяся магчымасьці *перавыкананьня* пляну ў паасобных галінах могуць і павінны выклікаць перагляд пляну на хаду ў шэрагу іншых галін альбо ўсяго пляну цалкам у бок яго павялічэньня. Кон'юнктур-

ныя нагляданьні, як момант плянаваньня, павінны гэта ўлічваць і намячаць конкрэтныя прапановы.

Кон'юнктурыст павінен таксама конрэтызаваць марксыцкае палажэньне аб *прымату* вытворчасьці ў адзінстве момантаў: вытворчасьці, разьмеркаваньня, абмену і спажываньня прымяніцельна да кожнага конкрэтнага этапу. Кон'юнктурыст ня можа займацца аналізам становішча ў галіне абмену, разьмеркаваньня і спажываньня „наогул", забываючы, што гэтыя фактары зьяўляюцца *момантамі вытворчасьці*. Возьмем, напрыклад, па ўказаньні рэзолюцыі чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б), што „Шырока практыкаваўшыяся ў мінулым годзе *разьмеркаваньні даходаў не* па працы, а па душах побач з недахопам вопыту кіраўніцтва буйнай гаспадаркай павялі да таго, што ў многіх выпадках уборка ня была даведзена да канца...." Гэта самае і ў адносінах да сыстэмы зарплаты ў прамысловасьці, да шырокага ўкараненьня зьдзельшчыны, да барацьбы з ураўнілаўкай у забесьпячэньні і г. д. „Бяз жорсткай барацьбы супроць такіх наскрозь дробна-буржуазных тэндэнцый (ураўнілаўка—В. А.) нельга на справе забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў уздыму гаспадаркі" (Молатаў). Гэты-ж „вытворчы" падыход, г. зн. падыход з пункту погляду забесьпячэньня тэмпаў соцыялістычнага накапленьня абавязковы і пры аналізе кон'юнктурыстам дзейнасьці коопэрацыі, наколькі яна выжыла „нэпманскі душок", ліквідавала абязьлічку, укараніла гасп. разрахунак і прыстасавалася да абслугоўваньня рабочага спажыўца, ударніцкага руху і г. д. Гэты-ж падыход неабходзен і пры аналізе фінансавай кон'юнктуры, мобілізацыі сродкаў насельніцтва, работы банкаўскага апарату і г. д. Затым, кон'юнктурыст ня можа абыйсьці проблемы *раённага разрэзу* пляну. Да гэтага часу кон'юнктурныя агляды ў раённым разрэзе амаль што адсутнічаюць. Твар раёнаў змазваецца, яны „абязьлічваюцца". Кон'юнктурысты ня могуць мець пры гэтым прадстаўленьня аб тым альбо іншым раёне, *як аб цэлым*. Ліквідацыя гэтай раённай „абязьлічкі" прынясе ня мала карысьці як для плянаваньня ў раённым разрэзе, так і для бягучых опэрацый у парадку выкананьня пляну. У нас, у БССР, дзе праведзены першы вопыт па СССР па плянаваньні ў раённым разрэзе, гэта мае асаблівае значэньне. Справа ў тым, што выкананьне тых ці іншых „кампаній" на раёне не адарвана ад ходу выкананьня пляну ў цэлым у даным раёне. Адсюль—для дырэктыўных органаў вельмі важна, каб кан'юнктурыст ня толькі сыгналізаваў аб тых ці іншых паасобных прарывах, але каб ён даваў цэльны малюнак выкананьня пляну ў даным раёне, на падставе чаго лягчэй будзе прадпрыняць конкрэтныя мерапрыемствы да ліквідацыі прарываў і іх перакрыцьця.

Кон'юнктурыст таксама павінен выходзіць з таго, што выкананьне пляну грунтуецца на жорсткай клясавай барацьбе з капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі, на актыўным узьдейнічаньні на асноўныя масы сялянства, на прыватна-рыначную стыхію. Гэтыя проблемы павінны знаходзіць у кон'юнктурных аглядах усебаковы аналіз з пункту гледжаньня выкананьня пляну.

І тут трэба рашуча пакончыць з буржуазна-громанскай мэтодолёгіяй вылічэньня ўсялякага роду сярэдніх, якія змазваюць клясавыя адзнакі, з „аналізам" выпадковых сялянскіх бюджэтных запісаў, якія ва ўмовах клясавай барацьбы скажаюць сапраўдны малюнак прыбыткаў і выдаткаў розных соцыяльных груп вёскі. Трэба таксама пакончыць з мэтодамі вылічэньня рэальнай зарплаты, якія ігноруюць розныя групы рабочых, уцягваньне жанчын і сяброў сем'яў у вытворчасьць, рост

кваліфікацыі, прэміі ўдарнікам і вынаходцам, паварот коопэрацыі тварам да вытворчасьці, прыгарадныя гаспадаркі, соцстрахаваньне, лячэньне і г. д., і г. д. У аналізе клясавых зрухаў на вёсцы асноўны ўпор павінен быць зроблены на проблему ажыцьцяўленьня суцэльнай колектывізацыі да канца пяцігодкі, на выяўленьне мэтодаў клясавай барацьбы кулацтва супроць політыкі партыі, на абмежаваньне і ліквідацыю кулацтва, як клясы.

Нарэшце, кон'юнктурыст не павінен забываць, што будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне знахозіцца ў капіталістычным асяродзьдзі, што проблема „хто каго" павінна быць вырашана ў міжнародным маштабе, што „затрымаць тэмпы", значыць адстаць, а адсталых б'юць. (Сталін).

Адсюль кон'юнктурныя агляды, асабліва ў маштабе Саюзу, не павінны прайсьці міма проблемы „барацьбы дзьвюх сыстэм" з пункту погляду лёзунгу „дагнаць і перагнаць" капіталістычныя краіны максымум у 10-годні тэрмін. Кон'юнктурныя агляды павінны сачыць за ходам выкананьня гэтае проблемы.

Такім чынам, прынцыпамі контролю за выкананьнем пляну зьяўляюцца наступныя палажэньні:

1. Адмаўленьне надгістарычных законамернасьцяй экономічнага разьвіцьця і „жалезных" пропорцый паміж паасобнымі галінамі вытворчасьці.

2. Экономіка на кожным этапе гістарычнага разьвіцьця ставіць сабою конкрэтна адзінства супроцьлегласьцяй момантаў: вытворчасьці, спажываньня, абмену і разьмеркаваньня з прыматам вытворчасьці. Пэўная гістарычная форма вытворчасьці дае пэўныя формы разьмеркаваньня, абмену і спажываньня і пэўныя адносіны іх паміж сабою, абумоўлівае конкрэтную форму іх руху.

3. Спэцыфічнай законамернасьцю пераходнага пэрыоду зьяўляецца законамернасьць соцыялістычнага аграмаджаньня. Соцыялістычная перапрацоўка асноўных мас сялянства магчыма толькі пры актыўным узьдзейнічаньні пролетарыяту. Законамернасьць аграмаджаньня выключае самацёк, як форма руху. Законам руху становіцца плян, які грунтуецца на актыўным процесе мобілізацыі мас на яго выкананьне.

4. Контроль за выкананьнем пляну ня ёсьць нешта самагоднае, а ставіць сабою неабходны момант самога процэсу плянаваньня. Да таго, пакуль не наступіць вышэйшая фаза комунізму патрэбен контроль „над мерай працы і мерай спажываньня". Спэцыфічнасьцю контролю на даным этапе зьяўляецца контроль рублём, які ўкараняе гасп. разрахунак, як мэтод кіраўніцтва і сродак уцягненьня мас ў плянаваньне і контроль за выкананьнем пляну, на падставе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, зьнішчэньня абязьлічкі, ураўнілаўкі і г. д.;

5. Гасп. разрахунак, уцягваючы масы ў контроль за выкананьнем пляну, дае зусім новыя магчымасьці для вучоту выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў пляну, зьвязваючы гэты вучот з глыбіннымі процэсамі ў вытворчасьці. Гэты вучот павінен ажыцьцяўляцца опэрацыйнымі ўстановамі на чале з Дзяржпляням.

6. Кон'юнктурныя агляды павінны грунтавацца на марксыцкай тэорыі ўзнаўлення... 

тэорыі ваўспраізводзтва ў яе спэцыфічным прымяненьні да ўмоў нашае экономікі. Наша аднаўленьне ставіць сабою соцыялістычнае накапленьне, процэс соцыялістычнай рэконструкцыі, процэс ломкі старых адносін пропорцый і ўстанаўленьня новых. Кон'юнктурныя агляды павінны сыстэматычна адлюстроўваць гэтыя процэсы ня толькі ў грашовым выразе, але, галоўным чынам, у тэхніка-экономічным. Адсюль

неабходнасьць распрацоўкі конкрэтных тэхніка-экономічных паказчыкаў і мэтодаў іх вучоту.

7. Кон'юнктурныя агляды, грунтуючыся на матар'яльна-тэхнічных балянсах пляну, павінны сваячасова сыгналізаваць аб ходзе выкананьня пляну ў паасобных галінах, аб прарывах, аб магчымасьцях перавыкананьня і неабходнасьці выпраўленьня яго на хаду, намячаючы конкрэтныя мерапрыемствы ў адпаведным напрамку.

8. Кон'юнктурныя агляды павінны грунтавацца на марксыцкім палажэньні аб прымаце вытворчасьці, конкрэтызуючы яго да пэўных этапаў нашага разьвіцьця. Пад кутом погляду забесьпячэньня адпаведных тэмпаў соцыялістычнага накапленьня павінны быць пабудаваны агляд і выкананьне пляну ў галінах абмену, разьмеркаваньня і спажываньня.

9. Кон'юнктурныя агляды павінны выявіць два раёны ў выкананьні пляну, грунтуючыся на тым, што плян будуецца ў раённым разрэзе. Кон'юнктурныя агляды, выходзячы з ходу выкананьня ўсяго пляну па данаму раёну, павінны служыць апорай у прымяненьні мерапрыемстваў па барацьбе з тымі ці іншымі прарывамі па раёне.

10. Кон'юнктурныя агляды павінны грунтавацца на тым, што выкананьне пляну зьвязана з актыўным узьдзейнічаньнем на сялянскія масы, з абвастрэньнем клясавай барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі гораду і вёскі. Проблема ажыцьцяўленьня суцэльнай колектывізацыі, абмежаваньне і ліквідацыя кулацтва, як клясы,— аснова аналізу клясавых зрухаў на вёсцы.

11. Кон'юнктурныя агляды павінны будавацца пад кутом погляду „барацьба дзьвюх сыстэм" і проблемы „дагнаць і перагнаць" максымум у 10 год і сыстэматычна сачыць за яе выкананьнем.

Вось *у асноўным* задачы кон'юнктурных нагляданьняў на даным этапе. Задачы шырокія. Але трэба мець на ўвазе, што для кон'юнктурыста рашэньні аблягчаюцца тым, што яго праца *ў асноўным* учыняецца ў рамках дзейнічаючага пляну, гэта азначае, што *ў аснову* паказчыкаў кон'юнктурных нагляданьняў павінны быць паложаны паказчыкі пляну. Адсюль вынікае, што кон'юнктурыст павінен глыбока пранікнуць у зьмест пляну і яго мэтодолёгію, каб быць у становішчы весьці ўпартае нагляданьне за яго выкананьнем і змагацца за яго перавыкананьне. Неабходна, аднак, яшчэ раз падкрэсьліць, што толькі грунтуючы кон'юнктурныя нагляданьні ў канчатковым ліку на пярвічных ячэйках вучоту і контролю—на гасп. разрахунковых брыгадах, абагульваючы колькасныя і якасныя паказчыкі іх працы па цэхах, заводах, аб'яднаньнях і галінах, што толькі пры ўмовах увязкі кон'юнктурных нагляданьняў з *пярвічным вучотам* у прамысловасьці, у колгасах, саўгасах, МТС і г. д.— кон'юнктурныя нагляданьні ператворацца ў сапраўдны момант плянаваньня і здолеюць выканаць свае задачы. Тады яны ня будуць толькі „гістарычнымі" документамі, *ня маючы* ніякай *опэрацыйнай* каштоўнасьці, бо яны *сваячасова* змогуць сыгналізаваць аб ходзе выкананьня пляну; тады яны будуць пранікнуты партыйнасьцю і масавай актыўнасьцю, бо яны ня будуць адарваны ад актыўнай барацьбы мас за прамфінплян; тады толькі яны ня будуць „плаваць" на паверхні, бо яны пранікнуць у глыбіню вытворчых процэсаў. Для гэтага неабходна як можна хутчэй ажыцьцявіць пастанову Саўнаркому ад 9-га мая г/г аб стварэньні адзінай сыстэмы вучоту і прыстасаваньня да гэтага ўсёй сыстэмы пярвічнай документацыі ведамствамі і оганізацыямі пад кіраўніцтвам Дзяржпляну СССР. Перабудова сыстэмы вучоту павінна ісьці па галіне перагляду пярвічнай вучотнай

документацыі для зьнішчэньня яе рознастайнасьці, па галіне яе максымальнага ўпрашчэньня і па галіне павароту ўсёй сыстэмы справаздачнасьці тварам да паасобных рабочых, гасп. разрахунковых брыгад і г. д. для вучоту іх працы, асабліва па якасных паказчыках. Толькі пры гэтых умовах статыстыка і вучот па-сапраўднаму стануць на службу соцыялістычнага пляну.

---

Гоўзман

# Рост КП(б)Б у 1-м квартале 1931 г.

Падводзячы вынікі росту і рэгуляваньня соцыяльнага складу КП(б)Б за 1930 г., ЦК КП(б)Б адзначыў значнае колькаснае павялічэньне росту КП(б)Б. Але побач з гэтым ЦК зьвярнуў увагу парторганізацый на шэраг акалічнасьцяй адмоўнага характару ў справе росту і рэгуляваньня соцыяльнага складу КП(б)Б. Гэтыя акалічнасьці парторганізацыям патрэбна было ўлічыць у сваёй далейшай рабоце.

Першая акалічнасьць гэта тое, што ў выніку росту КП(б)Б за 1930 г. ня было дасягнута далейшае ўзмацненьне рабочага ядра ў КП(б)Б. Дырэктыва XII і XIII зьездаў КП(б)Б аб давядзеньні да 50% рабочых з вытворчасьці ў КП(б)Б да 1-га студзеня 1931 г. ня выканана, а наадварот, рабочае ядро нават зьменшылася (з 46,1% у 1-м кв. 1930 г. да 40% у 4-м кв. 1930 г.) Далей шэраг пролетарскіх організацый, як Менская, Віцебская, Гомельская, ня выканалі дырэктывы ЦК ад 5-га лістапада 1930 г. аб % рабочых у складзе прымаемых у партыю. У шэрагу організацый за 4-ы квартал ня было прынята ў партыю ніводнага сельгасрабочага і батрака, што ЦК ацаніў, як яўна праваопортуністычны факт.

ЦК у сваёй пастанове проста заявіў, што „невыкананьне і простае ігнараваньне дырэктыў ЦК аб павялічэньні пролетарскага ядра ў КП(б)Б ЦК расцэньвае, як праваопортуністычную практыку ў гэтым пытаньні“.

У сьвеце гэтага патрэбна зараз разглядзець рост КП(б)Б у 1-м квартале 1931 г.

Новы ўздым політычнай актыўнасьці рабочае клясы і бядняцка-серадняцкіх мас, рост ударніцтва і колгаснага руху ў сувязі з перавыбарамі саветаў і ленінскімі днямі знайшоў свой адбітак у масавым прытоку ў партыю.

За 1-ы квар. 1931 г. прыток у партыю выявіўся ў 6.591 заяў аб уступленьні ў партыю. Лік заяў аб уступленьні ў партыю павялічыўся ў параўнаньні з 4-м кварталам 1930 г. на 36,6%. Асабліва павялічыўся прыток заяў аб уступленьні ў партыю ад рабочых з вытворчасьці. У 1-м квартале 1931 г. прыток рабочых у партыю выразіўся ў 3.490 заявах — на 65,6% больш чым у 4-м кв. 1930 г. Таксама павялічыўся прыток колгасьнікаў у партыю—у 1-м кв. 1931 г. паступіла 2.063 заявы колгасьнікаў аб уступленьні ў партыю, альбо на 51,6% больш чым у 4-м кв. 1930 г.

Значна павялічыўся прыём у партыю за 1-ы кв. 1931 г. На працягу першага кварталу ў КП(б)Б прынята 4.227 чал. ці на 26,8% больш чым у 4-м кв. 1930 г. і на 7,5% больш чым у 1-м квар. 1930 г.

Некалькі палепшыўся соцыяльны склад прынятых параўнальна з мінулым кварталам. У складзе прынятых у партыю за 1-ы кварт. 1931 г. рабочыя па соцыяльнаму становішчу складаюць 66,8% (у 4-м кв. 1930 г.—56,9%), сялян — 30,8% (у 4-м кв. 40%) і інш. 2,4% (у 4-м кв. 3,1%). Але ў параўнаньні з 1-м кварт. 1930 г. соцыяльны склад прынятых значна горшы. У 1-м кв. 1930 г. у складзе прынятых было рабочых 88,9% сялян—10,5% і інш. толькі 0,6%.

У параўнаньні з 4-м кв. 1930 г. некалькі павысілася і рабочае ядро (вытворчыя рабочыя) у складзе прынятых. На працягу 1-га кв. 1931 г. у КП(б)Б прынята 2.410 вытворчых рабочых, альбо 57% усяго ліку прынятых за гэты квартал у той час, калі ў 4-м кв. 1930 г. вытворчыя рабочыя складалі 47,1% агульнага ліку прынятых. Але ў параўнаньні з 1-м кварталам 1930 г., калі вытворчыя рабочыя складалі 81,4% агульнага ліку прынятых, вынікі першага кварталу гэтага году значна горшыя.

На працягу першага кварталу 1931 г. усё яшчэ заставаліся нездавальняючыя вынікі вярбоўкі ў партыю на больш буйных прадпрыемствах БССР, як гэта відаць з наступнага:

| Галіна прамыслов. | Лік прадпрыем. | Лік рабочых на 1/IV 1931 г. | Лік заяў аб уступ. у партыю за 1-ы кв. | Прынята ў партыю за 1 кв. |
|---|---|---|---|---|
| Мэталёвая . . . . . . | 4 | 4639 | 146 | 102 |
| Скураная . . . . . . | 3 | 2717 | 164 | 136 |
| Тэкстыльная . . . . . | 3 | 1950 | 23 | 28 |
| Шклян . . . . . . | 5 | 3007 | 157 | 108 |
| Папяровая. . . . . . | 3 | 3058 | 83 | 38 |
| Швэйная . . . . . . | 4 | 5412 | 150 | 87 |
| Дрэвапрац. . . . . . | 7 | 8332 | 222 | 178 |
| Усяго . . | 29 | 29115 | 985 | 677 |

Асабліва нездавальняюча вярбоўка ў партыю ў тэкстыльнай, швэйнай і дрэваапрацоўчай. Таксама ня можа лічыцца здавальняючай вярбоўка ў партыю па мэталёвай прамысловасьці.

Як і ў 4-м кварт., гэтак і ў 1-м кв., у складзе прынятых вытворчых рабочых галоўнай фігурай зьяўляецца ўдарнік і рабочы з вялікім вытворчым стажам, у 1-м кварт. гэта нават знайшла яшчэ больш яскравы адбітак, як гэта відаць з наступнага:

| | У 4 кв. | У 1 кв. |
|---|---|---|
| З ліку прынятых зьяўляліся ўдарнікамі | 71,2% | 73,7% |
| З „ „ састаяць у вытв. комунах | 5,5% | 4,1% |
| З „ „ маюць агульны стаж раб. мен. 3 г. | 10,0% | 13,8% |
| З „ „ „ ад 3 да 5 г. | 20,4% | 16,6% |
| З „ „ „ ад 5 да 10 г. | 28,4% | 27,8% |
| З „ „ „ ад 10 да 15 г. | 18,8% | 17,9% |
| З „ „ „ звыш 15 г. | 24,4% | 24,4% |
| З „ „ былі рабочымі да рэволюц. | 30,1% | 31,6% |

Але побач з гэтым мелася некаторае паніжэньне культурнай і грамадзкай якасьці прынятых:

| | | |
|---|---|---|
| З ліку прынятых няпісьменных | 0,9% | 1,5% |
| З " " скон. школы полігр. | 47,9% | 42,6% |
| З " " састаяць член. выб. орг. | 22,3% | 16,6% |
| З " " маюць грамадз. нагруз. | 63,2% | 48,3% |

Некалькі падвысілася ўдзельная вага ў складзе прымаемых вытворчых рабочых, маючых сувязь з сельскай гаспадаркай, прычым сярод іх павялічыўся %, што не зьяўляюцца колгасьнікамі.

| | | |
|---|---|---|
| З ліку прынятых маюць зямлю | 2,6% | 4,2% |
| З іх састаяць у колгасах самі альбо іх сем'і | 69,7% | 51,2% |

Некалькі павялічыўся і прыток у партыю с/г. рабочых і батракоў. Калі ў 4-м кварт. 1930 г. мелася 215 заяў аб уступленьні ў партыю с/г. рабочых, дык у 1-м квартале 1931 г.—360, а прынята ў партыю 243 супроць 171 у 4-м кв. 1930 г. Па 76 саўгасах з лікам 865 рабочых паступіла за 1-ы квар. заяў усяго 176 і прынята ў партыю ўсяго 87 чал.

Колгасьнікаў у гэтым квартале прынята 995, альбо 23,5% усяго ліку прынятых, некалькі менш чым у 4-м квартале.

Зусім нязначны прыём сялян аднаасобнікаў у партыю, якіх прынята за 1-ы кварт. 1931 г. усяго 49 чал. (у 4 кв. 1930 г. 70 ч.).

У справе вярбоўкі ў партыю працягвае зьвяртаць на сябе ўвагу тая акалічнасьць, што пры разглядзе заяў у парторганах адсеў у 1-м кв. 1931 г. некалькі павысіўся ў параўнаньні з 4-м кв. 1930 г., прычым павялічэньне адсеву пайшло, галоўным чынам, за лік колгасьнікаў, значна павысіўся і адсеў сельгасрабочых і батракоў. Сярод рабочых наогул гэты адсеў наадварот зьменшыўся. Аб ступені адсеву пры прыёме можна бачыць з наступнага:

| | У 4 кв. 1930 г. | У 1-м кв. 1931 г. |
|---|---|---|
| Адсеў сярод рабочых. . . . . | 12,5% | 11,7% |
| " " с/г, раб. і батр.. . | 4,4% | 11,6% |
| " " колгасьнікаў . . . | 16,1% | 28,2% |
| " наогул сярод усіх груп . | 19,9% | 24,5% |

Далей трэба паказаць і на тую акалічнасьць, што лік застаўшыхся ў парторганах неразгледжаных заяў аб уступленьні ў партыю значна ўзрос.

Лік застаўшыхся заяў на 1/IV-31 г. павялічыўся ў параўнаньні з 1/I-30 г. на 42,6% у той час, калі лік паданых заяў на працягу 1-га кв. 1931 г. узрос у параўнаньні з 4-м кв. 1930 г. толькі на 36,6%.

Гэтыя акалічнасьці паказваюць на тое, што ў вясковых організацыях вярбоўка ў партыю ідзе недастаткова організавана, без належнага нагляду і кіраўніцтва з боку парторганаў і па-другое, што парторганізацыі вельмі марудзяць з афармленьнем прытоку ў партыю.

Тут трэба таксама паказаць, што той факт, які быў прызнаны ЦК нецярпімым, яўна опортуністычным, факт няпрыёму па шэрагу раёнаў на працягу 4-га кварталу ніводнага с. г. рабочага мае месца і ў 1-м кварт. 1931 г., хаця лік такіх раёнаў і зьменшыўся.

Так, у 4-м кв. 1930 г. у 44-х раёнах ня было прынята ніводнага с-г. рабочага і батрака, а ў 1-м кв. 1931 г. толькі ў 34-х раёнах. Шэраг раёнаў нават на працягу 2-х кварталаў (4-га 1930 г. і 1-га 1931 г.) ня прынялі ніводнага с-г. рабочага і батрака: Журавіцкі, Нараўлянскі, Чачэрскі, Чарэйскі.

Цікава будзе параўнаць, як разьмяркоўваюцца організацыі па ліку прынятых у 4-м кв. 1930 г. і 1-м кв. 1931 г.

**Лік організацый па агульнаму прыёму ў КП(б)Б.**

| Кварталы | Да 5 | 5-10 | 10-20 | 20-35 | 35-50 | 50-75 | 75-100 | 100 і бол. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 кв. 1930 г. . . . . | 9 | 18 | 29 | 26 | 8 | 2 | 2 | 4 |
| 1 кв. 1931 г. . . . . | 6 | 18 | 31 | 24 | 5 | 5 | 1 | 7 |

Зараз патрэбна будзе застанавіцца на тым, як парторганізацыі выконвалі ў першым кв. дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 5-га лістапада 1930 г. аб захаваньні вядомага % рабочых пры прыёме ў партыю ў паасобных організацыях.

Аб гэтым можна судзіць з наступнага:

| | %% раб. у прыёме вызн. ЦК | %% раб. у прыёме 1-га кв. | ЗАЎВАГА: |
|---|---|---|---|
| Парторганізац. Менская, Віцебская і Гомельская . . . . . . . . | 95,0% | 94,1% | Ня выканалі дырэктыву Віцебская (90,7%) і Гомельская (93,8%) |
| Інш. горадз. р-ны . . . . . . . | 80,0% | 81,3% | Ня выканаў дырэктыву Магілеўскі (73.9) |
| Раёны, на тэрыторыі якіх маецца 1 альбо некалькі прадпрыемстваў дробных. . . . . . . . . . | 60,0% 1-й кат. | 58,2% | Аршанскі (71,70%) |
| Астатнія раёны . . . . . . . . | 40,0% 1 кат. | 29,9% | Мазырскі (74,0%) |

З гэтага відаць, што дырэктыву ЦК асабліва ня выконвалі астатнія раёны, у якіх няма прамысловых прадпрыемстваў і якія павінны былі асаблівую ўвагу ўдзяліць вярбоўцы ў партыю с/г рабочых і батракоў (як сучасных, так і былых).

Зьвяртае на сябе ўвагу і тое, што і ў 1-м кварт. 1931 г. працягвалася паніжэньне ўдзельнай вагі прымаемых у партыю членаў ЛКСМБ. Калі ў 29 г. члены ЛКСМБ у складзе прынятых у партыю складалі 35,1%, у 1930 г.—25,2%, а ў 4-м кв. 1930 г.—26,0%, дык у 1-м квартале 1931 г.—24,4%. Асабліва трэба адзначыць той факт, што шэраг раёнаў ня прынялі ніводнага члена ЛКСМБ, такіх раёнаў у 1-м кварт. было 19 і ў мінулым таксама 19. Нават маецца некалькі раёнаў, якія на працягу паўгода ня прынялі ніводнага члена ЛКСМБ у партыю, як напрыклад: Брагінскі, Коханаўскі, Клічаўскі і Межанскі раёны.

Далей трэба спыніцца і на тым, што якасны склад прымаемых у партыю членаў ЛКСМБ значна пагоршыўся. Так, калі за 1930 г. у складзе прымаемых у партыю членаў ЛКСМБ было 44,8% вытворчых рабочых (у 1-м кв. 59,9%, у 2 кв.—45,2%, у 3-м 31,6% і ў 4-м—41,2%), дык у 1-м кв. 1931 г.—40,9%.

У справе прыёму жанчын у партыю ў 1-м кварт. наглядаецца вядомы зрух. За гэты квартал прынята ў КП(б)Б 655 жанчын, альбо 15,5% усяго прыёму; у той час як за 1930 г. % жанчын у прыёме складаў 13,4%, а ў 4-м кварт. 1930 г.—12,4%. Але ў складзе прыня-

тых вытворчых рабочых праслойка работніц у параўнаньні з 4м-кварталам амаль не зьмянілася (у 4-м кварт.—18,3%, у 1-м 18,5%).

У прыёме сельгасрабочых і батракоў удзельная вага жанчын у параўнаньні з 4-м кварт. значна ўзьнялася. У 4-м кв. у складзе прынятых с/г. рабочых і батракоў было 13,3% жанчын, а за 1 кварт. 1931 г.—23,4%.

Роля дэлегацкіх сходаў у 1-м кварт. у параўнаньні з 4 кв. мінулага году ў прыёме работніц і с. г. работніц некалькі зьнізілася, а ў прыёме колгасьніц значна ўзьнялася.

%% дэлегатак у прыёме.

| | Сярод работніц | Сярод с. г. работніц і батрачак | Сярод колгасьніц. |
|---|---|---|---|
| За 4 кв. . . . . . | 33,1 | 90,5 | 67,6 |
| За I кв. . . . . . . | 29,7 | 83,1 | 86,7 |

Зараз паглядзім, які колькасны і якасны склад КП(б)Б на 1/IV-31 г і якія зьмены адбыліся за 1 квартал у гэтых адносінах.

За першы квартал КП(б)Б колькасна павялічылася на 2.630 чал. альбо на 5,8% (на 1/I-1931 г. было 46227 камуністых а на 1/IV-31 г.—48857).

Склад КП(б)Б па соц. становішчу зьмяніўся ў бок некаторага пагоршаньня, як гэта відаць з наступнага:

(Социяльны склад КП(б)Б (у %%)

| | Рабочых | Сялян | Служачых і інш. |
|---|---|---|---|
| На 1/IV-1930 г. . . . | 66,9 | 20,0 | 13,1 |
| На 1/I-1931 г. . . . | 66,4 | 22,6 | 11,0 |
| На 1/IV-1931 г. . . . | 65,5 | 23,4 | 10.7 |

Таксама няма яшчэ пэўных дасягненьняў у справе павялічэньня рабочага ядра ў складзе КП(б)Б. Удзельная вага вытворчых рабочых у складзе КП(б)Б у першым кв. ня толькі не павысілася, але трохі нават і зьменшылася, аб чым гавораць наступныя даныя:

Склад КП(б)Б па роду заняткаў (у %%)

| | Рабочых | Сялян | | Служ. | Астатн. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | з іх аднаасоб. | | |
| На 1/IV-30 г. . | 46,1 | 10,2 | 4,6 | 32,4 | 11,3 |
| На 1/I-31 г. . . | 40,5 | 12,7 | 10,4 | 32,6 | 12,2 |
| На 1/IV-31 г. . | 40,3 | 13,0 | 7,2 | 33,5 | 13,2 |

Такім чынам, 1 квартал даў некаторае зьмяншэньне % рабочых (на 0,2%) павялічэньне % сялян (на 0,3%) і служачых (на 0,9%).

Трэба адзначыць тое, што лік сялян-аднаасобнікаў у агульным ліку комуністых, занятых непасрэдна ў с. г., хаця за 1 кв. па сваёй удзельнай вазе і зьнізіўся з 10,4% да 7,2%, але ўсе яшчэ застаецца параўнальна значным і на I/IV-31 г. у КП(б)Б ёсьць яшчэ 460 комуністых, якія непасрэдна заняты ў сялянскай гаспадарцы і ня ўступілі ў колгас (на 1/I-1931 г. іх было 612).

Аналізуючы матар'ялы аб колькасным складзе КП(б)Б, зьвяртае на сябе ўвагу тая акалічнасьць, што мы наглядаем з кварталу ў квартал вядомую „ўцечку“ вытворчых рабочых, што зьмяншае ўдзельную вагу іх у агульным складзе КП(б)Б.

Так, наступная табліца аб руху вытворчых рабочых паказвае, што у 4 кв. 1930 г. „уцечка“ гэта выразілася ў 1771 чал. а ў 1-м кв. 1931 г.—у 1100 чал.

**Рух вытворчых рабочых КП(б)Б**

| ПРЫБЫЛА | За 4 кв. 1930 г. | За 1 кв. 1931 г. | ВЫБЫЛА | За 4 кв. 1930 г. | За 1 кв. 1931 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Састаяла да пач. кв. | 19115 | 18718 | Выключана | 91 | 122 |
| Прынята | 1570 | 2410 | Выбыла з парт. | 12 | 10 |
| Адноўлена | 40 | 36 | Выб. у інш. раён. | 265 | 154 |
| Прыб. з інш. р-наў | 113 | 72 | Выб. у Чырвоную Армію | 155 | 21 |
| Прыб. з Чыр. Арміі | 340 | 44 | Памерла | 19 | 17 |
| УСЯГО | 21181 | 21280 | Зьнята з вуч. як невядома куды выбыўшыя | 150 | 49 |
| | —692 | —373 | | | |
| Павінна лічыцца к канцу кварт. | 20489 | 20807 | | 692 | 373 |
| Фактычна | 18718 | 19707 | | | |
| Уцечка за кварт. | 1771 | 1100 | | | |

Вядомая частка гэтай „уцечкі“, бязумоўна, падае на пераход комуністых вытворчых рабочых на іншую работу, на вучобу і г. д.

Але гэта не павінна пакрыць усю наяўную ўцечку. Гэта пытаньне патрабуе спэцыяльнага вывучэньня.

У параўнаньні са становішчам на 1/I-31 г. лік комуністых, састаячых у ЛКСМБ, зьменшыўся на 234 чал. і іх удзельная вага зьнізілася з 16% на 1/I-31 г. да 14,6% на 1/IV-31 г.

У асобных організацыях гэта зьніжэньне ўдзельнай вагі ЛКСМБ зьяўляецца вельмі значным:

Лічылася ў %% членаў ЛКСМБ.

| | На 1/X-30 г. | На 1/I-31 г. | На 1/IV-31 г. |
|---|---|---|---|
| Менская | 23,0 | 18,4 | 16,6 |
| Віцебская | 20,9 | 20,3 | 17,5 |
| Гомельская | 13,7 | 12,5 | 10,0 |
| Бабруйская | 21,5 | 20,1 | 19,8 |
| Магілеўская | 13,8 | 19,5 | 11,5 |
| Рэчыцкая | 18,0 | 8,3 | 8,0 |

За 1 квартал лік жанчын у КП(б)Б павялічыўся на 500 чал., альбо на 8,6% (з 5843 на 1/I-31 г. да 6344 на 1/IV-31 г.). Удзельная вага жанчын у складзе КП(б)Б павялічылася з 12,7% на 1/I-31 г. да 13% на 1/IV-31 г.

У складзе жанчын-комуністак рабочае ядро некалькі павялічылася за 1 кв., як гэта відаць з наступнага:

Склад жанчын-комуністак (у %%).

| | На 1/IV-30 г. | На 1/I-31 г. | На 1/IV-31 г. |
|---|---|---|---|
| Работніцы | 51,0 | 48,6 | 48,8 |
| Сялянкі | 10,9 | 11,4 | 11,9 |
| З іх аднаасобн. | 11,7 | 11,0 | 6,9 |
| Служачыя | 29,7 | 29,8 | 28,2 |
| Астатнія | 8,4 | 10,2 | 11,1 |

Нарэшце, трэба застанавіцца на пытаньні аб партпраслойцы на больш буйных прадпрыемствах і саўгасах.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове аб росьце партыі за 1930 г. лічыць недастатковай партпраслойку ў шэрагу галін прамысловасьці. Такое-ж становішча наглядаецца і ў шэрагу галін прамысловасьці БССР, як можна бачыць з даных аб партпраслойцы на больш буйных прадпрыемствах на 1/IV-1930 г.

| Галіна прамысл. | Лік рабоч. | %% комун. у складзе рабоч. | Лік прадпрыемстваў |
|---|---|---|---|
| Мэталёвая | 5889 | 25,3 | 5 |
| Скурабутковая | 2717 | 24,9 | 3 |
| Тэкст.-трыкотаж. | 1950 | 8,5 | 3 |
| Шкляная | 3007 | 13,9 | 5 |
| Папяровая | 3058 | 12,7 | 3 |
| Дрэваапрац. і запал. | 8332 | 13,2 | 7 |
| Швэйная | 5412 | 8,4 | 4 |
| УСЯГО | 29365 | 16,1 | 30 |

Такім чынам, недастаткова партпраслойка ў тэкстыльна-трыкотажнай галіне прамысловасьці, шкляной, папяровай, дрэваапрацоўчай, запалкавай і ў швэйнай.

На шэрагу прадпрыемстваў партпраслойка нават на працягу году (за 1/IV-1930 г.) ня толькі не павысілася, але панізілася:

| | 1/IV-30 г. | | | На 1/IV-31 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік раб. | Лік ком. | Парт. прасл. | Лік раб. | Лік ком. | Парт. прасл. |
| Швэйная „Комінтэрн" . | 836 | 109 | 13,0% | 1559 | 143 | 9,1 |
| Дрэваапр. „Чыр. Кастр." | 329 | 83 | 25,2 | 443 | 70 | 15,8 |
| „ Колпраца . | 415 | 74 | 17,8 | 700 | 85 | 12,1 |
| „ Комінтэрн . | 542 | 82 | 15,1 | 752 | 111 | 14,8 |
| „ № 13 . . . | 535 | 57 | 10,6 | 504 | 54 | 10,8 |
| Запалк. Дняпро . . . | 2471 | 269 | 10,9 | 2406 | 369 | 15,3 |
| Мэх. Зав. ім. Варашыл | 1118 | 165 | 14,7 | 1077 | 190 | 17,6 |
| „ „ Комунар . | 1044 | 190 | 18,2 | 1250 | 244 | 19,5 |
| „ „ Імя Ланцуцкага | 1804 | 695 | 31,4 | 1957 | 626 | 31,2 |
| Скурзавод Бальшавік . | 703 | 216 | 32,8 | 713 | 234 | 32,8 |
| Ф. ім. К. Маркса . . . | 532 | 39 | 7,3 | 536 | 52 | 9,7 |
| Дняпроўская мануфак. . | 987 | 99 | 10,0 | 1043 | 70 | 6,7 |
| Шкляная прамыс. . . | 2856 | 413 | 14,5 | 3007 | 420 | 13,9 |
| Папяров. „Спартак" . . | 582 | 114 | 19,6 | 695 | 108 | 15,0 |
| „ Чыр. Зорка . | 473 | 65 | 13,7 | 640 | 94 | 14,7 |

Па даных 76 найбольш буйных саўгасаў, у якіх налічваецца на 1/IV-1931 г. 6865 сталых рабочых, маецца 648 комуністых, гэта значыць 9,4% да агульнага ліку рабочых.

Агульным вынікам 1-га кварталу 1931 г. у справе росту і рэгуляваньня складу КП(б)Б зьяўляецца вядомы далейшы зрух у росьце КП(б)Б за лік вытворч. рабочых і колгасьнікаў.

У той час калі на працягу 1930 г. рабочае ядро зьмянілася, 1-ы кварт. 1931 г. даў у гэтым напрамку пералом, хаця і недастатковы (удзельная вага вытворчых рабочых не панізілася).

Парторганізацыі ў далейшай сваёй рабоце па вярбоўцы ў партыю павінны выходзіць з задач, вызначаных ЦК УсеКП(б)Б у сваім Сакавіцкім рашэньні „аб росьце партыі за 1930 г.", улічваючы вынікі росту за 1-ы кв. 1931 г.

Работа па вярбоўцы ў партыю і рэгуляваньні соцыяльнага складу КП(б)Б павінна быць накіравана на тое, каб на падставе праведзенай перабудовы партработы на прадпрыемствах разгарнуць работу па адборы і ўцягненьні ў партыю актывістых-ударнікаў, шчыльна ўвязваючы гэту работу з далейшай мобілізацыяй рабочых мас на барацьбу за бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва, за выкананьне і перавыкананьне народна-гаспадарчага пляну 1931 г. (з пастановы ЦК УсеКП(б).

Парторганізацыям дрэваапрацоўчай, папяровай, тэкстыльнай патрэбна ўзяцца рашуча за ажыцьцяўленьне простай дырэктывы ЦК

УсеКП(б) аб пасіленьні вярбоўкі ў партыю і дабіцца ў бліжэйшы час павялічэньня партпраслойкі.

Каб дабіцца далейшага ўзмацненьня складу КП(б)Б, выкананьня дырэктывы аб давядзеньні процанту рабочых з вытворчасьці да 50%, парторганізацыі патрэбна ўжо ў наступным квартале дабіцца, каб у агульным выніку 1-га паўгодзьдзя 1931 г. захаваць устаноўленыя ЦК КП(б)Б 5/XI-30 г. процантныя суадносіны ў прыёме для асобных раёнаў.

Парторганізацыі ў раёнах, у якіх маюцца нова-будуемыя прадпрыемства, буйныя саўгасы і МТС, павінны накіраваць увагу па павышэньне там партпраслойкі.

Далей неабходна ўзмацніць парткіраўніцтва КСМ, каб дабіцца павышэньня ўдзельнай вагі прымаемых у партыю членаў ЛКСМБ.

Хаця ў справе вярбоўкі жанчын маецца некаторы зрух у 1-м квартале, але ён ня можа быць прызнаны дастатковым і таму ў гэтым напрамку неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу, разгарнуўшы работу па ўцягненьні ў партыю лепшай часткі жаночага актыву (работніц, с. г. работніц і лепшай часткі колгасьніц).

Нарэшце, вясковым парторганізацыям патрэбна палепшыць сваё кіраўніцтва вярбоўкай у партыю, каб у партыю ўцягвалася сапраўды лепшая частка колгасьнікаў, правераныя ў клясавай барацьбе з кулацтвам і паказаўшыя сябе на справе ў колгаснай гаспадарцы як перадавікі ў соцспаборніцтве і ўдарніцтве. У гэтых адносінах патрэбна рашуча выкарчаваць маючыйся ў справе вярбоўкі самацёк.

Таксама патрэбна наладзіць справу разгляду заяў аб прыёме ў партыю, каб не дапусьціць у далейшым росту ліку неразгледжаных заяў.

---

Я. Эйдэльман

# Рэчыца павінна перабудавацца [1])

## А. Барацьба за колектывізацыю

Рэчыцкая партыйная організацыя адна з пролетарскіх організацый КП(б)Б павінна была разгарнуць сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы працы, каб ажыцьцявіць тыя вялізарныя задачы, якія перад ёю паставіла партыя ў 3 рашаючым годзе пяцігодкі як па выкананьні прамфінпляну, так і па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Праводзячы пасьлядоўна генэральную лінію партыі, вядучы барацьбу на два фронты з правай небясьпекай як галоўнай на даным этапе, з „левымі“ загібамі і прымірэнцкімі адносінамі да скажэньняў партыйнай клясавай лініі, Рэчыцкая партыйная організацыя павінна была перабудаваць сваю працу і працу ўсіх зьвеньняў у адпаведнасьці з узятымі партыяй высокімі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва. Мобілізацыяй партыйнай і комсамольскай організацыі, рабочай масы, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі Рэчыцкая партыйная організацыя павінна была забясьпечыць пасьпяховае выкананьне ўсіх задач, якія перад ёй стаялі. Гэты артыкул мае на мэце ўскрыць тыя прарывы, якія былі дапушчаны ў рабоце Рэчыцкай партыйнай організацыі і ўскрыць тыя прычыны, якія прывялі да гэтых прарываў.

Рэчыцкая партыйная організацыя прышла да севу толькі з 13% колектывізаваных сялянскіх гаспадарак. Вось чаму мы першае пытаньне задаем: чаму Рэчыцкая партыйная організацыя адстала ў барацьбе, якую пасьпяхова вядзе партыя за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі? Дзе прычыны такога слабага ходу колектывізацыі на раёне? Мы адказываем: першая прычына заключаецца ў тым, што Рэчыцкая партыйная організацыя не організавала рашучага наступу на кулака, не скарыстала ўсе рычагі барацьбы з ім, барацьбы з прымірэнцкімі адносінамі да грубейшых скажэньняў клясавай лініі з боку цэлага шэрагу сельскіх і раённых устаноў.

Перш за ўсё кулак поўнасьцю ня выяўлен. Па раёне з 17 тысяч сялянскіх гаспадарак абкладзена ў індывідуальным парадку 74 гаспадаркі, што складае менш паловы проценту. У 12 сельскіх саветах ($^1/_3$) ня выяўлена ніводная кулацкая гаспадарка. У 9 сельскіх саветах выяўлена толькі па аднэй кулацкай гаспадарцы.

Правядзеньне нарыхтовак таксама не адбівае наступу на кулака. Да 10 лютага процант цьвёрдых заданьняў складаў толькі 3,3% усіх гаспадарак і толькі к 15 сакавіка процант даведзен да 5,1%. Разьмер цьвёрдых заданьняў вельмі нізкі. У цэлым шэрагу с/саветаў ён ніжэй

[1]) **Ад рэдакцыі:** Артыкул Эйдэльмана напісаны паводле матэрыялаў абсьледваньня Рэчыцкай партыйнай організацыі, якія зацьверджаны на Сакратарыяце ЦК КП(б)Б ад 26/V-1931 г. Артыкул быў накіраваны ў „Партработнік“, але ў сувязі з зачыненьнем часопісу быў перададзены ў Бальшавік Беларусі“, і такім чынам, друкуецца са спазьненьнем.

здачы бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі ў парадку самаабавязацельства: Чэрняўскі, Копальскі, Дуброўскі, Барысаўскі с/с і г. д.

Суд і прокуратура не занялі неабходнага месца ў барацьбе з кулаком. Працаўнікі прокуратуры і суду не зразумелі ролі гэтых органаў у барацьбе за соцыялістычную рэконструкцыю вёскі і вялі яўную опортуністычную лінію. Яна выказалася ў слабым прымяненьні рэпрэсыўных мер да кулала за саботаж гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў на вёсцы, у слабым адпоры спробам актыўнага супраціўленьня кулакоў.

Раённы судзьдзя тав. Смаль адмаўляўся наогул ад разгляду кулацкіх спраў з баязьні выносіць няправільныя рашэньні, а прокурор тав. Маргус ні разу ня выступіў на судзе па кулацкіх справах, абгрунтоўваючы гэта тым, што „яму як прокурору ня зусім ёмка весьці сьледзтва і самому-ж выступаць. У гэтым парушаецца быццам яго об'ектыўнасьць“!!!

Гэтыя зьявішчы нельга разглядаць, як разрозьненыя факты, але-ж яны аб'ядноўваюцца ў агульную опортуністычную лінію, якую праводзіла фракцыя РВК уцэлым, пры прымірэнцкіх адносінах з боку раённага партыйнага кіраўніцтва.

Гэта пацьвярджаецца фактам грубейшага скажэньня клясавай лініі, якое выявілася ў масавым аднаўленьні кулакоў. Рашэньнем прэзыдыуму РВК былі адноўлены кулакі ў ліку 56, праўда, рашэньнем Райкому КП(б)Б пасьля сыгналізацыі сельскіх партячэек і рэчыцкай раённай газэты „Рэчыцкая Праўда“ гэта скажэньне клясавай лініі было выпраўлена, але абсьледваньне ўскрыла, што і пасьля гэтага абіральная камісія аднавіла 27/X у правох голасу 28 кулакоў, сьпіс якіх без зацьвярджэньня Прызыдыуму быў разасланы па сельскіх саветах і апошнімі адноўлен.

Гэтыя скажэньні клясавай лініі пры адсутнасьці агульнага націску шырока скарыстаны кулаком, цэлы шэраг сельсаветаў успрынялі гэта як лінію РВК і працягвалі гэтую лінію разгортваць. Так, Азарышчынскі, Бабіцкі, Нахаўскі, Юрдзіцкі, Слабодзкі і г. д. сельсаветы сталі пераглядаць сьпіс кулакоў і аднаўляць іх у правох. Такім чынам было адноўлена каля 60 кулакоў і былых пазбаўленых, а з сябрамі сем'яў каля 300 чалавек. Праўда, частка з іх выслана.

Кулак падняў галаву і абнаглеў. Гэтым тлумачыцца, што шэраг сельсаветаў аказалі ўпорыстае супраціўленьне ў правядзеньні клясавай лініі пры выкананьні ўсіх гаспадарча-палітычных задач на вёсцы. Так, Бабіцкі, Баршчоўскі, Копальскі і Чэрняўскі с/саветы і шэраг другіх адмовіліся ад правядзеньня індывідуальнага абкладаньня і аб давядзеньні цьвёрдых заданьняў да кулацка-заможных гаспадарак. Вось якія рашэньні прымаліся с/саветамі пры „благосклонном“ маўчаньні кіруючых органаў: „Слухалі: Справаздачны даклад т. Быстройкава аб выкананьні розных відаў нарыхтовак і мобілізацыі сродкаў.

Пастанавілі: Пленум Копальскага с/с адносна давядзеньня цьвёрдага заданьня лічыць, што цьвёрдыя заданьні даць няма каму, гаспадаркі, плацячы падатак пры 6-5% надбаўкі, самі жывуць з рынку, а заможных гаспадарак няма, якім можна даць цьвёрдыя заданьні“ (з протоколу пашыранага Пленуму Копальскага с/с ад 12/IV-1931 г.) і другое: з протоколу паседжаньня Прэзыдыуму Чэрняўскага с/с ад 6/IV-31 г. „Слухалі: інформацыю прадстаўніка РВК тав. Кастрама аб дачы цьвёрдых заданьняў кулацка-заможнай частцы па нарыхтоўках і пасевах, а таксама і абкладаньня іх сельгаспадаткам у індывідуальным парадку.

Пастанавілі: З прапановай старшыні с/с аб дачы цьвёрдых заданьняў гаспадаркам Прэзыдыум не згадзіўся і ўказаў, што ў нас няма каму даваць цьвёрдых заданьняў, паколькі с/с наш бядняцкі няма заможных і кулакоў; у адносінах выяўленьня абкладаньня ў індывідуальным

Копальскі с/с так і заявіў: „бярэце нас куды хочаце, а мы сваіх парадку с/гаспадаткам, дык Прэзыдыум таксама адмовіўся“.
людзей абкладаць ня будзем“. Кулак скарыстаў опортуністаў, як лепшых сваіх дапаможнікаў і зрабіў сваю справу. У шэрагу с/с ён настолькі абнаглеў, што перайшоў да адкрытай барацьбы супроць колектывізацыі, зрываючы сходы (Краснапольле, Копальск). Прычым у Краснапольлі сход сарваны тым, што кулакі запалілі анучы спэцыяльна для дыму. Кулак падпальвае актыўных колгасьнікаў (Дыміхі). Нарэшце, у Кравацічах кулакі організавалі адкрытае выступленьне супроць організаваўшагася там колгасу і не дапусьцілі земляўпарадкаваўцаляў адвесьці зямлю пад колгас, прычым ніякіх прэтэнзій па адводу зямлі ад сялян ня мелі.

Якую позыцыю заняло парткіраўніцтва ў пытаньні скажэньня клясавай лініі? Як ужо сказана вышэй, па сыгналізацыі шэрагу сельскіх партыйных ячэек і газэты „Рэчыцкая Праўда“ Райком выправіў памылку, але-ж прымірэнцкі аднёсься да конкрэтных носьбітаў гэтых скажэньняў клясавай лініі і не мобілізаваў парторганізацыю на барацьбу з кулацкай небясьпекай. РК два разы абмяркоўваў пытаньне аб скажэньні клясавай лініі. 2-га сьнежня РК КП(б)Б абмеркаваў пытаньне аб масавым аднаўленьні кулакоў і вынес пастанову, якая кваліфікуе гэта, як праваопортуністычную памылку і прапанаваў пераглядзець сьпіс аднаўленых у правох кулакоў і прасіў КК дэталёва высьветліць конкрэтных вінаваўцаў з тым, каб абсудзіць на аб'яднаным паседжаньні РК і РКК КП(б)Б.

8-га сьнежня аб'яднанае паседжаньне РК і РКК абсудзіла пытаньне аб конкрэтных вінаваўцах і абвясьціла вымовы старшыні РВК тав. Герасеменку, а таксама Хапенку і Абрамовічу *за нядбайныя і няўважлівыя адносіны.* РК КП(б)Б зьвёў масавае аднаўленьне кулакоў у правох толькі да нядбайных адносін і, такім чынам, праявіў прымірэнцкія адносіны да грубейшага факту скажэньня клясавай лініі. Да сказанага трэба яшчэ дабавіць, што ва ўсіх рашэньнях, якія вынесены са справай аб аднаўленьні кулакоў, формулюецца ня масавае аднаўленьне кулакоў (колькасьць не ўпамінаецца), а гаворыцца аб аднаўленьні шэрагу кулакоў і гэтым вядома зьніжаецца політычнае значэньне гэтага пытаньня. Па-другое, на аб'яднаным паседжаньні, на якім абмяркоўвалася пытаньне аб вынясеньні спагнаньня за аднаўленьне кулакоў, першым пытаньнем разьбіраўся даклад фракцыі РВК аб ходзе нарыхтовак і мобілізацыі сродкаў. Трэцім пунктам рэзолюцыі разглядалася становішча з нарыхтоўкамі, як парушэньні генэральнай лініі партыі, як праява правага ўхілу. РК і РКК аб'ўляюць ўсёй фракцыі РВК вымову, і вось Райком не разабраўся ў гэтай абстаноўцы, не зьвязаў масавае аднаўленьне кулакоў з ходам выкананьня ўсіх задач і з агульнай лініяй у рабоце РВК. Гэта асноўная прычына адставаньня Рэчыцкага раёну ў колектывізацыі.

Гэтыя факты адносяцца да сталага пэрыоду, прыкладна да сакавіцкага пленуму РК ад 18/III. На гэтым пленуме пытаньне барацьбы з правай небясьпекай і барацьбы за колектывізацыю былі пастаўлены ў разгорнутай форме. Райкомам узята пасьля пленуму правідловая лінія па чыстцы с/с ад кулацкіх і опортуністычных элемэнтаў, а так-

сама па ўзмацненьні с/с. праверанымі і клясава вытрыманымі працаўнікамі, але рашучага пералому да гэтага часу яшчэ ня маецца. Райком павінен настойліва працягваць лінію па выкарчоўваньні правага опортунізму.

Другой прычынай адставаньня ў колектывізацыі зьяўляецца адсутнічаньне масавай працы. Праца з беднатой зусім не вялася. Была спроба ў лютым м-цы склікаць раённую конфэрэнцыю беднаты, але не сабралася, што зьявілася вынікам работы парторганізацыі з беднатой. Для характарыстыкі працы сярод жанчын дастаткова ўказаць на тое, што па ўсяму раёну працуе толькі адзін дэлегацкі сход жанчын у горадзе Рэчыцы і то не на прадпрыемстве, але-ж дэлегацкі сход хатніх гаспадынь і жонак служачых і саматужнікаў. Пастанова VI-га Зьезду Саветаў, адозва ЦК УсеКП(б) і СНК СССР, а таксама адозва ЦК КП(б) і СНК БССР па контрактацыі па 6 с/с, у якіх праводзілася абсьледваньне, не абгаварваліся. Усе гаспадарча-палітычныя мерапрыемствы на вёсцы праводзіліся ў большай частцы шляхам голага адміністраваньня і такім чынам загатоўкі і інш. мерапрыемствы не скарыстоўваліся для ўцягненьня бядняцка-серадняцкіх мас у соцыялістычнае будаўніцтва і дзеля організацыі шырокага колгаснага руху.

Адсутнічае масавая праца на прадпрыемствах і, галоўным чынам, адсутнічае масавая праца ў сувязі з колектывізацыяй. У выніку гэтага рабочыя і работніцы прадпрыемства, якія зьвязаны з сельскай гаспадаркай, не зьявіліся перадавікамі ў колгасным руху, але, наадварот, выступілі на сходах супроць колектывізацыі (Заужэль, Холмцы і г. д.) і, нарэшце, трэцяя прычына адставаньня Рэчыцы заключаецца ў тым, што партыйная організацыя не павярнулася тварам да соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, тварам да колгаснага будаўніцтва. Рэчыцкая парторганізацыя мае ня дрэнны актыў, але актыў ня быў мобілізаваны, актыў не разьвіў таго размаху, на які ён быў здолен. Што актыў не пераключаўся на баявыя тэмпы, прыкладам служаць тыя абставіны, што значная група партыйнага актыву, былыя акруговыя працаўнікі, перакінутыя з ліквідацыяй акруг, не павярнуліся тварам да раёну і не асвоілі поўнасьцю раённай працы і задач, якія стаяць перад раёнам, як асноўным зьвяном соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэта група доўгі час трымала курс на Гомель, не пераводзіла свае сем'і ў Рэчыцу, не дабівалася гэтага пераводу і вельмі часта езьдзіла па сямейных і ўсякіх іншых справах у Гомель у моманты напружанай працы, што не магло не адбіцца ў сэнсе размагнічаньня той напружанасьці, якая была патрэбна для ажыцьцяўленьня задач, якія стаялі перад Рэчыцкай парторганізацыяй.

## Б. Фінансы, бюджэт, будаўніцтва.

Высоўваньне гэтых пытаньняў на першае месца выклікана закіданасьцю іх кіруючымі органамі раёну і неабходнасьцю концэнтраваць на гэта ўвагу ўсіх партыйных організацый. Партыйная організацыя не ахапіла кіраўніцтвам такія важныя зьвеньні соцыялістычнага будаўніцтва, як бюджэт, мобілізацыя сродкаў і будаўніцтва.

Да апошняга часу канчаткова ня складзены і не зацьверджаны раённы бюджэт. Бюджэт складзены з дэфіцытам у 32 тыс. руб., без якіх-небудзь паказаньняў на крыніцы пакрыцьця. Зусім ня зьвернута ўвага на выкананьне прыбытковай часткі бюджэту. Пры вывучэньні гэтага пытаньня магчыма паказаць на мажлівае яго павялічэньне на 150-180 тыс. руб., а іменна: ня ўлічана бюджэтам нядоімка па сама-

абкладаньні на 1929-30 г. у суме 70 тыс. руб., ня ўлічаны наяўныя грошы сельскіх саветаў, якія лічацца на бягучым рахунку, у суме 30 тыс. руб., няпоўнасьцю выяўлены прыбыткі мясцовых падаткаў, і інш. розных паступленьняў, якія могуць быць павялічаны на 60—80 тыс. руб.

У гэты-ж час бюджэтам не забясьпечаны важнейшыя культурна-бытавыя запатрабаваньні раёну: рамонт жылбудаўніцтва, электрабудаўніцтва і г. д. 23/III-31 г. Рэчыцкі райком прадставіў ЦК КП(б)Б дакладную запіску, у якой, паміж іншым, піша: „Гор. Рэчыца зусім абойдзена бюджэтнымі асыгнаваньнямі як па лініі будаўніцтва, гэтак і па лініі культурна-асьветных і комунальных запатрабаваньняў. Напрыклад: увесь горад абслугоўваецца электрастанцыяй млыну і сельска-гаспадарчымі майстэрнямі, якія ня могуць задаволіць запатрабаваньня гораду сваёй энэргіяй.

Рэчыца таксама аказалася выключанай з плянавага будаўніцтва і перажывае вялізарнейшы жыльлёвы крызіс. Становішча з будынкамі па гораду катастрофічнае. Апошнія дні абвалілася сталоўка, у якой харчавалася каля 2.000 рабочых. Каб правесьці капітальны рамонт, неабходна закласьці 20-25 тыс. руб. Горад Рэчыца застаецца бяз тэатру і г. д.“

Сапраўды, соцыяльна-культурнае абслугоўваньне знаходзіцца ў цяжкім становішчы. За ўвесь час існаваньня савецкай улады ў г. Рэчыцы пабудаваны толькі адзін драўляны будынак для РВК і другіх устаноў. Няма тэатру. Слаба разгорнута клюбная сець. Гораду пагражае застацца бяз сьвету. Рэчыцкаму раёну неабходна аказаць дапамогу, але-ж гэтую дапамогу неабходна паставіць у прамую залежнасьць ад поўнай мобілізацыі і рацыянальнага скарыстаньня сваіх унутраных сродкаў і ад поўнага выкананьня фінансавага пляну. Гэтую дапамогу можна будзе аказаць тады, калі раённыя кіруючыя органы перабудуюць сваю працу і стануць сапраўднымі кіраўнікамі гаспадарча-культурнага будаўніцтва свайго раёну.

Значэньне мобілізацыі сродкаў таксама не асазнана. Плян мобілізацыі сродкаў за 1-шы квартал фактычна сарваны, выкананьне яго складае каля 60%. Тлумачыцца гэта становішча выключна няўменьнем кіраваць гэтай справай і недаацэнкай значэньня мобілізацыі сродкаў, як неабходнейшай умовы выкананьня задач 3-га рашаючага году пяцігодкі. Прарыў выкананьня пляну стварыўся, галоўным чынам, у галіне плацяжоў; так, да гэтага часу (па становішчу на 15/IV г. г.) маюцца нядоімкі па ўсіх плацяжох у суме 132.309 руб., за кулакамі лічыцца нядоімак на 46.797 руб., каля 40% усіх нядоімак. Заданьне СНК па мобілізацыі сродкаў на другі квартал не прапрацавана і на 20/IV не даведзена да сельсаветаў, такім чынам, выкананьне пляну другога кварталу з самага пачатку не забясьпечана.

Зьведзена на нішто важнейшая гаспадарча-палітычная дырэктыва партыі аб стварэньні сельскага бюджэту. Сельскага бюджэту няма, нават самастойныя бюджэты 4 с/саветаў, якія існавалі ў 1929/30 г., ліквідаваны. Ліквідаваны таксама бюджэт Гарсавету. Створан агульны кацёл, у якім неймаверная неразьбярыха. Зразумела, што такая пабудова бюджэту ня толькі спыніла фінансава-матар'яльную базу сельскіх саветаў у барацьбе за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, але ня можа спрыяць мобілізацыі сродкаў. Аналіз гэтых фактаў прыводзіць да наступнага выніку: усё гэта зьяўляецца вынікам таго, што наогул гаспадарчае кіраўніцтва важнейшымі функцыямі соцыялістычнага будаўніцтва знаходзіцца на дрэнным узроўні.

Задача заключаецца ў тым, каб кіруючыя працаўнікі раёну, а таксама кіруючыя органы ў цэлым асвоілі ўсе галіны гаспадарча-культурнага будаўніцтва, асвоілі-б усе функцыі і тэхніку гэтых функцый, а таксама ў тым, каб перабудаваць працу гэтых органаў.

Кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам ў раёне павінна быць узьнята на больш высокую ступень.

### В. Барацьба за прамфінплян

Прамысловасьць Рэчыцы паказвае выключна дрэнныя паказальнікі. Прамфінплян ня выкананы большасьцю прадпрыемстваў ні ў асобным ні ў першым кварталах. Так, запалкавая фабрыка „Дняпро" выканала сваю вытворчую праграму ў асобным квартале на 69%, у першым на 59%. Запалкавая „Х Кастрычнік" выканала ў асобным квартале на 88%, у першым на 94,04%.

Сабекошт замест зьніжэньня дае вялікі скок уверх. Фабрыка „Дняпро" дае ў першым квартале 25% павышэньня сабекошту, фабрыка „Х Кастрычнік" 14,04, фанэрны 10,02 і г. д. Прадпрыемствы хворы бракам. Фанэрны завод павялічыў брак у мінулым квартале на 132%, „Х Кастрычнік" на 247%, а „Дняпро" на 625%. Дзе прычыны гэтага? А прычына ў тым, што рабочая маса не мобілізавана на выкананьне прамфінпляну 3-га рашаючага году і ў асаблівасьці не мобілізавана на выкананьне якасных яго паказчыкаў. Лепш усяго гэта паказвае становішча з ударніцтвам і соцспаборніцтвам.

На заводзе „Дубітэль" да 20/IV-31 г. ня было ніводнага ўдарніка і ніводнага ўдзельніка ў соцспаборніцтве. З агульнай колькасьці рабочых прадпрыемстваў „Дубітэль", „Інтэрнацыянал" і „Х Кастрычнік" у ліку 3.390 ахоплена соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам 1587, альбо 47%. З агульнай колькасьці комуністаў гэтых прадпрыемстваў у ліку 435 ахоплена соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам 63, альбо 14,5%, комсамольцаў з агульнага ліку 360 ахоплена соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам 168 чалавек альбо 47%.

У соцспаборніцтве і ўдарніцтве менш паловы ўсіх рабочых, менш паловы ўсіх комсамольцаў і недастаткова ўцягнуты комуністы і гэта зьяўляецца галоўнейшай прычынай прарыву прамфінпляну на прадпрыемствах. Якасны бок соцспаборніцтва і ўдарніцтва вельмі нізкі і тлумачыцца адсутнічаньнем кіраўніцтва і вучоту іх працы з боку партыйных, профэсійных і гаспадарчых організацый. Як масы мобілізаваны на выкананьне якасных паказчыкаў, асабліва на падняцьце вытворчасьці працы, паказвае тое, што кампанія па перагляду норм выпрацовак зусім не праводзіліся. Зусім дрэнна разгорнута праца па рацыяналізацыі.

Прывядзем некалькі прыкладаў: на зав. „Томскага" за 1930 г. і 1-шы квартал 1931 г. паступіла 84 прапановы, з якіх 54 ад рабочых варштатаў. З 84 прапаноў толькі 22 прыняты і 13 адхідены, а 49 прапаноў, альбо 58,34% усіх прапаноў, да гэтага часу недзе марынуюцца.

Экономія ад прынятых прапаноў ствара̀е 49.912 руб., але прэміравана ўсяго на 360 руб. На ф-цы „Х Кастрычнік" манцёр зьёмачнага цэху падрэзаў зуб'я зьёмачнай машыны, што паменшыла колькасьць браку на 70%. Гэты манцёр быў абвінавачаны сакратаром цэхячэйкі ў шкодніцтве за тое, што ён ні з кім гэтага мерапрыемства не ўзгадніў. На заводзе „Дубітэль" адсутнічае Бюро па рацыяналізацыі і вучот рабочых прапаноў. Вытворчыя нарады працуюць з рук вон дрэнна,

бяз пляну і без кіраўніцтва, яны не перабудаваны па лініі перанясеньня цэнтру цяжару іх працы ў цэх, зьмену і г. д.

Работа па аўладаньні тэхнікай на прадпрыемствах не вядзецца. Усё гэта зьяўляецца вынікам таго, што ўся партыйная, профэсійная і гаспадарчая праца не перабудавана. Зьменныя партячэйкі і цэхпрофкомы не організаваны. Вячэрнія і начныя зьмены партыйна не абслугоўваюцца. Партыйныя групы ня існуюць і г. д.

### Г. Пытаньні лесу

Лясная гаспадарка адыгрывае вялікую ролю, што бачна хаця-б з той плошчы, якую яна займае. Пры агульнай плошчы раёну ў 2.950 кв. клм., плошча дзяржлясоў займае 1.000 кв. клм., альбо 33% усёй плошчы пры сярэднім беларускім процанце лясістасьці ў 25%.

Лясы Рэчыцкага раёну маюць усе формацыі ад бароў уключна і зьяўляюцца высока-вытворчымі. Гадавая лесасека складае 1.388 га, зараз сячэцца 4-гадовая лесасека ў 4.850 га. Пры масе ў сярэднім на 1 га 291.500 куб. мэтр. гадавы плян загатовак і вывазак складае 1.018.500 куб. мэтр., будаўнічай масы 357.000 куб. мэтр., дроў— 700.000 р. м.

Наколькі гэта програма напружана, бачна з наступнага: для выкананьня програмы патрабуецца

| | | |
|---|---|---|
| па лесанарыхтоўках: | 405.000 | чал. дзён |
| на вывазку . . . | 830.000 | „ „ |
| на падсочку . . . | 25.000 | „ „ |
| на акорку . . . | 20.000 | „ „ |
| на ачыстку . . . | 20.000 | „ „ |
| на сплаў . . . . | 15.000 | „ „ |

Усяго патрабуецца 1.335.000 чал. дзён пры 830.000 коня-днёх. Калі лічыць, што на лесазагатоўкі і вывазкі будзе працаваць кожны селянін на працягу 40 дзён у год, то для выкананьня гэтага заданьня патрабуецца 22.500 чалавек і 20.700 коняй. Усіх працаздольных мужчын у раёне 21.300, а коняй 13.247.

Выкананьне програмы складае ў асобным квартале па нарыхтоўцы будаўнічай масы 82% і вывазкі 52%, на дрованарыхтоўкі 14,6 і вывазцы 28,85%, у першым квартале па нарыхтоўцы 65%, па вывазцы 54%. Па экспорту плян выканан па загатоўках на 69% і па вывазцы на 64%, гэта ў першым квартале і прыкладна ў такім-жа памеры ў асобным квартале. Зусім зразумела, што з усіх проблем лясной гаспадаркі мы павінны сконцэнтраваць увагу на лесараспрацоўкі і вывазкі. Задача заключана ў тым, каб даць краіне, нават у ўшчэрб правільнаму лесазвароту, больш лесу, бо здаваць больш лесу, значыць, здаваць краіне больш валюты і больш будаўнічага матар'ялу для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

У сувязі з гэтым высоўваюцца наступныя задачы: Арганізацыя працы. Вытворчасьць працы нізкая, хістаецца ад 60--70%, адсутнічае зьдзельная аплата працы і брыгадная сыстэма працы. Соцспаборніцтва адсутнічае. Выключна слаба ўжыта мэханізацыя, так з 22 моторных піл працуюць толькі 3 пілы і то ня ў лесе, а на перарасьпілоўцы на складах. Таксама не працуюць пружынныя пілы. Мэханічныя пілы ня ўжываюцца на лесанарыхтоўках.

Рабочая маса не мобілізавана на асваеньне мэханізацыі. Комуністы, працуючы на лесараспрацоўхах, яўна адступілі перад цяжкась-

цямі ў асваеньні новых мэтодаў працы і цягнуцца ў хвасьце старыны. Неабходна ў гэтым стварыць пералом. Неабходна асвоіць новыя тэхнічныя і арганізацыйныя прыёмы працы ў лесанарыхтоўках усёй рабочай масы. Другая задача—гэта арганізацыя вывазкі. Тут высоўваецца неабходнасьць ўнесьці арганізаваны пачатак у той хаотычны парадак, які існуе на сёнешні дзень і які не забясьпечвае выкананьня плянаў вывазкі. Мэтоды прыцягненьня адзінаасобных сялянскіх коняй зусім не апраўдалі. Неабходна высунуць другі мэтод, мэтод арганізаванага прыцягненьня сялян шляхам коопэраваньня па сыстэме Кустпрамсаюзу альбо Колгасцэнтру часткі сялянскіх гаспадарак, якая найбольш зьвязана з лесараспрацоўкамі з тым, каб забясьпечыць лесавывазкі больш сталым кадрам возчыкаў.

Задача заключаецца ў тым, каб гэтыя гаспадаркі арганізаваць і дабіцца павышэньня вытворчасьці сялянскага каня і больш арганізаванага накіраваньня ўсіх тых матар'яльных каштоўнасьцяй (фураж, харчаваньне, прамтавары), якія мы ў аграмаднай масе трацім да гэтага часу з вельмі нізкай эфэктыўнасьцю.

Гэта пытаньне зараз прапрацоўваецца камісіяй з прадстаўнікоў Лесааб'яднаньня, Наркамзему, Колгасцэнтру, Кустпрамсаюзу і профарганізацыі.

Трэцяя задача—поўнае рацыянальнае скарыстаньне ўсіх астаткаў лесараспрацовак. Гэтым можна будзе павялічыць выхад будаўнічай масы на 5—7%, акая зараз скарыстоўваецца, як апал. Гэта задача можа быць ажыцьцёўлена шляхам арганізацыі гонтарэзкі і вытворчасьці тары і г. д.

Чацьвертая задача — гэта ачыстка і ахова лясоў, а таксама барацьба з караедамі і апошняя задача ачыстка Леспрамгасу ад чуждых элемэнтаў і былых людзей. Зараз у апараце Леспрамгасу працуе значная група чуждых нам людзей: 8 былых лесапрамыслоўцаў, 10 гандляроў, 6 былых афіцэраў, 9 былых удзельнікаў банд, служачых у паліцыі, у гайдамаках і г. д. Гэты букет трэба ўбраць з такога важнага вучастку соцыялістычнага будаўніцтва.

### Д. Больш увагі саматужнай прамысловасьці.

Саматужная прамысловасьць павінна прыцягнуць больш увагі з боку партыйнай арганізацыі і савецкіх органаў чым да гэтага часу. Плян (сустрэчны) Рэчыцкай Кустпрамкоопэрацыі намеціў выпуск гатунковай продукцыі ў 6.128.000 руб. Ужо гэта адно гаворыць аб тым, якія сур'ёзныя задачы ставяцца перад кустарна-прамысловай коопэрацыяй у 3-м рашаючым годзе пяцігодкі. Тым больш вырастае яе значэньне, калі ўлічыць, што яна выконвае шэраг задач па экспорту, забесьпячэньне пуцінай рачнога транспорту.

З посьпехаў Рэчыцкай Кустпрамкоопэрацыі неабходна адзначыць выкананьне экспортнай програмы ў асобным квартале і пераключэньне яе працы на мясцовую, недэфіцытную сыравіну, якая займае па пляну 71%. Аднак, і саматужная прамысловасьць мае шэраг недахопаў. Прамфінплян у першым квартале ня выкананы, выкананьне складае 74%. Мобілізацыя ўнутраных рэсурсаў ідзе вельмі слаба, плян паянакапленьня выканан на 87%. Партыйная арганізацыя Кустпрамкоопэрацыі не перабудавала сваёй працы. Слаба разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Так, з 1448 членаў арцелі ў соцспаборніцтва і ўдарніцтва ўцягнута 261, альбо 11%.

Неабходна адзначыць адсутнічаньне ня толькі кіраўніцтва, але і ўвагі з боку савецкіх органаў, у прыватнасьці РВК, Кустпрамкоопэрацыі. Так, ня гледзячы на тэлеграмы Наркампрацы і Нам. Стар. Саўнаркому тав. Калніна, РВК не аслабаніў карзінаплётаў ад працгужпавіннасьці, Леспрамгас ня выконвае сваіх абавязацельстваў па дастаўцы лесу і г. д. Вывад адзін—больш увагі кустарна-прамысловай коопэрацыі, больш увагі перабудове яе працы.

## Е. Беларусізацыя

Неабходна адзначыць слабую працу партыйнай організацыі па беларусізацыі. Шэраг устаноў яшчэ не беларусізаваны. Прыкладам могуць служыць установы аховы здароўя, дзе справаводзтва, прыём наведвальнікаў і профсаюзная праца вядзецца амаль выключна на расійскай мове. Таксама неабходна ўказаць на ЦРК, дзе беларусізацыя праведена амаль формальна. Да апошняга часу выдаецца насьценгазэта на расійскай мове.

Насьценгазэта на беларускай мове зусім не вядзецца.

Слабым вучасткам па беларусізацыі застаюцца прадпрыемствы.

На прадпрыемствах зусім ня ўжываецца белмова, усе сходы і пасяджэньні праводзяцца на расійскай мове (зав. „Дубітэль", „Інтэрнацыянал", зав. імя „Томскага" і колектыў ЦРК). Таксама партячэйкі гэтых прадпрыемстваў праводзяць сваю працу на расійскай мове. Партячэйка зав. „Томскага" адрозьніваецца толькі тым, што фіксацыя праводзіцца на белмове, дзякуючы таму, што тэх. сакратар ведае белмову. Кантора на зав. „Дубітэль", рахунковыя працаўнікі зав. імя „Томскага" ўсю працу сваю праводзяць на расійскай мове. Маюцца праявы вялікадзяржаўнага шовінізму (па яч. „Інтэрнацыянал"), мэханік Багдановіч, сябр КП(б)Б, заявіў, што белмова не патрэбна, што яна складаецца з шмат частак, што літаратары белмовы арыштаваны. На зав. імя „Томскага", а таксама па заводзе „Інтэрнацыянал" мелі месца заявы аб навязваньні чуждай мовы, аб хамскай мове і г. д. На гэтыя выступленьні ня было рашучага ўдару з боку пролетарскай грамадзкасьці, а партыйныя організацыі гэтую грамадзкасьць не стварылі.

## Ж. Партыйнае будаўніцтва

З партыйнага будаўніцтва неабходна высунуць пытаньне росту і соцыяльнага рэгуляваньня партарганізацыі, бо тут маюцца сыгналы, якія сьведчаць нешта большае, чым неблагапалучча. З усіх паказальнікаў раней за ўсё неабходна ўказаць на нізкі тэмп росту партыйнай організацыі:

| | |
|---|---|
| На 1/X састаяла членаў і канд. партыі . . . . | 831 |
| „ 1/IV-31 „ „ „ „ . . . . | 891 |

Рост за 6 месяцаў складае 60 чалавек, альбо 7,22%.

Акрамя гэтага, мы наглядаем за гэты тэрмін зьніжэньне ўдзельнай вагі рабочых з вытворчасьці на 3,48%, а іменна: з 58,36% да 54,88%, а ўдзельная вага служачых паднялася з 32,77% да 34,68%. Сельгасрабочых панізілася з 8 чал. да 2 ч. Галоўнейшай прычынай пагоршаньня соцыяльнага складу організацыі зьяўляецца слабы тэмп росту, які ня мог перакрыць зьмены, выкліканыя рухам комуністаў з іншых організацый у Рэчыцкую і наадварот, выключэньнем з партыі

і г. д., а таксама недастатковай удзельнай вагой рабочых з вытворчасьці ў агульным прыёме ў партыю.

За ўвесь гэты час прынята ў партыю 161 чал., з іх рабочых 133, альбо 75,77%, замест 80%, якія вызначаны рашэньнем ЦК КП(б)Б. Недахоп у росьце партыйнай організацыі паглыбляецца нізкай партыйнай праслойкай па цэлым шэрагу прадпрыемстваў, якая не суадпавядае тэмпам працы на прадпрыемствах. Партыйная праслойка па шэрагу прадпрыемстваў складае наступнае:

1. Ф-ка „Кастрычнік“ і „Дняпро“ раб. 2602, комун. — 314, 12,6%
2. Завод „Томскага“ . . . . „ 406 „ — 51, 13,79%
3. „ „Варашылава“ . . . „ 225 „ — 14, 6,78%
4. „ „Інтэрнацыянал“. . . „ 382 „ — 56, 14,65%

Рост партыйнай організацыі на прадпрыемствах таксама сьведчыць аб тым, што партыйныя організацыі на прадпрыемствах не перабудавалі сваёй працы.

У аглядзе працы Рэчыцкай партыйнай організацыі мы паказалі на шэраг глыбокіх прарываў на фронце барацьбы за генэральную лінію партыі і ажыцьцяўленьне задач 3-га рашаючага году пяцігодкі.

Зразумела, што ўстае пытаньне. Ці зможа партыйная організацыя забясьпечыць ліквідацыю гэтых прорываў, ці можа наогул партыйная організацыя змагацца за генэральную лінію партыі? Мы адказваем:

Рэчыцкая партыйная організацыя, організацыя пролетарская (76% рабочых у організацыі) і баяздольная. Прарывы, якія яна мае, зьяўляюцца вынікам таго, што партыйная організацыя не перабудавалася ў адпаведнасьці з узятымі партыяй буйнымі тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва і ў адпаведнасьці з тымі конкрэтнымі задачамі, якія пастаўлены перад Рэчыцай у трэцім рашаючым.

Партыйная організацыя не разгарнула таго размаху, тых тэмпаў, якія яна здольна разгарнуць. У шэрагу галін, як колектывізацыя, выкананьне прамфінпляну і г. д., панаваў самацёк. Партыйная організачыя ня была мобілізавана на разгортваньне бальшавіцкіх тэмпаў, ня былі мобілізаваны і рабочыя масы.

ЦК КП(б)Б, які заслухаў даклад Рэчыцкага Райкому, адзначыў прычыны прарыву ў Рэчыцы і намеціў у сваёй рэзолюцыі конкрэтны плян дзеяньняў, які павінен дапамагчы Рэчыцкай партыйнай організацыі і ліквідаваць тыя прарывы, і стаць у шэрагу перадавых раёнаў. Рашэньні Бюро ЦК павіны стаць програмай і плянам практычнай работы Рэчыцкай партыйнай організацыі.

**Е. Салд-а**

# Вопыт перабудовы партработы [1])

*(саўгас Негарэлае)* [2])

## Хворы саўгас

На працягу доўгага часу кіраўніцтва саўгасу „Негарэлае“ знаходзілася ў руках правых опортуністых, якія давялі гэтую буйную сьвінаводную гаспадарку да поўнага развалу. Увесь 1930 год саўгас Негарэлае па ўсіх галінах работы ганебна адставаў.

Опортуністычнае кіраўніцтва гэтай гаспадаркі, якое зьнята з работы і аддана пад суд, няздольна было мобілізаваць рабочых і ўзьняць іх вытворчую актыўнасьць на выкананьне прамфінпляну. Выкананьне прамфінпляну ў 1930 годзе сыстэматычна зрывалася. Напр., плян будаўнічых работ быў выкананы толькі на 8—12 проц.

Важнейшая гаспадарчая кампанія—уборка ўраджаю бульбы, сенажаці, лубіну і інш.—была сарвана. Калі 50% бульбы, 35% сена засталося ня прыбрана. З 17 га засеянага пад авёс палавіна асыпалася на корані. Корьняплоды таксама загінулі ня выбранымі.

У гэтым саўгасе на вачох опортуністых шкоднікі дзейнічалі на працягу досыць доўгага часу. З убранага лубіну большасьць таксама згніла, бо адсутнічаў ўсякі нагляд за яго захаваньнем. Такая-ж работа праводзілася і ў галіне гадоўлі сьвіней.

Саўгас Негарэлае зьяўляецца сьвінагадоўчай гаспадаркай. У гэтай важнейшай галіне работы панавала безгаспадарчасьць, шкодніцтва, і рвацтва.

Уся „работа“ вялася да таго, каб сарваць будаўніцтва гэтай сьвінаводнай гаспадаркі. Сьвіньні карміліся чумным мясам, гнілой бульбай, хварэлі і гінулі; адсутнічаў вучот апаросу сьвінаматак, ня было контролю і адказнасьці па нагляду за апаросам і сьвінямі. Свіньні раскрадаліся. Вось факты шкоднасьці і бязгаспадарчасьці:

За два месяцы першага кварталу 1931 году лічба падзяжу сьвіней дасягнула 500 галоў. Процант адыходу парасят пры апаросе даходзіў да 50—57%.

Возьмем іншыя работы ў саўгасе. Так, абмалот збожжа на 15-га лютага быў скончаны толькі на 15—20%. Будаўніцтва таксама ганебна зрывалася: да 1-га сакавіка плян па будаўніцтву быў выкананы на 3%

Выкананьне прамфінплану па вясновай сяўбе было пад ударам. На 22 лютага яшчэ нават ня быў абмалочаны авёс, не ачышчана

---

[1]) Пытаньне аб сэктарох ставіцца ў парадку абгаварэньня.

[2]) Артыкул напісаны па матар'ялах орггрупы ЦК КП(б)Б, якая працавала ў саўгасе Негарэлае каля 3-х месяцаў.

збожжа. Зьдзельшчына ня толькі ня была ўведзена, але і не прапрацавана.

Альбо ўзяць пытаньне вучоту. Саўгасная гаспадарка павінна была-б быць прыкладам у справе наладжаньня вучоту. Між тым і вучот адсутнічаў. Падрыхтоўка да сяўбовай кампаніі сыстэматычна зрывалася. Амаль да сакавіка рабочы плян сяўбы яшчэ ня быў распрацаваны.

Мінулае кіраўніцтва саўгасу было зьнята з работы і аддана пад суд (дырэктар асуджаны на год прымусовых работ); сакратар партячэйкі выключаны з шэрагаў партыі. Аднак, спадчына опортунізму мела вялікі ўплыў на выкананьне прамфінпляну гэтага году. Першы квартал 1931 г. яшчэ заставаўся кварталам буйных прарываў. Партячэйка ўсё яшчэ не змагла стаць на чале рабочай масы, не змагла мобілізаваць іх для ліквідацыі маючыхся прарываў. Партячэйка работала старымі мэтодамі работы. Яна плялася ў хвасьце рабочых мас і не змагла быць тым штабам, які-б мог мобілізаваць рабочых свайго саўгасу на штурм прарываў і спадчыны опортунізму.

Два месяцы—студзень і люты—партячэйка ня мела кіраўніцтва, комуністыя бязьдзейнічалі. У адказны час на пярэдадні бальшавіцкай сяўбы партячэйка палец аб палец ня вытнула для мобілізацыі рабочых мас на выкананьне асноўных задач партыі. Яна была адарвана ад рабочай масы. Комуністы не карысталіся аўторытэтам сярод рабочых.

Рабачком саўгасу, на чале з опортуністам Нагібавым, які выключаны з шэрагаў КП(б)Б, таксама быў агэнтурай кулака і тармазіў усю работу сярод рабочых саўгасу. Замест мобілізацыі рабочых на выкананьне вытворчых задач, рабачком абараняў клясава-варожыя элемэнты ў саўгасе і дамагаўся прыём ў саўгас кулацкіх элемэнтаў.

Такім чынам, у саўгасе „Негарэлае“ досыць яскрава адбылася змычка правых опортуністых з кулаком. Яны разам зрывалі саўгаснае будаўніцтва, зрывалі вырашэньне мясной проблемы.

## Перабудова партработы

Такі стан гаспадаркі застала оргґрупа ЦК КП(б)Б, якая прыехала для перабудовы патработы ў саўгас Негарэлае. На сходзе рабочых партгрупа выявіла абураючыя факты безгаспадарчасьці і разгільдзяйства ў організацыі працы ў саўгасе.

Па-першае, адсутнічаў усякі вучот прароблёнай работы, пэнсія атрымоўвалася і за час прагулаў. Ня ўлічвалася якасьць працы, чаму некаторыя з рабочых нядобрасумленна адносіліся да працы. „Нечага асабліва нажымаць... усё-роўна пэнсію атрымоўваем“, — разважалі многія.

Па-другое, абязьлічка ня была ліквідавана. У саўгасе наглядаліся самыя барбарскія адносіны да машын і жывой цягавай сілы.

Па-трэцяе, зьдзельшчына ня была ўкаранена, хаця формальна аб увядзеньні зьдзельшчыны ў саўгасе ўжо і гаварылі. Нарэшце, амаль адсутнічала адзінаначальле; ня было ніякай адказнасьці за даручаную працу. У саўгасе панаваў поўны хаос і безгаспадарчасьць.

Оргпартгрупе прышлося правесьці вялікую работу па мобілізацыі комуністых і комсамольцаў, а таксама і рабочых на штурм прарываў і ўсіх недахопаў, якія меліся ў саўгасе.

Перш за ўсё ўся партыйна-масавая работа ў саўгасе была перабудавана па вытворчаму прынцыпу. Усе комуністы і комсамольцы ў першую чаргу былі расстаўлены на вытворчыя вучасткі. Перад імі былі пастаўлены адпаведныя задачы і адказнасьць за даручаную ра-

боту. Для гэтага скарысталі вопыт лепшых заводаў (Электразавод— Масква і Чырвонасьцяжны завод „Бальшавік"), якія паказалі ўзоры перабудовы партыйна-масавай работы. Матар'ялы перабудовы былі грунтоўна распрацаваны і ўсьвядомлены кожным комуністым і комсамольцам.

У аснову перабудовы партыйна-масавай работы была пакладзена організацыя партгрупы ў цэху, што дало магчымасьць вырашыць галоўную задачу — мобілізацыі рабочых саўгасаў на выкананьне прамфінпляну і ажыцьцяўленьне задач 3-га году пяцігодкі.

Патгрупы былі створаны ў чатырох цэхах — вытворчых вучастках—сьвінаводным, паляводным, лесапільным заводзе і на вучастку „Скароднае". Да кожнай з паказаных партгруп прымацаваны член Бюро ячэйкі, які кіруе паказанай групай і нясе адказнасьць за пастаноўку ўсёй партыйна-масавай работы ў гэтай групе.

Прынцып організацыі партгруп наступны: партгрупы ствараліся там, дзе было ня менш 3-х комуністых. У кожнай з паказаных груп абраны партыйны організатар, які зацьвярджаўся на бюро партячэйкі і агульным сходам.

Да работы паказаных партгруп прыцягваюцца комсамольцы і лепшыя ўдарнікі з рабочых, якія потым рыхтуюцца для ўступленьня ў шэрагі КП(б)Б.

Пры стварэньні партыйных груп Бюро партячэйкі выходзіла з таго, што недзе ў далёкім часе яны перарастуць у партыйныя ячэйкі і будзе створана бюро партыйнага колектыву саўгасу. Перад партгрупамі пастаўлены наступныя задачы:

1. Мобілізацыя рабочых мас вытворчага вучастку (цэху) на выкананьне прамфінпляну.

2. Організацыя працы і ўкараненьне зьдзельшчыны.

3. Разгортваньне соцыялістычных форм працы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

4. Выяўленьне лепшых ударнікаў і правядзеньне політвыхаваўчай работы сярод іх на прадмет уцягненьня іх у шэрагі партыі.

Такім чынам, уся партыйная работа была перанесана ў партыйную групу, г. зн. у цэх, у брыгады, дзе вырашаюцца пытаньні тэмпаў, пытаньні мобілізацыі рабочых цэхаў на выкананьне вытворчых задач і выкананьне прамфінпляну.

У асобных цэхах — на канюшні і скотным двары ня было адпаведнай колькасьці комуністых для організацыі партгруп. Тут вылучаны партыйныя організатары, якія вядуць культурна-масавую працу: організуюць соцспаборніцтва і ўдарніцтва, праводзяць гутаркі, прапрацоўваюць рашэньні партыйных зьездаў, пленумаў і г. д.

Па такому-ж прынцыпу была перабудавана і комсамольская і профсаюзная работа. У трох першых цэхах (акрамя Скароднага) былі створаны комсамольскія групы.

Былі вылучаны профупаўнаважаныя, падабраны і расстаўлены майстры цэхаў.

Такім чынам, быў створаны „трыкутнік" у нізавым зьвяне — цэху. Гэты „трыкутнік" зьяўляецца той вытворчай адзінкай, якая дае правільны кірунак усёй рабоце і б'ецца над выкананьнем аднэй задачы: барацьбы за прамфінплян. Партгрупы організуюць соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва; тут-жа на рабоце выяўляюць лепшых ударнікаў з рабочых для набліжэньня і прыёму іх у шэрагі партыі; змагаюцца з рвацтвам і разгільдзяйствам. Лепшыя ўдарнікі выяўляюцца для прэміяваньня.

Партыйныя організатары, на якіх ўскладзены адказныя задачы, кіруюць групамі і нясуць адказнасьць за ўсю работу ў нізавым зьвяне. Яны даюць справаздачу Бюро ячэйкі аб праробленай працы (раз-два ў месяц).

### Організацыя сэктароў. Іх функцыі

У апошні час у партячэйцы саўгасу „Негарэлае" зроблены значны зрух у справе ажыўленьня партыйна-масавай работы. Пры перабудаваньні партработы былі створаны наступныя сэктары: масавай агітацыі і пропаганды, партвыхаваўчы сэктар, праверкі ўдзелу комуністых і комсамольцаў у соцспаборніцтве і ўдарніцтве і, нарэшце, сэктар тэхнічнай вучобы і друку.

Перад сэктарамі вызначаны наступныя функцыі:

#### 1. Сэктар масавай работы і пропаганды

а) Назірае за тым, каб усе партыйцы займаліся вучобай; б) організуе школы і гурткі; в) клапаціцца аб падручніках; г) вызначае дні вучобы; д) кіруе работай грамадзкіх організацый; е) кіруе работай — агітмасавай — у цэху; ж) наглядае за выкананьнем пастаноў; з) правярае чытаемасьць газэт і часопісаў комуністымі і беспартыйнымі.

Трэба сказаць, што ў выніку работы гэтага сэктару актыўнасьць комуністых і нават рабочых значна ўзьнялася. Узьнялася зацікаўленасьць да вучобы. За досыць кароткі час выпіска газэт з 50 экз. павялічылася да 80, а часопісаў з 10 да 35.

Праведзена ажыўленьне такіх організацый, як МОПР і Асоавіяхім, колькасьць членаў у якіх павялічылася ў два разы.

#### 2. Партвыхаваўчы сэктар

а) Правярае наведваньне партыйных школ, альбо прычыну няяўкі; б) прымацоўвае комуністых да індывідуальнай апрацоўкі беспартыйных; в) кіруе распрацоўкай важнейшых рашэньняў партыі, дырэктыў і г. д.

#### 3. Сэктар праверкі ўдзелу ў спаборніцтве і ўдарніцтве

Па ініцыятыве гэтага сэктару ўсе комуністыя і большасьць комсамольцаў сталі ўдарнікамі; выкрываюцца ілжэўдарнікі. Для лепшых ударнікаў устаноўлены прэміі і г. д.

#### 4. Сэктар тэхнічнай вучобы і друку

Асноўная задача гэтага сэктару — аўладаць тэхнікай. Для гэтага створаны курсы сьвінароў, якія на працягу 2-х месяцаў наведвала 25 чалавек. Курсы даярак наведвала 10 чалавек. Зацікаўленасьць да тэхнікі значна ўзьнялася.

У саўгасе па пачыну гэтага сэктару створана насьценгазэта „Штурм", якая выдаецца штодэкадна. За досыць кароткі час навакол насьценгазэты скалаціўся добры актыў рабкораў-ударнікаў, якіх налічваецца больш 15 чал.

Аднак, трэба адзначыць, што сталай работы сярод актыву насьценгазэты ўсё яшчэ не вядзецца.

## У барацьбе за прамфінплян

### а) Прамфінплян спушчаны ў цэх, даведзены да рабочага

За першыя дэкады ўдарнай работы партячэйка саўгасу ў барацьбе за прамфінплян дабілася станоўчых вынікаў. Актыўнасьць рабочых саўгасу, у выніку правільнай расстаноўкі партыйных сіл, рэзка ўзьнялася. Правільная расстаноўка людзей, адказнасьць за даручаную ім працу забясьпечыла ўздым вытворчасьці працы і працоўнага энтузіязму ня толькі кіраўнікоў цэху, але кожнага рабочага, работніцы і ў першую чаргу комуністага.

Партыйнымі групамі, якія створаны ў цэхах; праведзена вялізарная работа па мобілізацыі рабочых на выкананьне прамфінпляну ў 3-м рашаючым годзе.

Прамфінплян абмяркоўваўся на цэхавых сходах, дзе рабочыя ўносілі шмат каштоўных прапаноў, як ліквідацыя абязьлічкі, „дробязі“ ў складаньні рабочых плянаў, пераход на электраток і інш. Гэты прамфінплян пасьля абмеркаваньня ў цэхах быў абгаворапы на агульна-вытворчых нарадах усіх цэхаў, пасьля чаго зацьвярджаўся на агульным сходзе рабочых усяго саўгасу.

Такім чынам, у складаньні прамфінпляну, у яго распрацоўцы ўдзел прынялі рабочыя амаль усіх цэхаў. Асноўная маса рабочых добра ўразумела важнейшыя лічбы свайго прамфінпляну і неабходнасьць яго выкананьня.

### б) Сустрэчны рабочы

За некалькі дзён да абгаварэньня фінпляну на сходзе саўгас „Негарэлае“ атрымаў выклік саўгасу „Сталіна“ на лепшае вырашчваньне маладняку і разьвядзеньня сьвінагадоўлі. Рабочыя, на сваім сходзе абмяркоўваючы выклік сталінцаў вылучылі, свой сустрэчны прамфінплян. Было прапанавана ўсім цэхам вылучыць спэцыяльныя групы для распрацоўкі сустрэчных плянаў. Некалькі дзён работалі брыгады цэхаў над сустрэчнымі плянамі.

Сваім сустрэчным негарэльцы выставілі наступныя лічбы:

Калі раней ў пляне значылася ўзрост 12 парасят ад аднэй сьвінаматкі, дык зараз сьвінарны цэх вылучыў лічбу ў 14 штук.

Засеяць у веснавую сяўбу было вызначана 1.000 га, а паляводы вызначылі 1079 га.

Рабочыя паставілі задачай — мэханізаваць кухню для сьвінаркі; даць электраток і сьвет саўгасу да 7-га лістапада г/г.

Сьвінарны цэх узяў на сябе абавязацельства павалічыць норму па доглядзе за сьвінаматкамі. Замест 25 вызначана 33 сьвінаматкі на кожнага рабочага для догляду ў дзень.

Перад усімі рабочымі пастаўлена задача аб падвышэньні якасьці работы. Якасьць работы будзе ацэньвацца пры прыёме тэй альбо іншай работы.

Такія лічбы і факты сустрэчнага прамфінпляну высунуты самімі рабочымі саўгасу. Неабходна константаваць, што паказаныя нормы выконваюцца з посьпехам.

У саўгасе, дзе опортуністычнае кіраўніцтва мінулага году недаацэньвала політычнае і практычнае значэньне соцыялістычных форм працы, ігноравалася і тармазілася соцспаборніцтва і ўдарніцтва—гэты магутнейшы вагар уздыму працоўнага энтузіязму,—зараз соцспаборніцтвам ахоп-

лена 72 проц. рабочых і работніц саўгасу. У барацьбе за прамфінплян для большасьці рабочых і работніц саўгасу соцспаборніцтва стала асноўным мэтодам працы і змаганьня.

У адказ тульскім рабочым рабочыя саўгасу высунулі сустрэчны прамфінплян і пачалі работу сапраўды ўдарнымі тэмпамі. Сьвінарныя і паляводныя вытворчыя вучасткі цалкам сталі ўдарнымі. Іх прыкладу пасьледвалі астатнія цэхі, якія за дзьве дэкады красавіка таксама напалову сталі ўдарнымі. Выяўляюцца ілжэўдарнікі. Тыя, што тармозяць работу (п'яніцы, рвачы і г. д.), выяўляюцца на чыстую ваду.

У саўгасе створаны чырвоныя і чорныя дошкі. У канцы кожнага дня на дошках вывешваюцца сьпісы лепшых ударнікаў (на чырвонай), прагульшчыкаў, лодыраў і інш. (на чорнай). Трэба сказаць, што арганізацыя чырвонай і чорнай дошкі адыграла вялікую ролю ў справе падвышэньня працоўнай дысцыпліны.

Напярэдадні веснавой пасеўнай кампаніі ў саўгасе была ўведзена прэміяльна-зьдзельная сыстэма працы. Гэта сыстэма зьвілася магутным фактарам у справе павышэньня норм выпрацоўкі і зацікаўленасьці ў павышэньні норм сярод рабочых і работніц.

Першыя дэкады правільнага плянаваньня і барацьбы за прамфінплян далі бліскучыя вынікі. Вось некаторыя прыклады работы брыгад і груп пасьля ўвядзеньня прэміяльна-зьдзельнай сыстэмы, разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва і абвяшчэньня штурму недахопаў у саўгасе.

Лесапільны варштат апрацоўваў 26 кб. мт. лесаматар'ялу. Цяпер гэты-ж варштат апрацоўвае 59 кб. мт.

Возьмем другі прыклад. Ударная група садаводаў (2 чалав.): прадукцыйнасьць працы раней—абрэзка 46 дрэў у дзень. Зараз абразаецца 72 дрэва і тымі-ж рабочымі.

Брыгады па вывазцы гною: раней вывозіў (1 чал.) 3 параконных вазы (адлегласьць 5 кл.), а зараз вывозіцца 5 вазоў.

Значных посьпехаў па ўзьняцьці прадукцыйнасьці працы дасягнула брыгада сьвінароў па догляду за сьвінаматкамі. Калі ў студзені і лютым процант адыходу парасят пры апаросе складаў 55—60 проц., дык у красавіку процант адыходу складае 11 (зьмяншэньне ў $5^1/_2$ разы).

Сьвінары сьцьвярджаюць, што такой „мінімальнай лічбы адыходу яны дабіліся толькі дзякуючы разгортваньню соцспаборніцтва і ўдарніцтва“, дзякуючы таму, што ўведзена зьдзельшчына і наладжаны контроль і адказнасьць з боку старшых сьвінароў за даручаную ім работу на рашаючых вучастках барацьбы за сьвіньню.

На сьвінаводчым вучастку, дзе клясавыя ворагі шкодзілі, цяпер усе работнікі і работніцы добрасумленна адносяцца да працы і ўсе працуюць ударна, паказваючы добрыя прыклады працы астатнім вучасткам і брыгадам. Асобныя цэхі ўжылі грамадзкі „буксір“. Так, жывёлагадоўчы цэх, які значна адставаў, узяты на „буксір“ сьвінарным цэхам. Аказваецца дапамога больш перадавых брыгад і груп адсталым.

Горш з будаўніцтвам. У саўгасе Негарэлае праводзіцца вялікае будаўніцтва: будуюцца інтэрнаты для рабочых; распачынаецца будаўніцтва новых сьвінарнікаў, клюбу і сталовак. У будаўнічых работах, на жаль, яшчэ ня ўзяты патрэбныя тэмпы. Праўда, програма будаўніцтва ў красавіку выканана на 65 проц., замест 2-4% у лютым і сакавіку. Аднак, тут усё-ж такі ёсьць буйны прарыў. Зьнішчэньне гэтага прарыву магчыма толькі пры ўмове больш рашучага разгортваньня социялістычных форм работы і організаванае ўцягненьне рабочае сілы

ў саўгас. Толькі мэтодамі соцпаборніцтва і ўдарніцтва паміж брыгадамі будаўнікоў магчыма зьнішчэньне ўсіх недахопаў на будаўнічых работах. Вось чаму негарэльскія комуністы паставілі задачай: „Даць інтэрнаты рабочым у самы бліжэйшы час“.

І толькі ў рашучай барацьбе з кулаком, даючы руйнуючы адпор правым капітулянтам, негарэльская парт'ячэйка дабілася значных посьпехаў у сваёй рабоце.

### У барацьбе з опортуністамі расла і мацнела партячэйка

Наша комуністычная партыя надае асаблівую ўвагу пытаньням росту яе радоў і організацыйнаму ўмацаваньню вясковай парторганізацыі. Умацаваньне вясковых парторганізацый, ператварэньне партячэек саўгасаў, МТС і буйных колгасаў у апорныя пункты партработы на вёсцы мае рашаючае значэньне для справы соцыялістычнай рэконструкцыі і выкананьня пяцігодкі па колектывізацыі вёскі за чатыры гады.

Практыка паказвае, што паварот комуністаў да вытворчасьці, кіраўніцтва вытворчасьцю і добры прыклад выклікаюць рост ячэек за кошт лепшай часткі рабочых, батракоў і колгасьнікаў беднякоў з ударнікаў.

Гэта даказана і практыкай работы негарэльскіх комуністаў. Мы ўжо гаварылі вышэй, што парткіраўніцтва ў гэтым саўгасе набліжана да мас, што партячэйка стала на чале творчага ўздыму мас — рабочых і работніц саўгасу. Ударныя тэмпы работы ў саўгасе ня толькі павысілі продукцыйнасьць працы, але і выклікалі вялікі рух сярод рабочых за ўступленьне ў рады комуністычнай партыі. За апошнія тры месяцы (красавік—май) было падана 26 заяў аб прыёме ў партыю. Прычым, 21 заява належыць лепшым ударнікам і ўдарніцам саўгасу, якія зьяўляюцца пажылымі рабочымі з вялікім (7-15 год) вытворчым стажам.

З паказанай колькасьці падаўшых у партыю было прынята 17 чалавек. Гэты факт мае вялікае значэньне для ўмацаваньня партработы ня толькі ў саўгасе Негарэлае, але і ў бліжэйшых сельсаветах, якія мяжуюць з саўгасам. Негарэльская партячэйка вырасла і ўмацавалася. За 2 месяцы ўдарнай работы ячэйка вырасла больш як у тры разы. Такім чынам, замест 3 выкінутых з партыі опортуністаў у партыю прыняты лепшыя рабочыя, якія адданы справе соцыялістычнага будаўніцтва, якія па-бальшавіцку будуць змагацца за ажыцьцяўленьне гэнэральнай лініі ленінскай партыі.

### Вынікі бальшавіцкага штурму

У канцы лютага, калі прыбыла оргпартгрупа на чале з комвузаўцам тав. Радчэнка (у чэрвені скончыў Комвуз і зараз працуе сакратаром у саўгасе Негарэлае), у саўгасе быў абвешчаны штурм ліквідацыі прарываў і недахопаў. У выніку гэтага штурму ўжо дасягнуты значныя посьпехі ў справе разгортваньня будаўніцтва у саўгасе. Усё тое, што ня было выканана па прамфінпляну мінулага году, за 2 месяцы штурму выканана на 50%. Значна павысілася і здача продукцыі дзяржаве. Так, напрыклад, за 2 месяцы—красавік і май—саўгас здаў продукцыі (па маслу) 126% заданьня. У саўгасе была пагроза вялікага недахвату рабочай сілы. Яшчэ ў сакавіку недаставала 56% рабочых. Аднак, у выніку рашучых мер, якія ўжыло кіраўніцтва і партячэйка саўгасу, рабочая сіла ўкомплектавана на 76 проц. На выка-

наньне задач веснавой сяўбы, будаўніцтва і вырошчваньне сьвіней была ўзьнята актыўнасьць ўсіх рабочых і работніц саўгасу.

За гэты час саўгас ачышчаны ад кулацка-варожых элемэнтаў і правых опортуністаў. Старшыня рабачкому, таксама кулацкі агент, выкінуты з радоў партыі. Прымірэнцам і „левакам" быў даны рашучы адпор. І трэба сказаць, што барацьба з кулацкімі агентамі, прымірэнцамі і кулакамі бясьсьледна не прайшла. У гэтай барацьбе партячэйка загартавалася, узмацнілася і вырасла. Партячэйка стала на чале рабочых і штурмуе іх на выкананьне гаспадарча-прамысловага пляну. Ячэйка зьяўляецца баяздольнай, яна абярнулася ў апорны пункт партработы ў бліжэйшых сельсаветах і штабам колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Комуністы і рабочыя соўгасу, на чале з партячэйкай, займаюцца ня толькі пытаньнямі організацыі саўгаснай вытворчасьці. Яны паслалі брыгады ў колгасы. Там саўгасныя брыгады організавалі працу, наладзілі вучот і ўкаранілі зьдзельшчыну. Саўгасныя брыгады дапамаглі брыгадам добра падрыхтавацца і па-ўдарнаму правесьці бальшавіцкую сяўбу.

Веснавая сяўба ў саўгасе была пад пагрозай зрыву: ня было фуражу, адсутнічала насеньне; ня былі адрамантаваны машыны і сельска-гаспадарчы інвэнтар. У саўгасе ня была ўведзена прэміяльна-зьдзельная сыстэма; адсутнічаў вучот і ігноравалася адзінаначальле — вось стан саўгасу напярэдадні выхаду ў поле — гэтага баявога іспыту і праверкі баяздольнасьці ячэйкі на правядзеньне важнейшай с.-г. кампаніі. Упартая работа і намаганьні перамагалі: пры дапамозе орггрупы ЦК былі створаны насенны і фуражны фонды; укарэнена прэміяльна-зьдзельная сыстэма, быў наладжаны ўлік. Комуністы былі расстаўлены па вытворчых вучастках (па брыгадах і групах). Ад комуністаў парт'ячэйка патрабавала поўнай справаздачнасьці і адказнасьці за лёс веснавой пасеўнай кампаніі. У гэтыя-ж дні рашучым чынам быў ажыцьцёўлены прынцып адзінаначальля.

## На чале з комуністам

Перабудова работы ячэйкі КП(б)Б павысіла адказнасьць комуністаў за становішча работы на ўсіх, адведзеных ім вучастках. Радавыя рабочыя, нядаўна прынятыя ў рады партыі, сталі актыўнымі ўдзельнікамі соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, організатарамі разгортваньня партыйна-масавай работы сярод рабочых. Яны паказалі прыклады соцыялістычных адносін да працы. Адзін той факт, што спаборніцтвам ахоплена 94% усіх членаў і кандыдатаў партыі, якія працуюць у полі, на сьвінарцы і інш., гаворыць за тое, што партячэйка добра ўсьвядоміла свае задачы. Асаблівых посьпехаў ва ўздыме працоўнай дысцыпліны дасягнулі яшчэ ўчора прынятыя ў партыю, кандыдаты КП(б)Б, якія дзейнічаюць прыкладам. Так, напрыклад, тав. Яршоў, які мае 27-гадовы вытворчы стаж, стаў першым організатарам спаборніцтва і ўдарніцтва ў сваёй брыгадзе. Не адстаюць і беспартыйныя. Напрыклад, тав. Пінкевіч Пятрусь, якому каля 60 год, зьяўляецца лепшым ударнікам на скотным двары. За ўдарную работу тав. Пінкевіч два разы атрымоўваў прэміі і карыстаецца вялікім аўторытэтам сярод усіх рабочых (акрамя ілжэ-ўдарнікаў, рвачоў і гультаёў) саўгасу. Тав. Зіневіч — першы ўдарнік і організатар спаборніцтва на цыркулярцы. Па ініцыятыве тав. Зіневіча цыркулярка ў два разы перавыконвае мінулагоднія нормы выпрацоўкі і на 50% перакрывае тыя нормы, якія прадугледжаны прэміяльна-зьдзельнай сыстэмай. І паля-

вод Шышко, і сьвінарка Налетка, і дзесяткі іншых рабочых-ударнікаў гэтага саўгасу паказваюць узоры соцыялістычных адносін да працы.

Гэта азначае, па-першае, што самі рабочыя масы, пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі, упарта і рашуча ўзяліся за працу аздараўленьня свайго хворага саўгасу. Гэта азначае, па-другое, што парторганізацыя гэтага саўгасу, па-баявому перабудоўваючы сваю работу, забясьпечыла правільнае, бальшавіцкае кіраўніцтва гэтымі масамі, стала на чале актыўнасьці рабочых і работніц. Яскрава, што без рашучай барацьбы супроць правых опортуністаў у гэтай ячэйцы, бяз выкрыцьця іх клясава-варожай дзейнасьці і без дапамогі ў гэтым оргпартгрупы ЦК, — ячэйка не змагла-б дабіцца гэтых першых, але значных посьпехаў.

Цяпер саўгас Негарэлае, які ганебна адставаў і знаходзіўся ў ліку апошніх, выходзіць на шырокі шлях свайго аздараўленьня. З посьпехам ліквідуючы тыя буйныя прарывы, недахопы і балянс опортунізму, што ўзрывала будаўніцтва гэтай гаспадаркі, узрывала гаспадарча-організацыйнае замацаваньне саўгасу, парт'ячэйка саўгасу вядзе рабочых да новых перамог.

---

# МАТЭРЫЯЛЫ і ДОКУМЭНТЫ

## РЭЗОЛЮЦЫЯ

### аб становішчы на філёзофскім фронце БССР

*(Прынята на агульным сходзе Таварыства Ваяўнічых Матар'ялістаў Дыялектыкаў Беларусі 1/VI-31 г.)*

Пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне, уступленьне ў пэрыод соцыялізму, завяршэньне ў гэтым годзе фундаманту соцыялістычнае экономікі, ліквідацыя кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, разгорнутае наступленьне соцыялізму па ўсяму фронту — усё гэта адбываецца ў абстаноўцы абвостранай клясавай барацьбы, у абстаноўцы росту супраціўленьня з боку эксплёататарскіх клясаў, якія зараз зьнішчаюцца.

Ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, якая кіруе клясавай барацьбой пролетарыяту, высоўвае з вялікай вастратой неабходнасьць самай жорсткай барацьбы з рознымі ухіламі ад генэральнай лініі.

Пасьпяховае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі немагчыма без рашучай барацьбы з рэакцыйнымі буржуазнымі і дробна-буржуазнымі ідэолёгіямі ва ўсіх галінах тэорыі, ідэолёгіямі, якія імкнуцца рэвізаваць марксызм-ленінізм, прыкрываючыся марксыцкай фразэолёгіяй.

У галіне філёзофіі рэвізія марксызму знайшла свой выраз, з аднаго боку, у мэханістычнай концэпцыі, якая ў асноўным зьяўляецца мэтодолёгіяй правага ўхілу і таму на даным этапе зьяўляецца найбольш небясьпечнай, з другога боку — у форме меншавіцтвуючага ідэалізму.

Барацьба з меншавіцтвуючым ідэалізмам, якая была праведзена пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, выкрыла яго антымарксыцкую сутнасьць. Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў партыйнасьць у філёзофіі і наогул у навуцы, не падпарадкоўваў тэорыю справе соцыялістычнага будаўніцтва і рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту; ён ня толькі не выкрываў політычнай і тэорэтычнай сутнасьці ўхілаў ад генэральнай лініі партыі, у прыватнасьці троцкізму і „левых“ загібаў, але прыкрываў і ў асобе паасобных кіраўнікоў выступаў супроць генэральнай лініі партыі, ня вёў разам з партыяй барацьбы з меншавіцкімі тэорыямі ў політэкономіі (Рубін), у літаратуразнаўстве (пераверзеўшчына) і іншых галінах тэорыі, а адносіўся да іх прымірэнча і прыкрываў іх.

Меншавіцтвуючы ідэалізм адмаўляў ленінскі этап у разьвіцьці тэорыі марксызму-ленінізму, замазваў тэорэтычныя памылкі Пляханава і іх сувязь з яго меншавізмам, рэвізаваў Леніна, і ў прыватнасьці скажаў тэстамэнт Леніна ў яго артыкуле „Аб задачах ваяўнічага матар'ялізму“, ігнораваў тэорэтычную ролю партыі, яе ЦК і тав. Сталіна.

Кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам, ускрыцьцё складаных законамернасьцяй пераходнага пэрыоду, аналіз клясавых зрухаў у нашай краіне — словам кіраўніцтва клясавай барацьбой пролетарыяту патрабуе правільнага ўжываньня марксыцка-ленінскай тэорэтычнай зброі.

Філёзофы павінны вучыцца ў партыі ўжываньню тэорэтычнай зброі марксызму-ленінізму, чаго не жадаў і ня мог зразумець меншавіцтвуючы ідэалізм.

Партыя ў асобе тав. Сталіна дапамагла партыйцам, якія працуюць у галіне філёзофіі, выкрыць рэвізіянісцкую сутнасьць меншавіцтвуючага ідэалізму.

Ужо ў 1924 г. т. Сталін даў ацэнку ленінізму, як новаму этапу ў разьвіцьці тэорыі марксызму. Тав. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў у 1929 г. указаў на адставаньне тэорыі ад задач соцыялістычнага будаўніцтва, што паслужыла непасрэдным штуршком да філёзофскай дыскусіі. Нарэшце, вялізарнейшае значэньне мае гутарка тав. Сталіна з Бюро ячэйкі ІЧП ФЕ ў сьнежані 1930 г., у якой тав. Сталін з асаблівай яскравасьцю ўскрыў палітычную сутнасьць дэборыншчыны, як меншавіцтвуючага ідэалізму, падняўшы тым самым дыскусію на большую вышыню.

Барацьба, якую партыя вядзе супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, не атрымала яшчэ ў БССР неабходнай прынцыповай пасьлядоўнасьці, глыбіні і рашучасьці. У цэлым радзе філёзофскіх прац БССР мелі месца грубыя мэханістычныя, позытывісцкія, эклектычныя памылкі і элемэнты меншавіцтвуючага ідэалізму.

Організацыя і ход дыскусіі, якая праходзіла ў канцы 1930 г., не адпавядала задачам ускрыцьця гэтых памылак. Дыскусія пачалася з вялікім спазьненьнем. У той час, калі партыя пачала разгортваць барацьбу з меншавіцтвуючым ідэалізмам, кіраўніцтва ТВМДБ заняла опортуністычна-чакальную позыцыю, не дааценіўшы палітычнага сэнсу гэтай барацьбы. Гэта-ж опортуністычная позыцыя выявілася і на самым сходзе і зьмесьце дыскусіі, якая атрымала вузка замкнуты характар, у яе ня былі ўцягнуты шырокія масы і асабліва партыйны актыў, ня была разгорнута бальшавіцкая крытыка і самакрытыка.

Выступленьні супроць дэборыншчыны насілі дэклярацыйны характар, ня выкрылі яе палітычнай сутнасьці. Асобныя выступленьні кіруючых таварышоў (у прыватнасьці Выдры) былі об'ектыўна накіраваны супроць павароту і перашкаджалі партыі ў яе барацьбе з дэборыншчынай. Замест концэнтраванай увагі на неабходнасьці рашучай барацьбы з дэборыншчынай, тав. Выдра выступаў пад лёзунгам „паварачваць з галавой з захоўваньнем завяваных позыцый, а з другога боку, выступаў супроць некаторых артыкулаў (з часопісу „Рэволюцыя і культура"), накіраваных на барацьбу з дэборыншынай, за партыйнасьць у філёзофіі, — тым самым об'ектыўна садзейнічаў дыскрэдытацыі новага філёзофскага кіраўніцтва. Гэтыя выступленьня ня сустрэлі патрэбнага адпору і ня былі выкрыты да канца.

Ня глядзячы на ўказаны ход дыскусіі, пад нажымам партыі і масы членаў ТВМДБ напрамак работы на паасобных вучастках філёзофскага фронту часткова зьмяніўся: колектыў філёзофаў самавызначыўся ў напрамку барацьбы з дэборыншчынай, зьмяніліся тэматыка і формы працы інстытуту філёзофіі ў сэнсе набліжэньня да актуальных задач соц. будаўніцтва і колектыўных мэтодаў працы, праведзена дыскусія па мэтодолёгіі троцкізму і прароблена вялікая праца па выкрыцьцю контррэволюцыйнай сутнасьці беларускага нацдэмократызму, узмац-

ніўся ўдзел філёзофаў у антырэлігійнай працы, пэдагогічная практыка вядзецца з пункту погляду барацьбы на два фронты ў тэорыі, хаця гэта праца не пастаўлена на належную вышыню.

Аднак, на чале гэтай работы ня стала Праўленьне ТВМДБ, дзякуючы чаму яна ішла самацёкам, а ТВМДБ, як організацыя, не ажыцьцявіла павароту ў БССР да апошняга часу і ня выканала пастаўленых партыяй задач у галіне філёзофіі.

Гэта тлумачыцца характарам і ходам дыскусіі, складам Праўленьня, якое было абрана ў той час, калі недастаткова чотка вызначылася позыцыя паасобных таварышоў пры наліччы перажыткаў меншавіцтвуючага ідэалізму ў паасобных членаў ТВМДБ.

Бальшавіцкая крытыка і самакрытыка ня стала мэтодам працы ТВМДБ да гэтага часу, дзякуючы чаму яшчэ не разгорнута крытыка філёзофскіх прац БССР (Вольфсона, Быхаўскага і інш.), ня гледзячы на вынесеныя пастановы.

Сход ТВМДБ асуджае опортуністычную лінію кіраўніцтва ТВМДБ і лічыць неабходным зьмяніць кіруючы склад яго, узмацніўшы яго маладымі філёзофскімі кадрамі.

Такое становішча прывяло да новай дыскусіі, якая супала з падвядзеньнем вынікаў усесаюзнай нарады ТВМДБ. Гэта дыскусія, якая пачалася ўнутры Праўленьня і фракцыі актыву, упяршыню падвяла вынікі мінулага этапу, разгарнуўшы па гэтым пытаньні партыйную крытыку, дзякуючы чаму частка таварышоў фракцыі ў цэлым прызнала свае памылкі. Гэта дыскусія мела сваёй мэтай стварыць карэнны паварот у бок выкананьня вялізарных партыйных задач, якія стаяць перад філёзофскім фронтам у БССР.

Побач з агульнымі задачамі, якія ставіць партыя ў галіне філёзофіі — барацьба за генэральную лінію партыі на два фронты: супроць мэханіцізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць меншавіцтвуючага ідэалізму, супроць прымірэнцтва да іх, за марксыцка-ленінскую філёзофію, за падпарадкаваньне ўсёй тэорэтычнай працы задачам соцбудаўніцтва, задачам барацьбы за пролетарскі атэізм, — ва ўмовах БССР выдзяляюцца спэцыфічныя моманты гэтых задач: барацьба з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, беларускім нацдэмократызмам і шовінізмам іншых колераў ва ўсіх галінах тэорыі і практыкі; распрацоўка проблем будаўніцтва культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, распрацоўка тэорытычных проблем рэволюцыйнага руху Заходняй Беларусі, найхутчэйшая падрыхтоўка пролетарскіх беларускіх тэорэтычных кадраў, якая мае ў сучасны момант вельмі важнае значэньне для БССР.

Філёзофскія організацыі БССР павінны ўвязаць сваю працу як з агульнасоюзнымі організацыямі, так і з іншымі навуковымі організацыямі БССР, практыкуючы супольную распрацоўку паасобных проблем. У мэтах большай концэнтрацыі сіл і больш глыбокай распрацоўкі конкрэтных задач гадавы плян павінен уключыць у сябе некалькі вузлавых проблем (нацыянальнае пытаньне, законамернасьці пераходнага пэрыоду антырэлігійнай працы, вывучэньне ленінізму, як новага этапу філёзофіі), над якімі павінен працаваць увесь філёзофскі колектыў. Тэмпы працы павінны намячацца, выходзячы з вучоту спэцыфічных запатрабаваньняў БССР і павінны быць абавязкова ўзгодненны з агульнасаюзным плянам. Агульны сход ТВМДБ лічыць неабходным асабліва падкрэсьліць, што барацьба супроць ухілаў ад лініі партыі па нацыянальнаму пытаньню павінна быць паднята на яшчэ большую прынцыповую вышыню і цясьней увязана з усёй тэорэтычнай

працай. Адным з важнейшых момантаў дзейнасьці ТВМДБ павінна быць перабудова ўсёй філёзофскай працы на колектыўных пачатках.

ТВМДБ павінна разгарнуць шырокую пропагандысцкую працу сярод партыйцаў, рабочых, колгасных мас на падставе барацьбы за генэральную лінію партыі ў галіне філёзофіі. Адначасова з гэтым павінна быць пашырана організацыйная база ТВМДБ, шляхам прыцягненьня ў ТВМДБ працаўнікоў іншых вучасткаў марксыцка-ленінскага тэорэтычнага фронту, практычных партыйных працаўнікоў, шляхам організацыі ячэек ТВМДБ на буйных прадпрыемствах, у колгасах і ВНУ БССР. У мэтах разгортваньня працы ТВМДБ лічыць неабходным склікаць Усебеларускую нараду ТВМДБ. Падрыхтоўчая кампанія да нарады павінна весьціся на падставе шырокай пропаганды і популярызацыі пастаноў усесаюзнай нарады ТВМД на падставе крытыкі і самакрытыкі філёзофскай продукцыі БССР.

Для разьвіцьця тэорэтычнай думкі БССР, распрацоўкі і пропаганды марксызму-ленінізму лічыць неабходным стварэньне пры ЦК КП(б)Б тэорэтычнага часопісу.

У мэтах выданьня ідэолёгічна-вытрыманай тэорэтычнай продукцыі, а таксама для папярэджваньня зьяўленьня на кніжным рынку варожай продукцыі — лічыць неабходным устанаўленьне сувязі Белдзяржвыдавецтвам з адпаведнымі марксыцкімі навуковымі організацыямі.

Паставіць задачу перад філёзофскімі організацыямі распрацаваць програмы па дыялектычнаму матар'ялізму, выходзячы з установак Усесаюзнай нарады ТВМД, а таксама ўстанавіць контроль за пэдагогічнай працай, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на провінцыяльныя ВНУ і Комвузы.

Інстытут філёзофіі і ТВМДБ павінны чотка разьмежаваць сваю дзейнасьць, пакідаючы за Інстытутам у асноўным навукова-дасьледчую працу, а за ТВМДБ масава-пропагандыцкую.

Лічыць неабходным асьвятліць на старонках часопісу „Бальшавік Беларусі" і газэты „Зьвязда" становішча на філёзофскім фронце БССР і яго чарговыя задачы.

Выкананьне ўсіх пастаўленых задач магчыма пры ўмовах разгортваньня бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі філёзофскай продукцыі БССР, пры ўмове колектыўных мэтодаў працы, пры ўмове консолідацыі ўсіх філёзофскіх сіл вакол распрацоўкі актуальных філёзофскіх проблем на падставе маючайся чоткай партыйнай лініі, будуючы сваю працу на падставе пастаноў ЦК УсеКП(б) па дакладу Ком. Акадэміі і аб часопісу „Под знаменем марксизма" і пастановы ЦК КП(б)Б аб працы комуністаў навуковых працаўнікоў.

УСІМ ГАРКОМАМ І РАЙКОМАМ КП(б)Б

# Аб разгортваньні сеткі партасьветы на новы навучальны год

Вялізарныя задачы социялістычнага будаўніцтва, барацьба за генэральную лінію партыі з усякімі адхіленьнямі ад яе за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, усё ўзрастаючая патрэбнасьць у партыйных кадрах вымагаюць ад парторганізацый далейшага разгортваньня партыйнае асьветы і павышэньня яе марксыцка-ленінскага ўзроўню.

ЦК КП(б)Б рашуча асуджае недаацэнку партыйнае асьветы з боку асобных парторганізацый і прапануе ўсім ГК і РК прыняць усе неабходныя меры да пашырэньня сеткі партасьветы ў новым навучальным годзе і палепшаньня якасьці партвучобы.

У аснову партасьветы на надыходзячы навучальны год павінны быць пакладзены пастановы 16-га Зьезду УсеКП(б), 13-га Зьезду КП(б)Б, Пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Поруч з задачай сыстэматычнага павышэньня тэорэтычнага і політычнага ўзроўню партыйных, інтэрнацыянальнага выхаваньня мас, далейшага ўцягненьня ў партыю рабочых і лепшых колгасьнікаў „сетка партасьветы, асабліва яе сярэдняе і павышанае зьвеньні, павінна атрымаць больш чотка выражаную ўстаноўку на падрыхтоўку кадраў партыйнага актыву для розных галін партыйнай работы".

*(З пастановы ЦК УсеКП(б)).*

Сваячасовая дасканалая падрыхтоўка да новага навучальнага году ў сетцы партасьветы і бальшавіцкае кіраўніцтва з боку РК, партколектываў і ячэек як падрыхтоўкай, так і разгортваньнем сеткі партасьветы мае сур'ёзнае політычнае значэньне.

Кампанія падрыхтоўкі да навучальнага году павінна быць шчыльна ўвязана з масавай праверкай вынікаў партвучобы за мінулы год, скарыстоўваючы вопыт мінулага году для палепшаньня пастаноўкі бальшавіцкай пропаганды ў новым навучальным годзе.

Разгортваньне сеткі партыйнае асьветы і ўкомплектаваньне яе слухачамі неабходна весьці такімі тэмпамі, каб забясьпечыць пачатак заняткаў у гарадзкой сетцы не пазьней 15-га верасьня і па вясковай— не пазьней 1-га кастрычніка г. г.

ЦК КП(б)Б прапануе кіравацца ў новым навучальным годзе наступнай сыстэмай партыйнае асьветы: *па гораду*—нізавым зьвяном павінны зьяўляецца *кандыдацкія школы,* разьлічаныя на кандыдатаў партыі і ўноў уступаючых у партыю рабочых з 1½-2 месячным тэрмінам навучаньня. Школы будуць займацца па падручніках „Ленінская Грамата"

Авербаха (на расійскай мове), часопіс-падручнік „Ленінская вучоба“ Культпропу ЦК КП(б)Б і па матар'ялах бягучай палітыкі (газэты і часопісы). Для членаў і кандыдатаў партыі і беспартыйнага рабочага актыву ў якасьці найбольш масавай формы партыйнай асьветы арганізуюцца пачатковыя партшколы з 4-месячным тэрмінам навучаньня, у якіх заняткі павінны праводзіцца па падручніках: „Памятка бальшавіка“—Керженцава, часопіс-падручнік—„Ленінская вучоба“, брошуры па асобных галінах прамысловасьці і матар'ялах бягучай палітыкі. У якасьці масавай формы партыйнае асьветы рэкомэндуюцца таксама гурткі бягучай палітыкі і школы-аднадзёўкі, якія праводзяцца ва ўдарныя дні вучобы па асобных палітычных кампаніях з ахопам усяго рабочага колектыву прадпрыемства і скарыстоўваюцца для вярбоўкі слухачоў у стацыянарную сетку партасьветы.

Нізавыя зьвеньні марксыцка-ленінскай вучобы організоўваюцца ў асноўным па вытворчаму прынцыпу—у цэхах, брыгадзе. Агульна-завадзкія школы і гурткі павінны організоўвацца толькі на невялікіх прадпрыемствах.

Сярэднім зьвяном партыйнае асьветы ў горадзе зьяўляецца: ВСПШ з 2-гадовым тэрмінам навучаньня (аднагадовым закончаным цыклявым навучаньнем). Школа разьлічана на скончыўшых ППШ і кандыдацкія школы альбо маючых падрыхтоўку ў аб'ёме ППШ. ВСПШ павінны організоўвацца непасрэдна на прадпрыемствах і толькі ў асобных выпадках для дробных прадпрыемстваў могуць быць арганізаваны аб'яднаныя СПШ. Падручнікамі для ВСПШ рэкомэндуюцца па гісторыі ЎсеКП(б)—Бубноў і Папоў; палітэканоміі ў сувязі з тэорыяй савецкай гаспадаркі—Лапідус і Астравіцянаў (апошняе выданьне), „Асновы Ленінізму“—Сталіна, „Дыялектычны матар'ялізм“—Вольфсона і Гака, эканомгеографіі (група аўтараў), партбудаўніцтва—падручнік катэдры Сьвярдлоўскага ін-ту і ІЧП—гісторыі партыі, тэхнічны мінімум для партактыву—Кантара і брошуры конкрэтнай эканомікі. Праходжэньне агульна-адукацыйных дысцыплін у ВСПШ будзе прадугледжана навучальным плянам, які дасылаецца Культпропам ЦК КП(б)Б. Рэкомэндуецца таксама організацыя прадметных гурткоў, якія займаюцца адным прадметам у аб'ёме програмы ВСПШ, і гурткі па вывучэньні асобных проблем палітыкі партыі і соцыялістычнага будаўніцтва. У якасьці кароткатэрміновых форм вучобы партактыву рэкомэндуецца організоўваць 3—5—10-дзёныя курсы партактыву непасрэдна на прадпрыемствах і ў агульнагарадзкім маштабе, для прапрацоўкі пастаноў партыі і г. д.

Вышэйшым зьвяном партасьветы ў горадзе зьяўляюцца вячэрнія комвузы з 3-гадовым навучаньнем і дэкадныя комвузы з 1-гадовым навучаньнем для партактыву, якія рыхтуюць партыйныя кадры. Вячэрнія комвузы організуюцца пры ГК і РК, а дэкадныя комвузы пры РК і на некаторых буйных прадпрыемствах і па сетцы, якая зацьвярджаецца ЦК КП(б)Б. Вячэрнія комвузы, у асноўным, павінны працаваць па програмах Менскага Вячэрняга Комвузу з дадаткам спэцыялізацыі. Як вячэрні, так і дэкадны комвуз можа быць організаваны пры наяўнасьці ня менш аднэй групы ў колькасьці 25—30 асоб.

Завочная вучоба з дапамогай радыё павінна адыграць вялізарную ролю ў справе марксыцка-ленінскай падрыхтоўкі партактыву ў горадзе і на вёсцы. ГК і РК неабходна дабіцца поўнага выкананьня контынгентаў у завочныя навучальныя ўстановы (ЗКУ, ЗСПШ і аднагадовыя курсы актыву). Перад пачаткам навучальнага году неабходна правесьці

праверку тэхнічнай прыгоднасьці і абсталяваньня радыё-аўдыторый для завочнай вучобы.

На вёсцы ЦК КП(б)Б рэкомэндуе разгарнуць наступную сыстэму партасьветы:

Першапачатковыя школы з 4-месячным тэрмінам навучаньня для членаў і кандыдатаў партыі і рабоча-колгаснага актыву, якія будуць працаваць па падручніках: „Азбука Ленінізму“ — Альховага, часопіс-падручнік „Ленінская Вучоба“ — Культпропу ЦК КП(б)Б, брошуры па асобных галінах сельскай гаспадаркі, школы-перасоўкі з $1^1/_2$-2-мес. навучаньнем па програме ППШ для абслугоўваньня тых сельячэек, дзе немагчыма організаваць стацыянарныя школы, школы-аднаднёўкі і ўдарныя дні вучобы для шырокіх колгасных мас і рабочых МТС і саўгасаў па бягучых політычных кампаніях, скарыстоўваючы іх для вярбоўкі слухачоў у стацыянарную сетку партасьветы і, урэшце, гурткі бягучай політыкі.

Сярэднім зьвяном партасьветы на вёсцы павінны зьяўляцца базавыя ВСПШ з 2-гадовым тэрмінам навучаньня, якія організуюцца ў раённым цэнтры і пры некаторых найбольш буйных сельпарткомах, дзе маюцца адпаведныя пропагандысцкія сілы. Пры раённых ВСПШ павінны концэнтравацца ўсе кароткатэрміновыя віды навучаньня (курсы, зьезды, 3-дзёнкі і 10-дзёнкі актыву і г. д.).

Базавая ВСПШ павінна шчыльна ўвязаць сваю работу з партгабінэтамі. ВСПШ на вёсцы працуе па тых самых програмах, што і ў горадзе за выключэньнем элемэнтаў спэцыялізацыі, якія паданы ў наступных падручніках: „Соцыялістычная рэконструкцыя сельскае гаспадаркі“ — Нікіліхіна і „Экономіка сельскае гаспадаркі“: насенных садова-гародных, тэхнічных культур, жывёлагадоўлі ў залежнасьці ад гаспадарчых асаблівасьцяй раёну.

ЦК КП(б)Б прапануе організаваць пры сельпарткомах партшколы для сельпартактыву з 1-гадовым тэрмінам навучаньня па програме 1-га курсу ВСПШ. Для сельпарткомаў, дзе немагчыма організацыя гурткоў і для ячэек, не ўваходзячых у склад сельпарткомаў, з 1-га кастрычніка г. г. неабходна разгарнуць перасовачныя курсы партактыву, разьлічаныя на 2-месячны тэрмін навучаньня ў кожным пункце, навучальныя пляны, якія будуюцца на матар'ялах бягучай політыкі і вывучэньні асобных проблем соцыялістычнага будаўніцтва. Курсы павінны праводзіцца пры сельпарткомах, буйных саўгасах, колгасах і МТС. У якасьці кароткатэрміновых форм вучобы актыву неабходна ўжываць 12—20-дзённыя міжраённыя курсы па вывучэньні асобных проблем соцыялістычнага будаўніцтва і падрыхтоўцы для правядзеньня гаспадарча-політычных кампаній.

Вышэйшым зьвяном партыйнай асьветы ў вёсцы зьяўляецца завочны і дэкадны комвуз і завочная СПШ.

ЦК КП(б)Б прапануе абгаварыць задачы падрыхтоўкі да новага навучальнага году ў сетцы партасьветы на Бюро ГК і РК, на шырокіх нарадах партактыву і на сходах колектываў ячэек КП(б)Б, мобілізуючы ўвагу ўсёй парторганізацыі навокал гэтай важнейшай справы.

Неабходна разгарнуць не пазьней 15 жніўня работу па ўкомплектаваньні сеткі партасьветы, праводзячы вярбоўку ў партсетку партыйцаў, комсамольцаў і беспартыйнага рабоча-колгаснага актыву, давёўшы склад беспартыйных у сетцы партасьветы ад 30 да 60%. Парторганізацыі неабходна дабіцца ня менш 20—25% жанчын у складзе слухачоў партсеткі. Неабходна скарыстаць такія мэтоды, як вылучэньне брыгад-організатараў партасьветы, організацыю культэстафэт па парт-

асьвеце, грамадзкага буксіру, соцспаборніцтва паміж асобнымі ячэйкамі на лепшую падрыхтоўку да новага навучальнага году і ўкомплектаваньня сеткі. На падрыхтоўку да новага навучальнага году павінны быць максымальна скарыстаны мясцовы, раённы і цэнтральны друк і рабселькораўскія масы.

Пры разгортваньні кампаніі падрыхтоўкі да навучальнага году неабходна шырока папулярызаваць вытворчы прынцып пабудовы сеткі, бесьперапыннасьць комплектаваньня і працы сеткі партасьветы і дабраахвотнасьці выбару форм вучобы. (Абавязковым навучэньне ў ППШ зьяўляецца толькі для кандыдатаў КП(б)Б).

Уся работа павінна быць разьлічана на 100% ахоп парторганізацыі марксыцка-ленінскай вучобай.

Для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў і якасьці работы сеткі партасьветы гарадзкім і раённым парторганізацыям неабходна ўстанавіць сыстэматычнае парткіраўніцтва партыйнай сеткай, організуючы сталыя нагляды, конкурсы на лепшую школу, гурткі, політбаі паміж асобнымі адзінкамі, удзяліўшы асаблівую ўвагу ідэолёгічнай вытрыманасьці партвучобы.

Падрыхтоўчую работу да навучальнага году трэба ўвязаць з прапрацоўкай пытаньня аб устанаўленьні шчыльнай сувязі паміж навучальнай працай гурткоў з практычнай і грамадзка-політычнай працай парторганізацыі, памятуючы, што „тэорыя становіцца беспрадметнай“, калі яна ня зьвязана з рэволюцыйнай практыкай, таксама як і „практыка становіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе шлях рэволюцыйнай тэорыяй“ (Сталін).

Неабходна разгарнуць соцспаборніцтва ў школах і гуртках і паміж асобнымі слухачамі на пасьпяховае выкананьне вытворчых плянаў, пашырэньне ўдарнага руху, лепшы ўдзел у колгасным руху, на лепшае абслугоўваньне масавай работай грамадзка-політычных кампаній, на вярбоўку ў партыю ўдарнікаў прадпрыемстваў. Сетка партасьветы павінна дапамагчы парторганізацыям змагацца за ўвядзеньне зьдзельшчыны, супроць ураўнілаўкі, абязьлічкі і г. д.

Баявым лёзунгам кампаніі па разгортваньні партасьветы павінен быць „кожны ўдарнік — актыўны слухач сеткі партасьветы, кожны слухач сеткі партасьветы — ударнік на вытворчасьці“.

ЦК КП(б)Б у дадатак да даных ім дырэктыў яшчэ раз звярачае асаблівую ўвагу ГК і РК на неабходнасьць прыстасаваньня работы ўсёй сеткі партасьветы да задач спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі, вывучэньня конкрэтнай экономікі раёну.

Сетка партасьветы павінна павярнуцца тварам да аўладаньня тэхнікай. Тэхнічны мінімум на вытворчасьці, агра-і зоомінімум у сельскай гаспадарцы, якія прадугледжваюцца програмамі партасьветы, павінны быць пастаўлены ў сетцы партасьветы на адпаведную вышыню. У якасьці прапагандыстаў па тэхніцы павінны быць скарыстаны спэцыялісты, комуністы-майстры і рабочыя-прапагандысты.

Задача падбору і падрыхтоўкі кваліфікаваных і партыйна вытрыманых пропкадраў для сеткі партасьветы павінна быць у цэнтры ўвагі парторганізацыі.

У тых раёнах, дзе курсы прапагандыстаў яшчэ не праведзены, неабходна іх правесьці з такім разьлікам, каб скончыць курсы ў горадзе не пазьней 15-га верасьня, а ў вёсцы не пазьней 15-га кастрычніка, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падрыхтоўку і перападрыхтоўку рабочых-прапагандыстаў.

У мэтах забесьпячэньня сеткі партасьветы падручнікамі і навучальнымі дапаможнікамі ЦК прапануе ГК і РК зараз-жа зрабіць заяўку ў БДВ і ГІЗ РСФСР на патрэбную колькасьць праграм і падручнікаў, скарыстоўваючы для гэтай мэты грашовыя сродкі з каштарысу партасьветы апошняга кварталу бягучага гаспадарчага году.

У мэтах устанаўленьня сыстэматычнага праграмна-мэтодычнага кіраўніцтва партасьветай ЦК КП(б)Б рэкомэндуе арганізаваць мэтодбюро пры дамох партасьветы і райгабінэтах, увёўшы ў іх склад найбольш кваліфікаваныя прапагандысцкія сілы.

Адзначаючы недаацэнку з боку раду парторганізацый партыйнай асьветы на мовах нацменшасьцяй, ЦК КП(б)Б прапануе забясьпечыць у новым навучальным годзе арганізацыю неабходнай колькасьці школ і гурткоў на яўрэйскай, польскай і інш. мовах, забясьпечыўшы іх адпаведнымі падручнікамі і пропкадрамі.

У пачатку верасьня інформуйце Культпроп ЦК КП(б)Б аб праведзенай рабоце па разгортваньні новага навучальнага году ў сетцы партасьветы.

За Сакратара ЦК КП(б)Б *Гантман.*

Заг. Культпропам ЦК КП(б)Б *Чарнушэвіч.*

---





Менск. Друкарня БАН. Галоўлітбел № 356. Заказ № 3530. Тыраж 2940 экз. 5½ арк.

## Зьмест